**Раіса Баравікова**

# Вячэра манекенаў

*Апавяданні*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2002

УДК 821.161.3-31
ББК 84(4 Беи)-44 Б 24



**З М Е СТ**

# ГАЛЬШАНСКІ ТРОХКУТНІК

Да пяцідзесяцігадовага юбілею прафесара Пінчука рыхтаваліся ўсёй нашай кафедрай радыётэхнічных сістэм. І вось на табе, лічы, ніякага юбілею не адбылося. Невялікай кампаніяй сядзім у прафесарскай кватэры, і стравы на стале не надта каб, і настрой, адпаведна, не на вышыні, ды і сам прафесар... Не тое каб нечым прыгнечаны, але не такі, якім прывыклі мы яго бачыць. Як кажуць, бы не ў сваёй талерцы. Праўда, усё на свеце нашым грэшным можна вытлумачыць, ва ўсялякім выпадку, многае. І прафесарскі настрой таксама паддаецца тлумачэнню. Жонка, Кацярына Пятроўна, за некалькі дзён да юбілею трапіла ў бальніцу, нейкі надзвычай моцны нервовы стрэс. Ужо дарослыя дзеці, сын і дачка, раптоўна некуды з'ехалі. І застаўся наш Пінчук адзін у гэтай даволі сціплай кватэры і з яшчэ больш сціплым юбілейным сталом. Вядома, мы, ягоныя супрацоўнікі, разлічвалі на рэстаран, а Пінчук, як цяпер выявілася, увогуле не збіраўся рабіць застолля, прымаць віншаванні і ўсё астатняе...

— Ды кінь ты, Адам Нічыпаравіч, ці ж табе зашкодзіць наш «Браўн»,— у нейкі момант сказаў мой муж.— Ты ж во, падобна, галіцца развучыўся, увесь твар падрапаны.

І ўсе, хто сядзеў за сталом, а нас было некалькі сямейных пар, засмяяліся. Прафесарскі твар чырванеў глыбокімі драпінамі, якія тойсёй у думках імгненна звязаў з нервовым стрэсам ягонай жонкі. Ці не падрапала гэта прафесара шаноўная Кацярына Пятроўна? Пінчук жа памацаў драгііны і сказаў задумліва:

— Не, Павел... Галіцца я не развучыўся і пра браўнаўскую электрабрытву даўно марыў дзякуй табе. А вось гэта...— ён усё не адводзіў руку ад твару.— След адной нядаўняй начы.

Ага-а... Мой Паша падміргнуў дацэнту Кумковічу:

— Дык ты, Адам Нічыпаравіч, аказваецца, укруціўся ў нейкія далікатныя начныя прыгоды!

— Якія абярнуліся выключным недалікацтвам,— ажно папярхнуўся тонкім фальцэтам аспірант Глушэц, якійсьці далёкі сваяк прафесара.

Узнікла паўза. Сам жа Адам Нічыпаравіч ніяк не адрэагаваў на гэты фальцэт, зноў задумаўся, потым паглядзеў на Глушца.

— Ты, Віця, у свайго сябрука Косці Пракопчыка папытайся. Ён табе раскажа і пра мае драпіны, і яшчэ пра тое-сёе. Адным словам, даўся мне гэты твой Пракопчык!

— Чаму мой? — жыва адазваўся Глушэц.— Ён жа ваш аспірант! Вы ж не са мною, з ім насіцеся, вось і ўлезлі некуды! І калі ўжо

ўсчалася такая гаворка, калі заінтрыгавалі ўсіх нас сваімі драпінамі, дык і расказалі б... Пракопчык у Гальшанах сваіх сядзіць, а вы тут!

— Сапраўды, дзякуй Богу, я тут,— неяк разгублена сказаў прафесар і потым нечакана ахвотна, нібы толькі чакаў гэтага моманту, без перадыху пачаў расказваць, што ў іх здарылася з Пракопчыкам, і мы не паверылі ніводнаму ягонаму слову. Ва ўсялякім выпадку, паверыць у пачутае было немагчыма, хоць прафесар расказваў вельмі праўдзіва.

— Пракопчык не даваў мне спакою дзесьці з год,— пачаў Адам Нічыпаравіч,— Ён, ці бачыце, анамалію пад Гальшанамі адкрыў! Штосьці накшталт Бермудскага трохкутніка ці яшчэ якога д'ябла! Адным словам, выявіў ён там анамальны паветраны слуп, у якім няма нічога... Выключна нічога! Гіпермёртвая зона. Гола, пуста, ніякіх табе электрамагнітных хваляў... Пракопчык і так і гэтак да мяне падступаўся. Усе пераконваў, запрашаў паехаць у Гальшаны, на свае вочы ўбачыць, што да чаго. І вось з тыдзень таму я здаўся! Падумаў а чаму б і не? Такая слынная мясціна на Беларусі. У адкрыццё Пракопчыкава, вядома, не надта верыў, а вось Караткевіча чытаў. Запомніўся ягоны «Чорны замак Альшанскі», ды і ўвогуле Пракопчык усяляк тымі мясцінамі выхваляўся. Маўляў там і славуты касцёл Іаана Хрысціцеля, і кляштар францысканцаў, і мясцовы музей. А што да наваколля, дык мала таго, што ўсё гісторыяй, старажытнасцю дыхае, дык яшчэ, каб толькі талент, што ні паваротка, што ні лугавіна, бяры пэндзаль і малюй... А галоўнае, тая ж анамалія, адным словам, добрая зачэпка. І Пракопчыка, думаю, уважу, і адпачну колькі дзён, а пасля ўжо ўкручуся ў юбілейныя клопаты.

Я чалавек на пад'ём лёгкі. Як вырашыў, гэтак і зрабіў. Да Гальшанаў дабірацца няцяжка, наваг не тэлефанаваў Пракопчыку, як снег на галаву абрынуўся, на вялікую радасць апошняму. І вось ужо сядзім на верандзе ў хаце ягоных бацькоў на Ашмянскім тракце... Маці, такая мілая гаспадыня, завіхаецца; бацька, як той спраўны шляхціц, на размовы сур'ёзныя паварочвае, а Пракопчык ажно з сябе выходзіць. Ужо нейкія там грунтвагі падрыхтаваў і прыспешвае, маўляў мы за гэты стол як мае быць вечарам засядзем, а цяпер хутчэй пойдзем! Ну і пайшлі...

— Даверлівы вы чалавек, спадар прафесар,— скептычна паморшчыўся маладшы навуковы супрацоўнік Няхайчык.—Ды калі б і сапраўды якая анамалія... Няўжо б стагоддзі нейкага там аспіранта Пракопчыка чакалі?! Ужо ўсё даўно было б адкрыта, выяўлена і не адна дысертацыя на той анамаліі абаронена!

— Э-э, не скажыце,— запярэчыў Пінчук,— Там сапраўды штосьці ёсць, загадка вялікая. Гэта яшчэ трэба даследаваць, але цяпер гаворка зусім пра іншае, усё павярнулася такім неверагодным чынам...— Ён глынуў мінералкі, пасміхнуўся не без іроніі,— Карцінка была маляўнічая, уявіце, я даўгалыгі, а Пракопчык кругленькі. Ён на плячах кавалак фанеры цягне, да калка прыбіты: «Гальшанскі трохкутнік». Кажу яму: «Косця, не прымушай людзей азірацца, а то яшчэ следам хто пойдзе». Праўда, за намі ніхто не пайшоў а вось калі ўжо спусціліся ў нізінку, пакінуўшы за сабою і замак той самы Гальшанскі, і рэчку Гальшанку...

— Ну, а ў замку вы былі, Адам Нічыпаравіч? — пацікавілася дацэнтава жонка.

— Калі ж было паспець? Ды і ад замка там амаль нічога не засталося. Вядома, можна было пахадзіць па руінах, але потым ужо было не да гэтага. Хацелася як мага хутчэй выбрацца з тых Гальшанаў — вось як усё склалася... Дык, значыцца, убівае ў зямлю калок з фанерай Пракопчык, а тут дзядзька да нас падыходзіць, пастух вясковы, і статак яго блізенька.

«Гэ-эй, Косцік,— кажа,— руку хачу паціснуць прыезджаму чалавеку»,— а сам на фанеру касавурыцца. Пракопчык, вядома, нас пазнаёміў і тут жа такое распавёў, што я анямеў. Маўляў, хутка нашыя Гальшаны на ўвесь свет праслвяцца! Як пра тыя Бермуды гаварыць і пісаць паўсюль будуць, таму што, па ягоных прыкідках, неверагодна, але факт, у нейкай пакуль невядомай кропцы адбылося скрыўленне прасторы і часу. Іначай, назіраецца той самы прасторава-часавы кантынуум, згорнуты ў стужку Мёбіуса. Во як загнуў! Я быў ашаломлены, а дзядзька нічога сабе, нібыта ён усё жыццё адно што пра стужку Мёбіуса і чуў, толькі сказаў:

— Ты мне, Косцік, прасцей растлумач, што да чаго.

Але Пракопчык нічога не стаў тлумачыць:

— Дзядзька Антон, я ўсё сказаў: анамалія! Дык мо якія выпадкі ў наваколлі надараліся?! Што-небудзь незвычайнае. Ну, скажам, штосьці ўзяло і знікла, бы ў ваду боўтнула, з канцамі! Ці, наадварот, з'явілася... Дзіва якое было.

Дзядзька Антон падумаў а потым і сказаў сур'ёзна:

— Анамалію помню. Гадоў шэсць таму назад карова Хведарчукова прапала. Якраз во тут, адбілася ад статка, і не знайшлі! Хведарчук тады ўсё шкадаваў, што не застрахаваў кароўку!

Мой Пракопчык ажно падскочыў:

— Ну, вось бачыце, Адам Нічыпаравіч, было! Карова знікла... У Бермудскім трохкушіку караблі знікаюць, а тут тое, што ёсць. Наш жа трохкутнік на сушы.

Я не вытрымаў, узарваўся, маўляў, толькі не трэба зводзіць усё гэта да глупства. Барані божа, дойдзе якая чутка да Мінска, нас жа навуковы свет проста высмее. Анекдоты ўсялякія пойдуць, смяхоцце, дый толькі! І дзядзька ўзяў мой бок. «Выкінь ты,— кажа,— Косцік, сваю фанеру ў Гальшанку, а чалавеку лепш пра што сур'ёзнае раскажы. Мясціны ў нас цікавыя, ну хоць бы той самы замак..» І прысеў дзядзька Антон на купіну, раз-пораз пазіраючы ў бок статка, каб не адбілася часам якая карова. Мы таксама прыселі. Дзядзька Антон пачаставаўся цыгарэтай, якую я прапанаваў яму.

— Вучоных людзей паважаю,— сказаў— Сюды многія даўно ўжо прыязджаюць. Я не далей як учора гісторыку аднаму расказваў і вам раскажу. Калісьці ад старых людзей сам чуў. Вунь,— паказаў на рэшткі замка,— разваліны, заняпад. А пачалося здавён. Князь Сапега тут гаспадарыў, ягоны палац быў. Дык, значыцца, будавалі гэты мур, ужо ледзь не да канца дайшлі, а князь тэрмін пэўны вызначыў І тут раптам сцяна адна пачала бурыцца. Абвальваецца, рады ніхто не можа даць, як ні стараюцца муляры ды тынкоўшчыкі. Але вось старац нейкі аб'явіўся дый кажа таму майстраваму люду: «Мне знаменне было. Сцяна будзе абвальвацца, пакуль ахвяры не атрымае». І патлумачыў, што трэба некага забіць, і найлепш жанчыну, ды і ўмураваць яе пад сцяну. Задумаліся майстры і вырашылі, што іншага выйсця няма, хай будзе так, як падказаў старац, калі ўжо знаменне было. І пачалі ламаць галаву, хто ж гэта можа быць, якая жанчына? Няпроста божаму чалавеку ўзяць на сябе такі грэх. І зноў падказаў той старац: маўляў, чыя жонка першая прынясе заутра полудзень, тую і заб'яце. І вось назаўтра прыходзіць тая першая, маладзенькая ды прыгожая, жонка самага маладога муляра... Ат, што адбылося далей, і расказваць не хочацца. Адным словам, яе і ўмуравалі. Сцяну залагодзілі, толькі ж не было вялікага шчасця ў гэтым муры нікому. Ды і сам род Сапегаў звёўся.— І ўжо праз паўзу дзядзька звярнуўся да мяне: — Бачу, не да душы вам прыйшлося маё паданне.

— Якое ўжо ёсць,— адказаў я яму.

На тым і разышліся. Пастух пайшоў да свайго статка, але, відаць, ягоны расповед надта ўразіў Пракопчыка, таму што той раптам прапанаваў

— А што, Нічыпаравіч, можа, пройдземся да замка?

Не, кажу, Косця, гэты шпацыр давай адкладзем на заўтра. Ты бяры сваю фанеру, каб выпадковых людзей не палохала, і вяртайся

дамоў а я трошкі тут адзін пабуду. Даўно не быў на прыродзе. Берагам Гальшанкі прайдуся, думкі свае да ладу прывяду. І Пракопчык пагадзіўся. Ён у адзін бок пайшоў я — у другі. І тут такая стома ўзяла мяне, ну проста з ног валюся. Бачу валун наперадзе, дай, думаю, прысяду, а там ужо і да берага Гальшанкі павярну. Сеў. Штосьці хруснула пад нагою, нахіліўся, пачаў расхінаць траву... Ці паверыце, калі падняў позірк, стала не па сабе. Прыцемак ужо бярэцца, падумалася, а толькі ж во спякота была, сонца ледзь за поўдзень перавальвала.

— Відаць, добра задрамаў ты, прафесар, на тым валуне,— нязвыкла нервова рагатнуў дацэнт Кумковіч.

— Во-во... І я так спачатку быў падумаў,— заківаў Пінчук.— Але сну ў мяне не было ні на момант. Падымаюся з валуна, гляджу тудысюды... Недалёка статак павінен быць, бо як ішоў да валуна, дзядзьку Антона бачыў. І раптам — нічога! Шэрасць суцэльная, ды такая вязкая, густая. І не цёмна як быццам, а воку няма за што зачапіцца. Наваколле як праваліласа ў гэтую шэрасць, усё роўна бы свет белы схаваўся ў ей. Толькі туман ад Гальшанкі клубамі плыве, па зямлі сцелецца... З гэтага туману і выйшла яна.

— Хто «яна», спадар прафесар? — тут ужо не ўцярпела я.

— Не ведаю... Не назвалася,— адказаў Пінчук — Жанчына, адным словам,— і ён праглынуў гарачае хваляванне, нейкую надзвычай глыбокую ўзбуджанасць. А потым працягваў: — Ага-а, жанчына... І гэта цяпер я магу зрабіць выснову, што ўсё ў ёй было нязвыклае, не нашае, не тутэйшае, нават зрэдку словы пракідаліся мне цалкам незразумелыя, а тады... Там, ля Гальшанкі, я быў як аслеплены, такая ў яе была прыгажосць. Выключна дзёрзкая, прыцягальная. Яна аглушала, зацьміла розум.

— Туды не ідзі, вежа[1] надта густая,— сказала яна мне і апусцілася на траву за крок ад мяне. Рукамі аб зямлю абаперлася, галаву трошкі адкінула, тонкая шыя выгнулася, нейкі шнурочак на ёй вымалеваўся. Танюткі белы строй абцягваў постаць, маленькія грудзі злёгку ўздрыгвалі... Цёмныя валасы расплыліся па траве.

— Гаворку вашу там,— калыхнула валасамі,— чула,— і дадала: — Праўды ў нагах няма...— і так поклічна засмяялася, як можа смяяцца палкая, гарачая жанчына. Вядома, я сеў побач.

— Хм-м, як жа ты магла чуць нашую гаворку? — у сваю чаргу кажу ёй — Хіба што толькі ў траве ляжала, схаваўшыся?

[1] Туман (старабел).

— Гэта не твая фатыкга[1],— сказала, бы адрэзала, яна,— А тое, пра што расказваў пастух, і папраўдзе было. Толькі ён шмат што пераблытаў Багдан Сапега праз чатырыста летаў тут з'явіўся, а тое ўсё было за Гольшам. Як пачаў ён горад тут гарадзіць, дык многа люду сюды з ім прыйшло. Мур сапраўды ўжо завяршалі, тады і адбыўся той трафунак[2]. Каб Гольша на месцы быў, нічога б не здарылася. Ды бязэцнік[3] той ліха ўсчаў. А калі ўжо вярнуўся Гольша і дазнаўся пра ўсё, дык і не схацеў гэтага мура. На ловы за Карабель у пушчу паехаў, там і асеў.

«Навукоўка, з гісторыяй справу мае»,— мільганула у мяне думка, а ўголас сказаў

— Дасведчаная ты. Я вось дык і не ведаю, пра якога Гольшу ты мне тут расказваеш, хоць здагадваюся. Гольша... Гальшаны... Дык, кажаш, горад ён тут гарадзіў? — засмяяўся я, а сам трымчу ўвесь. Яна мяне надзвычай хвалюе.

— Ага-а, ягоны горад,— жвава адгукнулася яна.

— Ну, а як ты гэта сказала — бязэцнік? Той, што тут рабіў?

— Не тут, а ў Уцені. Як толькі бязэцнік Даўмонт гвалтам узяў за сябе братавую, Нарымонтаву ліфляндку, Нарымонт і склікаў усіх астатніх братоў — і Гедруса, і Трайдэна, і Гольшу, вядома, каб вярнуць сваю жонку назад, адабраць яе ў Даўмонта. Якраз тады і пачаўся абвал сцяны...

— Цікавыя рэчы расказваеш, я паўжыцця пражыў, і такі цёмны, выходзіць.

— Ой, фартэліш[4],— задумалася — А мо і праўда нічога не ведаеш... Калі Гольша ад'язджаў, шмат каму спляндорыкі[5] раздаў, амулеткі металёвыя ў выглядзе сякеркі, каб без яго тыя сякеркі бяду адварочвалі. А выйшла наадварот усё. Юрачка сякераю бараніўся, але аднік[6], улучыўшы моманг, выхапіў яе. На астатняе Сляпко падбухторыў. Потым галаву, адсечаную, Юрачку кінулі: «Трымай, міloснік!» — і яна бы захліпнулася і праз нейкае імгненне дадала: — Тадыг такая самая поўня была. Днём пабаяліся ўчыняць тое. Начы дачакаліся.

— Адкуль ты ведаеш, якая поўня тады была?

Але мяне не цікавіла агністае вока начнога неба.

---

[1] Не твой клопат (старабел.).
[2] Выпадак (старабел.).
[3] Распуснік (старабел.).
[4] Хітрыш (старабел).
[5] Упрыгожанні (старабел.).
[6] Грэшнік (старабел).

Рука міжволі пацягнулася да цёплага ейнага цела, заблыталася ў густых валасах... І яна рванулася, выгнулася, што лазіна, ускочыла, шнурочак на шыі абарваўся, зачапіўшыся за маю руку. Штосьці халоднае кранула далонь, і я зацісную шнурочак у кулаку. А яе ўжо не было побач. Я таксама ўсхапіўся, каб кінуцца ўслед, за ёю. Ускочыў і ўсё пашэрхла ў мяне. Зводдаль, на ўзвышшы ўздымалася змрочная аграмадзіна замка з вежамі, з байніцамі, абнесеная зубчастай сцяною. Поўня асвятляла яго, і ён выразна паўставаў перада мною ва ўсёй сваей велічы і магутнасці. Высозную браму таксама завяршала вежа. Перад брамаю зрок выхапіў масток, і па гэтым мастку ішлі людзі з паходнямі. Святло ад паходняў гуляла на зубчастай сцяне і асвятляла лугавіну. Там мільгала белая лёгкая постаць, раз-пораз азіраючыся, і, далібог, чуў я залівісты смех, да якога праз нейкі момант далучыўся яшчэ адзін гук — глухі конскі тупат. З супрацьлеглага ад замка боку, ад нечага цёмнага, у чым я адразу пазнаў лес, гэтак блізка ён быў ад мяне (скуль тут і ўзяўся), на кані імчаў вершнік — наперарэз белай постаці. Яна штосьці закрычала яму, і вершнік змяніў накірунак, павярнуў у мой бок. Спрацаваў адвечны інстынкт. Я кінуўся да выратавальнага лесу, і мне ўдалося нырнуць у гушчэчу...

Колькі я бег, не ведаю. Ламалася суччa, голле здзірала скуру, а я, дзе і браліся сілы, бег і бег... Наперадзе ўбачыў прагал. Рынуўся да яго, бег ужо па прагале. І раптам, дайце веры, бы з трубы якой вынырнуў — у вочы ўдарыла святло. Проста перада мною ляжаць Гальшаны. Божа мой літасцівы! Ледзь-ледзь бярэцца на адвячорак, але сонца ўжо за хатамі. Зусім недалёка нейкая цётка заняла і гоніць чародку гусей. Гусакі выгінаюць шыі... Такі звыклы вясковы малюнак. Я ажно задыхнуўся, а ногі ўжо не трымалі. Упаў у траву, ашаломлены і знясілены да крайнасці. Колькі праляжаў, як пасля дабіраўся да Пракопчыкавай сядзібы — не памятаю. Адно помніцца крык ягонай маці, калі зайшоў у хату:

— Або!.. Хто ж гэта вас, Адам Нічыпаравіч?! Пабілі... Ды зірніце ж вы ў люстэрка! Я зараз ёду прынясу.

І я пайшоў да люстэрка, якое вісела на сцяне. Зірнуў, твар сапраўды ўвесь скрываўлены, гэта так сучча скуру ў мяне паздзірала. А люстэрка раптам бы хіснулася, і ўбачыў у ім я яе... Сядзіць, далібог жа, на той самай купіне, дзе сядзеў удзень дзядзька Антон, схілілася, спражку на лёгкай сандалетцы зашпільвае, ды так, бы какетуе з кімсьці. А потым падняла галаву, не паверыце, позіркі нашыя сустрэліся... І адкінулася яна ўся, як тады ля Гальшанкі, той не на гэтым свеце ноччу, выгнулася, валасы наўкола траву ўсю ўслалі, а позірку ад майго не адрывае, толькі смяяцца пачала, адно што не чуў гэтага

ейнага смеху... Адвярнуўся я ад люстэрка І... ледзь раніцы дачакаўся. На досвітку, нікому нічога не кажучы, толькі Пракопчыка папрасіў правесці да прыпынку, і — у Мінск! — Абвёў ён усіх нас доўгім позіркам, памаўчаў уздыхнуў цяжка,— Вось вам і стужка Мёбіуса!

Настала працяглая паўза, якую парушыў сваім фальцэтам Глушэц:

— Зусім не юбілейную гісторыю вы тут нам расказалі, прафесар!

А Пінчук палез у кішэню, штосьці выцягнуў з яе, павярнуўся да ўсіх:

— Ну вось і шнурочак той, што быў у яе на шыі. І на шнурочку амулетка ў выглядзе сякеркі. Можаце паглядзець.

На яго далані паблісквала маленечкая металёвая сякерка. Мы ўсе пацягнуліся позіркамі да яе, але ў рукі тую сякерку ніхто не ўзяў, адно дацэнт Кумковіч мармытнуў:

— А ці не абрабаваў ты часам тамтэйшы мясцовы музей, шаноўны Адам Нічыпаравіч!

Ды на гэтую яго спробу пажартаваць ніхто ніяк не адрэагаваў. Паспешліва прамовілі яшчэ некалькі тостаў за здароўе прафесара і разышліся, кожны пры сваіх думках.

Вось і мы з Пашам... Ужо падыходзілі да свайго пад'езда.

— Давай трошкі пасядзім на лавачцы,— прапанаваў Паша.— Не хочацца ў кватэры дыміць перад сном.— Выцягнуў з пачка цыгарэту і засмяяўся,— Гэта ж трэба, якія дзікія фантазіі могуць прыйсці ў галаву чалавеку ў пяцьдзесят гадоў! А яшчэ ж як быццам і не ўзрост, каб у такую неверагоднасць укідвацца!

І я адказала яму:

— А ты заўважыў, што ў прафесарскай кватэры няма аніводнага люстэрка?!

1998

# ВЯЧЭРА МАНЕКЕНАЎ

Шыпшыннік пачынаўся адразу ад паваленага і ўрослага ў сакавітае разнатраўе плота, і Вольга спынілася, зразумеўшы, што тут, з гэтага боку, дзе калісьці была сцежка, абсаджаная ружовымі астрамі ды агністымі настуркамі, ёй не прабрацца да дома. Але шыпшыннік раптам перарваўся, адкрыўшы счарнелы, патрэсканы вугал дома. І яна, на момант затрымаўшыся, рынулася ў гэты, нібыта створаны спецыяльна для яе, лаз і спынілася толькі тады, калі позіркам уперлася ў ганак, дакладней, у тое, што засталося ад яго,— груд патрушчанай цэглы, спрэс зарослы павітухай. А калісьці ж было ажно сем прыступак. Яна ўмомант уявіла гэтыя прыступкі, потым дзверы на веранду. Іх цяпер не было, і ў цёмным дзвярным праёме яна пабачыла свой веласіпед, нібы толькі ўчора прыткнула яго да сцяны на верандзе. Ад нясцерпнага пачуцця нейкага даўняга болю, які ніяк не хацеў яе пакідаць, прыкусіла ніжнюю губу. Зрабілася душна, хоць спёкі яна не адчувала. Проста не заўважала яе, як і нейкай незямной, поўнай цяжкога водару разамлеласці наўкол. «Трэба ўзабрацца на цагляны грудок, і тады можна лёгка ўскочыць у гэты цёмны праём»,— падумала Вольга, не адрываючы вачэй ад веласіпеда,— як ён і ацалеў тут! Цэгла пад нагою абвалілася, і яна ўся сцялася, застыла ад нечаканасці...

— Прыехала?! Я ведала, што ты некалі з'явішся сюды.

Колькі б ні мінала часу, у любы момант дня і начы, сярод мноства іншых галасоў яна пазнала б гэты голас, але ці магчыма такое? І зараз жа пачула ў адказ:

— Магчыма!

Вольга затаіла дыханне, разгублена азірнулася, позіркам пацягнулася да сланечніку, да шыпшынніку ззаду, нібыта шукала тое месца, адкуль ішоў голас, і вусны выдыхнулі неўразумелае:

— Ма-а?

— Ну што — ма-а? Ногі збіла. Не маглі бліжэй да шлагбаума падвезці? Абы сто даляраў узяць! Няхай сабе гэтае месца цяпер зона, але ж наўкол шмат прасёлкавых дарог. Людзі тут, бывае, шныраюць...

Маці, відавочна, была раззлаваная тым, што Вольгу не давезлі бліжэй да шлагбаума ці нават не падкінулі ў самую зону. Але Вольгу палохала не гэтая злаславая інтанацыя, а сам такі неверагодны факт існавання тут матчынага голасу. Лёгкая маечка пад вятроўкаю зрабілася вогкай. Вольга адчула, як пад самым сэрцам заварушыўся халадок страху.

— Ма-а? — Яна ўсё азіралася і азіралася, нібы там, за кустамі, за разамлелымі дрэвамі, хтосьці нябачны ўсё цікаваў і цікаваў за ёю.— Насланнё нейкае! — сказала гучна, каб крыху падбадзёрыць сябе.— Два гады, як ты памерла ў Чыкага. Ты пахавана там. Мы з містэрам Алексам яшчэ тыдзень таму назад стаялі каля тваёй надмагільнай пліты...

— Ну і што з таго, што пахавана ў Чыкага? Я заўсёды імкнулася сюды, ад самага першага моманту. Гэта адчула ўжо ў Шэнане, калі высаджваліся на гадзіну, яшчэ не даляцеўшы да Амерыкі.

— Чаго ж тады ляцела?

— Ратавала цябе! Ага-а, ратавала... Ад радыяцыі! Усе ратаваліся... Тады шмат каго адсялялі. Хто ў Гомель, хто ў Мінск, хто яшчэ куды ехаў. А я як мага далей... З'явілася такая магчымасць, я і скарыстала яе.

— Ты ўцякала ад бацькі,— запярэчыла Вольга.

— І гэта таксама было. Калі б не Алекс... Сама ведаеш! Яму было ўсё роўна, колькі ў мяне цыцак дзве ці адна!

— Ма-а... Містэру Алексу было семдзесят, а табе сорак тры!

— Няхай, я ўсё роўна была шчаслівая. А ты з Ранам? — і праз паўзу: — Ну, раскажы мне, што ў вас там?

Ран... Вольга хацела сказаць: «У нас усё нармальна! Ран паранейшаму ганяе аўтамабілі з Чыкага ў Мілуокі», але замест гэтага адказала, заціскаючы ў сабе страх:

— Ма-а, ты пахавана ў Чыкага. Тут не можа гучаць твой голас, як не можа ён гучаць і ў любым іншым месцы. Гэта ўсё мае думкі, мае ўяўленне. Пра каго ж мне тут думаць, як не пра цябе? — і яна зноў асцярожна азірнулася — аднекуль жа ідзе гэты голас!.. І загаварыла, як мага больш развaжліва: — Вунь ля бэзу ляжыць мой мяч. Я помню, як ты мне прывезла яго з Хойнікаў, яшчэ калі жылі на цэнтральнай сядзібе. Потым ён валяўся ў кладоўцы ўжо ў гэтым доме, і нехта выкінуў яго сюды. Ён ужо не такі ружовы.

— Во-о як! Перакінулася на мячык,— незадаволена адгукнулася маці,— А мне цікава пачуць, як у вас усё складваецца?

Вольга марудзіла з адказам. У галаве ўвесь час круцілася думка, ці не звар'яцела яна: самым натуральным чынам ужо колькі хвілін размаўляе з памерлай маці.

— Ну, дык што Ран?

І Вольга загаварыла:

— Ён быў супраць, не хацеў, каб я ехала сюды. А ўсё пачалося ў чэрвені. Ран нагледзеў возера Brown Lake. Гэта недзе паміж Чыкага і Мілуокі. Мы ехалі туды, і Ран мне расказваў пра штат Вісконсін.

Brown Lake ў гэтым штаце. «Вісконсін — самы малочны штат,— казаў ён— Тут вырабляюць славуты вісконсінскі сыр». А я глядзела на кукурузныя палеткі, на ўпадзіны і пагоркі... Мільгалі фермы, невялікія статкі ля іх. І мне ўвесь час хацелася плакаць. Даўно-даўно, а я помню, ма-а... Я вельмі добра помню. Я была ў такіх беленькіх сандаліках. Бацька вёз мяне ў Гомель... Тады па дарозе таксама мільгалі пагоркі і статкі.

— Пра бацьку не трэба,— абарвала яе маці,— Прыехала дык прыехала. Мы занадта доўга гаворым, а я тут строю вячэру.

— Вячэру? — Вольга здзіўлена зірнула на гадзіннік.

— Гэта ў нас тут вячэра,— удакладніла маці.

Вольга пацерла скроні, абхапіла і сціснула галаву рукамі. «У мяне слыхавая галюцынацыя,— зрабіла яна ашаламляльнае адкрыццё.— Як гэта я раней пра тое не падумала? Ёсць жа такі тэрмін у медыцыне. Мне гэта ўсё здаецца. Слыхавая галюцынацыя».

А маці тым часам працягвала:

— Ты разумееш, у нашым доме спыніўся час і ўсё пракручваецца і пракручваецца адна і тая вячэра. Бясконцая вячэра.

— Не, ма-а, я гэтага не разумею.

— А гэтага, Волечка, ніхто зразумець не можа,— сказала маці.— Падчас той чарнобыльскай аварыі неба абрынулася на зямлю. Тут другі космас, а хто з жывых ведае, што робіцца ў космасе?!

І Вольга не вытрывала, закрычала:

— Які тут можа быць другі космас?! Глупства, ма-а! Абязлюдненае, глухое месца. Ну вось зараз... Зараз я ўскочу на веранду, і ўсё скончыцца! Я буду блукаць па пакоях сам-насам з гэтым домам... А ты там... У Чыкага! Чуеш, пад той магільнай плітою.

Яна сцягнула з плячэй скураны рукзачок, які дагэтуль быў у яе за спіною, кінула яго пад сцяну і ўхапілася за вушак... «Ну, вядома,— думалася ёй,— гэтая слыхавая галюцынацыя ў мяне можа быць ад зморанасці. Адмерала ж пехам кіламетраў семнаццаць, увесь час напружана ўслухоўваючыся ў мёртвую цішу. І цяпер гэтае напружанне магло прарвацца матчыным голасам. Трэба расслабіцца, нічога ж страшнага не здарылася...» Ёй вельмі хацелася сюды, у дом апошніх гадоў свайго дзяцінства, куды так часта вярталася ў думках, ад чаго ніяк не магла выбавіцца нават у снах.

Намацала нагою цагліну, падцягнулася і не ўскочыла, а хутчэй уздзерлася на веранду і знерухомела... ёй чамусьці захацелася нават не заплакаць, а заскуголіць тоненька-тоненька ад няяснага болю, ад нейкай незразумелай роспачы. Ну быў калісьці гэты дом ейным домам, а цяпер цвіль, затхласць даўно пакінутага жытла. Дык з чаго

ж гэтае шкадаванне, такі пякучы жаль? Павяла позіркам... Веласіпед стаяў без адной педалі, побач ляжала пераверпутая бочка, у якой на зіму квасілі капусту. Бочка рассохлася, і абручы ледзь трымаліся. Пыл, пясок, бітае шкло, кавалкі паперы... Пустка... Веранда калісьці была перагароджана прыгожаю квяцістаю шторкаю, якую бацька прывёз з Варшавы. Цяпер на драціне матляўся брудны акравак. І побач з гэтым акраўкам — яна нават падалася бліжэй да драціны — звісалі тры ўшчэнт высахлыя рыбіны. Бацькавы акунькі. Не плотачкі, не карасікі, а менавіта акунькі. Бацька лавіў толькі іх, абсыпаў соллю і вешаў сюды, на драціну. Там, на Brown Lake Ран таксама лавіў акунёў, але яны былі вялізныя, тоўстыя, рыба bass — казаў Ран. Здымаў з кручка і кідаў назад у возера. А бацька сушыў сваіх акунькоў «пад піва». Вунь колькі запыленых парожніх пляшак у кутку! Не, гэтыя не з-пад піва...

— Ага-а, ты не помніш?

Вольга ўздрыгнула і ўся сцялася. У ёй заварушыўся ранейшы страх. Зноў матчын голас, але інтанацыя змянілася. Ён цяпер гучаў ціха і задумліва:

— Пад канец, пры нагодзе... Гэта ўжо быў, напэўна, восемдзесят дзевяты год, мы з бацькам пілі толькі кабернэ. Усе лічылі, што чырвонае віно выганяе радыяцыю. А Валера, як аказалася, чырвонага віна не ўжывае. Яму я паставіла «Сталічнай». Памятаеш Валеру, электрыка з цэнтральнай сядзібы? Дык ты не палохайся, праходзь у гасцёўню... Валера цябе не ўбачыць. І я не буду бачыць, таму што цябе не было сярод нас на той вячэры. Ты была тым летам у маёй стрыечнай сястры ў Чашніках. Помніш тое лета?

— Божачкі! Ну, гэта ўжо занадта, ма-а! Вядома, я памятаю тое лета. Я і цяпер прыехала да стрыечнай у Чашнікі, але пра якога Валеру ты мне тут кажаш?! Пра якую «Сталічную»?! Пусты... даўно пакінуты намі дом!— амаль крычала ўжо Вольга,—У мяне працягваецца слыхавая галюцынацыя. Ты, ма-а, у Чыкага! На могілках пад каменнаю плітою. «Людміла Іванаўна Грынчук» там напісана.

— Волечка, дык я ж не пярэчу,— адразу адгукнулася маці.— Файная пліта! Вы з Алексам усё зрабілі, як я і прасіла. А тут... Я ж табе растлумачыла... Другі космас і гэтая бясконцая вячэра!

Вольга не стала нічога адказваць, кінулася да дзвярэй гасцёўні, ірванула іх на сябе... «У эфіры апошнія паведамленні! У сваёй заяве ад трэцяга жніўня Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў...» — пачула яна, і голас дыктара адразу адляцеў некуды, стаў неістотным фонам, як і сам рэпрадуктар на шырокім падаконні за тонкаю гардзінаю.

— Ма-а... Ма-а! — але вусны ледзь варухнуліся. І ўсё астатняе жыццё, колькі ёй адмерана, час ад часу ў думках Вольга будзе вяртацца да гэтага моманту першага ашаламлення...

Яна бы змярцвела ў парозе. «Ну вось... У мяне пачалася ўжо зрокавая галюцынацыя. Зона, страшная зона, куды не павінна ступаць нага чалавека!» Вольга бачыла, як на сцяне насупраць гулялі промні стомленага жніўеньскага сонца, якое паварочвала ўжо на свой начны спачын. Пасярод пакоя стаяў накрыты на два прыборы стол, які нехта некалі назваў «кнігаю». Знаёмы абрус у дробную клетачку, пляшка «Сталічнай», салата, яшчэ нейкія стравы. Вольга ўвесь час адводзіла позірк ад матчынай постаці, яна была вось тут, побач. Трывожыла думка: а што, калі азірнецца і акажацца, што гэта не маці, а хтосьці ці штосьці іншае? Страх па-ранейшаму не адпускаў яе. І ўсё ж позірк не слухаўся, і ў нейкае імгненне ёй захацелася сарвацца, кінуцца да маці. Але ж тая каменная пліта на могілках у Чыкага... Значыцца, усё-ткі зрокавая галюцынацыя! Маці стаяла ля стала, на ёй была святочная сукенка, якую яна, Вольга, добра памятае, як і ўсё астатняе ў гасцёўні. Такім яна пакінула гэты пакой тым далёкім летам тысяча дзевяцьсот дзевяностага года. Вунь на крэсле яшчэ ляжыць яе старанькі сарафан, а яна яго ўсё шукала ў чамадане ў Чашніках. І маці, быццам перахапіла гэты ейны позірк, хутка падышла да крэсла, але сарафана не прыбрала, толькі сказала:

— Рэчы Вольчыны ў шафу ніяк паскладаць не магу. Усё езджу і езджу ў Хойнікі, такі ў мяне нечаканы клопат, Валера.

Таго, каго маці назвала Валерам, Вольга паспела ўжо заўважыць, але яго яна бачыла ўпершыню, ці яе падводзіла памяць. Гэта быў яшчэ даволі малады мужчына, які адразу адазваўся да маці, але не азірнуўся, разглядаў фотаздымкі, застаўленыя за шкло серванта.

— А ў каго цяпер няма клопату, Іванаўна,— і чамусьці засмяяўся.— Дзе гэта Пятровіч ваш так здымаўся, х-халера?! І ўсё з маладзіцаю нейкаю!

— Ды Люба гэта! Люба! Хіба ты Любы не пазнаў?

— І не пазнаў Іванаўна, што вы думаеце? Тут яна бы артыстка!

Любе да артысткі было далека... «Калі б бацька не распачаў свой гандлёвы бізнес, яна, магчыма, і дасюль прадавала б у нейкай сваёй канторы бухгалтарам,— чамусьці падумалася Вользе,— У той канторы бацька і пазнаёміўся з Любай і потым ужо разам з ёю вазіў у Польшчу на продаж розны тавар, але ўпрошвалі Любу доўга. Вось і маці ўспомніла пра гэта».

— Люба, Валера, для нас што шчаслівая знаходка. Золата, а не дзеўка! У Польшчу аднаму цяжка ездзіць, а яна ўпраўная. Спачатку,

праўда, наадрэз: не, і ўсё! Але неяк угаварылі, яна ў Віці і за бухгалтара, і за прадаўца.

— А чаму вы самі з Пятровічам не ездзіце?

— Э-э, Валерачка,— адмахнулася маці.— Я ж і ездзіла дзесьці з год, і грошы добрыя мы зараблялі. А потым, ці ж ты не чуў? Аперацыя ў мяне гэтая... Я ж цяпер ужо інвалід. А доктар, чуеш, да апошняга казаў: «Я вам лімфавузел прааперырую!» Быццам я дурная, не ведаю, дзе ў мяне лімфавузел... Пухліна ракавая была, я ж гэта добра разумею. Дык які цяпер гандаль? Якая Польшча?!

— Яно канешне, Іванаўна... Канешне...— Валера падышоў да стала,— Ф'ю-ю... І навошта пачасчунак такі! На мой розум, дык і ніякай праводкі вам не трэба рабіць.

— Дык у нас жа ўвесь другі паверх без святла,— занервавалася маці,— А там жа і пакоік Вольчын... А ў яе апошні клас! Ці ж нам без электрычнасці заставацца?! Пры лямпе з кнотам?! Я табе добра заплачу, Валерачка.

— Ды не ў гэтым справа, Іванаўна! Вы ж тут, у Лясным, ад свету адрэзаныя. А на цэнтральную ўжо, можа, трэцяя камісія прыязджала. Нават японцы два былі... Адсяляць усіх адсюль будуць, як па той бок Хойнікаў. Зарэчча ўжо адсяляюць... Мы цяпер, Іванаўна, што тыя манекены, прымералі на сябе заразу гэтую і паказваем усяму свету што з намі тут адбываецца.

— Ну, ці ж разумны ты, Валера?! Ага-а, манекены! Што выдумаў! Газет начытаўся. Хто ж нас цяпер адсюль адсяляць будзе, нас бы адразу адсялілі! Ты палічы... Чатыры гады прайшло пасля выбуху. Ды каб было тут што якое, ці ж нам бы дазволілі будавацца?! Мы ж усё, што зарабляем, на гэтыя сцены ўпляжваем, хто нам грошы такія верне?! Нічога больш не кажы мне... Сядай во-о... Чарку вазьмі... А потым на другі паверх пойдзем, я табе пакажу, дзе што там у нас! Сядай, сядай...

Валера сеў, бліжэй да сябе падсунуў талерку. І маці таксама села насупраць яго. Цяпер Вольга зноўку бачыла толькі ейную спіну, а хацелася бачыць твар. І Вольга пайшла да крэсла, што стаяла ў кутку недалёка ад стала... «Валера цябе не ўбачыць, і я не буду бачыць»,— успомніла яна матчыны словы. Значыцца, яна тут можа сядзець колькі заўгодна, пакуль не скончыцца гэтая іхняя такая неверагодная вячэра.

— Дык адкаркоўвай пляшку... Салата ў мяне сёння смачная атрымалася.

— З яе і пачну,— сказаў Валера.— А пляшка пакуль хай пастаіць. Спачатку пад'ем...— і паглядзеў на маці.— А наконт праводкі

мяркуйце, Іванаўна... Ці ж не памятаеце, як залетась дзяцей нашых у піянерскі летнік пад Мінск вазілі? Дык начальства высокае да іх у рэспіратарах прыехала, во-о як! Баяліся, што нашыя дзеці на іх радыяцыяй надыхаюць. А вы ўсё сцены гэтыя абсталёўваеце... Праводка вам трэба.

Маці маўчала, накладвала ў талеркі салату... Адсюль, з крэсла, Вольга цяпер добра бачыла яе ўсю. Якая ж была змарнелая, худзенькая яна тым летам! І ўспомніла ўжо зусім іншую, якой была маці тыя некалькі гадоў у Чыкага. Толькі аднойчы яна бачыла, як маці плакала. Гэта было на другі дзень пасля іхняга вяселля з Ранам. Тады да іх у Western Springs маці прыехала з містэрам Алексам раненька. Яны яшчэ спалі, і маці прыгатавала ім сняданак. Калі ўжо снедалі, раптам сказала: «А ў нас там, на Беларусі вяселлі цэлыя тры дні гуляюць. І з гарманістам абавязкова. У нашым пасёлку, помню, усё Сёмка Кульгавы іграў... Так ужо мог урэзаць, ажно сам падвіскваў!» Гэта зацікавіла Рана. І калі паснедалі, ён некуды паехаў і праз якуюсь гадзіну вярнуўся са скрыпачом з чыкагскай падземкі. Звычайным вулічным скрыпачом. І той скрыпач іграў ім цалюткі дзень на сваёй скрыпачцы... То ўставаў то садзіўся на табурэтку ля куста магноліі, што ўжо зацвіла белым цветам. І пялёсткі падалі на зялёны газончык, і яна з Ранам цалавалася за празрыстаю шторкаю ў ванным пакоі, а потым гук бы сарваўся, адлятаючы кудысьці высока-высока, і Вольга выглянула ў вузенькае акенца і ўбачыла маці за кустом той, бы абсыпанай снегам, магноліі. Маці плакала, гэта яна зразумела адразу і выбегла да яе...

— Ну з чаго ты ўзяла, што я плачу? — Яна прытуліла Вольгу да сябе.— Мы ўжо хутка паедзем з Алексам... А заўтра, калі раптам патэлефануеш, нас можа і не быць. Алекс хоча завезці мяне ў шпіталь, нешта такое ў мяне зноў, Волечка...

Маці з таго шпіталя ўжо не вярнулася. Але лёсу так было трэба, каб яна яшчэ раз пабачыла жывую маці, стала сведкаю вячэры, на якой калісьці яе не было. І гэта ніякая не галюцынацыя, з нервамі ў яе, вядома ж, усё ў парадку. І стомы яна ўжо не адчувала. Тады што ж гэта? Вычвары зоны ці што іншае, чаму няма вытлумачэння ў зямным жыцці? Вольга прыслухалася. За акном пачуліся крокі, і маці таксама пачула іх, бо прыўстала з крэсла, паглядзела ў акно...

— Што, Пятровіч ваш? — запытаўся Валера — Якраз на вячэру.

— Не, не павінен Пятровіч... Учора ў Гомель паехаў. Таварам загрузіцца і толькі па Любу ў Хойнікі заскочыць. Ён у Польшчы цяпер часцей, чым дома.— Маці прыслухалася...

З ганка чуліся галасы. Зарыпелі і ляпнулі дзверы на верандзе.

— Гэ-эй, тут хто ёсць?! — загрымеў мужчынскі голас.

І Вольга ўся затрапятала: людзі! А стрыечная ж папярэджвала, казала, калі яна сабралася сюды: «Ты там людзей бойся! Убачыш каго, адразу хавайся!» А куды ж яна тут схаваецца, і адразу мільганула думка: «Дзверы... На верандзе. Яны рыпяць. Толькі ж там ніякіх дзвярэй няма. Там чорны праём...» А ў гасцёўню ўжо ўваліўся мужчына. Ён нагадваў паляўнічага, толькі стрэльбы не хапала. Высокія гумовікі, кароткая куртка са штучнай скуры, няголены твар. Кінуў хуткі позірк на стол, потым гэтак жа хутка азірнуўся:

— Ты глядзі, Клаўдзя, мы акурат на пляшку! Нюх, што ў сабакі, у мяне.

І ў пакоі з'явілася Клаўдзя, маленькая, кірпаносенькая, кругленькая жанчына.

— А-яй-й! Нюх у яго! Разагнаўся, халяўшчык. Ты ж запытайся, ці Грынчукі гэта? Мо і не іхняя хата?

— Грынчукі,— адказала маці.— Хата нашая, а мужа няма дома...

— Дык нам ты і патрэбна, гаспадынечка,— узрадавана адазвалася жанчына. Яна была таксама ў гумовіках і ў шырокім, бы не са свайго пляча, плашчы. У руках трымала вялікую сумку з надпісам «Палёт». Павярнулася да мужчыны.— У такой справе, як наша, лепш з жанчынаю гаварыць, ага, Сцепа?

— Пагаворым,— буркнуў той і ўжо да маці: — Ну... Гаспадынька... Таго... Можа, мы сядзем? — выразна паглядзеў на стол.

— І не думай! — Клаўдзя ўхапіла яго за рукаў, пацягнула.— Сюды во-о, на канапу сядай... У сумцы свая пляшка ёсць! — і паставіла сумку на падлогу ля канапы.

— Не, чаго ж? За стол сядайце,— няўпэўнена сказала маці.

І яны не прымусілі сябе ўпрошваць, адразу селі за стол.

— Валера, дастань там відэльцы,— кіўнула маці на сервант.— Табе бліжэй.

— Каўбасу і рукою можна,— адмахнуўся мужчына і ўзяў кавалак каўбасы.— А чаркі дастань! —і засмяяўся да Валеры,— Значыцца, «Сталічная»? Ты ведаеш, як мы ў маладосці яе называлі? «Беласнежка і сем гномаў!»

— Сціхні!— прыкрыкнула жанчына.— Гном смярдзючы! Слова не дасць уставіць! — і ўжо лагодна, склаўшы на грудзях рукі: — Мы цяпер у Падліпках... Ці была калі там?.. І прачулі... Прачулі, гаспадынечка, што дзіцятка ты сабе хочаш узяць. Ты ж і сёння ў Хойніках была... У радзільным доме. Пыталася, мо адказнічок які ёсць? Залаценечкая, нашу дзяўчынку вазьмі! Дачушачку дарагую... Пяць гадзікаў ёй.

Мужчына, не перастаючы жаваць, заківаў галавой:

— Угу-у, будзе пяць. Яна усё правільна кажа. Ты не бойся... Мы ўсё як след зробім. Афармім па закону. Тваё дзіця будзе, без прэтэнзій.

Валера бразнуу відэльцамі, адсунуўся ад стала:

— Іванаўна, не людзі гэта! Вар'яты да вас у хату прыйшлі. Яшчэ не было такога тут у нас, каб хто дзіця сваё аддаваў у чужыя рукі па добрай волі.

— Вар-р-р-'яты!— скрывіўся мужчына.— На мацюка нарываешся. Нелегалы мы.

— Ага-а, нелегалы,— хутка адазвалася жанчына,— На ўсе Падліпкі толькі мы адны і ёсць. І ўсё з-за гэтага чорта,— кіўнула яна на мужчыну.— Нас падманулі... У Гомелі ў нас хата была, на самым уездзе. А потым хлопцы нейкія падлабуніліся. «Прадайце,— кажуць.— Мы вам добрыя грошы дамо і ў вёсцы хату за бясцэнак купіць дапаможам». І ў Падліпкі тыя нас вазілі. Хату паказалі, стаяла з забітымі вокнамі. Добрая хата.

— А яна ўжо тады без гаспадароў была. Нічыя,— сказаў мужчына.— Людзі адразу, як толькі выбухнуў Чарнобыль, адтуль з'ехалі. Але ж мы пра гэта не ведалі.

— Маўчы, п'янюга! Каб табе грошы кішэні не пяклі, каб мы адразу туды паехалі, цяпер бы, можа, ужо ў нейкім іншым месцы жылі б. А ён жа, гаспадынечка, піў і піў і я за ім цягалася. А калі сабраліся ў тыя Падліпкі, там ужо і людцаў не было. Усіх адсялілі, усе адтуль з'ехалі. Радыяцыя іх па ўсёй Беларусі раскідала.

— І супраць яе адна сіла ёсць,— мужчына кіўнуў на пляшку, паглядзеў на Валеру,— Ра-азлівай!

Валера падсунуў «Сталічную» да сябе, падумаў і паставіў яе пад стол.

— Дудкі! — сказаў ён і павярнуўся да маці.— Вы ж павінны ведаць, Іванаўна, майго суседа. Ну, Цапік Васіль... Ён на цэнтральнай у цяпліцах за вартаўніка. Дык на пачатку лета сучка ў яго ашчанілася. Ён шчанючкоў тых хацеў забраць з будкі і сучку да варотаў да слупа бетоннага прывязаў... А яна ж, як угледзела, што шчанюкоў бяруць, дык слуп той бетонны вывернула і па ўсім двары яго цягнула... Дык то ж сучка, Іванаўна! Эх-х... Людзі! Усё вы разам з хатаю прапілі! А можа, Чарнобыль нутро з вас высмактаў!

— Табе ж патлумачылі,— буркнуў мужчына.— Нелегалы мы! — падумаў штурхануў Клаўдзю,— Нам з ею ўжо і прапасці можна, пажылі... А ты б Ганначку нашу пабачыў! Навошта дзіцяці дзічэць разам з намі, каб радыяцыя ела. Назад у Гомель няма нам ходу.

— Чаму? — адазвалася маці.— Вядома... Калі прадалі, хату сваю ўжо не вернеце, але ж дзяўчынку ў нейкі інтэрнат уладкаваць можаце. Дый сваякі нейкія ў вас ёсць...

— Далека... Далека сваякі, гаспадынечка. На Поўначы,— загаласіла Клаўдзя,— Вазьмі Ганначку нашу, не пашкадуеш. Ой, якое дзіцятка разумнае, як слухацца ўмее! Калі я скажу ёй, яна цябе адразу мамкаю будзе зваць!

— У Гомель вам трэба вяртацца,— абарвала яе маці,— У нас ужо ёсць дачка, немаўлятка нам трэба. Мы хлопчыка сабе хочам узяць, і каб яшчэ да году...— і маці замоўкла, потым сказала: — Яшчэ хтосьці... на машыне пад'ехаў.

Вольга таксама пачула. За домам, зусім блізка загула машына. Але гул як узнік, так і абарваўся.

— Няма ніякай машыны,— сказаў Валера,— Прыдалося, Іванаўна... Я гляджу, цямнець хутка пачне. Выпраўляйце вы гэтых бадзяжнікаў, ды на другі паверх пойдзем, калі ўжо так трэба праводка вам.

— Электрычнасць правесці хочам,— загаварыла маці да жанчыны і не скончыла... Хтосьці яшчэ ўвайшоў у дом. На верандзе чуліся гучныя хуткія крокі, і, калі дзверы ў гасцёўню адчыніліся, Вольга ледзь не задыхнулася: бацька! На парозе стаяў бацька. Гэта ён і прыехаў на машыне. Яна столькі гадоў яго не бачыла, ад таго самага лета. Яны нават не перапісваліся, хоць стрыечная казала, што ён прасіў у яе іхні адрас, але так і не напісаў... Бацька зняў пінжак, шпурнуў яго на канапу. Затрымаў позірк на маці і, не зважаючы ні на кога, кінуў ёй злосна:

— Чамадан збяры!

— Ві-іця? — Маці паднялася з-за стала,— Я ж табе ўсё сабрала ў чырвоную сумку. Там дзве кашулі...

— Рэчы мае збяры! Дзе чамадан чорны?!

— На другім паверсе... чамадан чорны.

І бацька рынуўся на кухню. Адтуль пачаў паднімацца па лесвіцы на другі паверх. Вольга добра чула ягоныя крокі.

— Нічагусенькі не разумею... Якія рэчы? Я ж яму, Валера, усё сабрала...— і маці ўзяла Валеру за руку.

— Ай, не разу-умееш,— адазвалася Клаўдзя.— Ды кідае ён цябе, ідзе ад цябе... Мой першы таксама калісьці во так казаў: «Чамадан збяры...» Усе яны так гавораць. А нам жа даводзілі людзі: «Дзіцятка ўзяць яна хоча, а сям'і там няма, развальваецца! Люба нейкая ў яго ёсць!» — і ўжо да свайго мужа: — Пайшлі, Сцёпа, адсюль... Тут цяпер не да нас!

Яны пачалі выходзіць з-за стала... Жанчына падхапіла сваю сумку «Палёт». Мужчына паглядзеў на Валеру:

— І не наліў-такі, гад!

— Ідзі, ідзі...— адмахнуўся Валера і пачаў супакойваць маці: — Ды не слухайце вы гэтую цётку, Іванаўна! На тое і язык, каб малоць... На вас твару няма. Ды Пятровіч не такі, каб сям'ю кінуць.

«Нелегалаў» ужо не было ў гасцёўні. Вольга адчула, што ёй нясцерпна хочацца піць, нібыта выпекла ўсё ў ёй гарачае хваляванне, але кока-кола засталася ў рукзаку, які яна пакінула пад сцяною, каля груда бітай цэглы. Аблізвала перасохлыя губы і не адрывала вачэй ад маці: бедная, бедная мая мама! А бацька ўжо вяртаўся з другога паверха, ягоныя хуткія крокі чуліся на лесвіцы, потым на кухні і на верандзе. Пстрыкалі замкі чамадана. Але вось ён увайшоў у пакой:

— Дзе мае новыя туфлі?

— Відаць, у шафе, у спальні.- адказала маці. Яна ўсё яшчэ трымалася за Валеру. І бацька пайшоу у спальню, якая была тут жа, на першым паверсе, побач з гасцёўняй.

— Пятровіч, а-а Пятровіч? — Валера адвёў матчыну руку, і маці ўхапілася за спінку крэсла, а Валера зазірнуў у спальню.— Я тут... наконт праводкі зайшоў. Іванаўна кажа, што электрычнасць вам трэба на другі паверх правесці.

— Гэта ўжо толькі яе клопат,— адгукнуўся бацька. І, калі выйшаў са спальні, сказаў, ужо звяртаючыся да маці: — Ты тут што хочаш, тое і рабі! Прасіў жа цябе, казаў... Не хадзі ні ў які радзільны дом! Якое дзіця табе трэба?! Куды ні паткнуся, толькі і чую пра нейкае ўсынаўленне! Не паслухала... Волькі табе мала... Дык жыві ты як хочаш!

І маці бы прачнулася:

— Віця... Дык ты ж нічога ніколі не казаў супраць... Ты ўспомні... Мне і думалася... Я ж не магу нарадзіць, ты ведаеш... Давай спакойна... Ага-а... Я ж цябе сабрала... Я ж думала, ты ў Польшчу з Любаю зноў паедзеш... Ты ж казаў...

— Люба не будзе больш са мною нікуды ездзіць,— бацька сціснуў пад пахай каробку з туфлямі, ажно затрашчаў кардон.— Люба цяжарная...— падхапіў з канапы пінжак, выйшаў і яшчэ раз зазірнуў у гасцёўню,— У Чашнікі сам па Вольку паеду. Праз два тыдні прывязу яе!

І не прыехаў... Ні праз два тыдні, ні пазней. Ужо У сярэдзіне жніўня ў іхнім пасёлку Лясное пачалося адсяленне, і ў Чашнікі прыехала адна маці. А Лясное стала часткай зоны.

...З двара яшчэ чуўся гул бацькавай машыны. Валера дастаў з-пад стала пляшку «Сталічнай».

— Цяпер бы самы раз узяць чарку,— сказаў ён. Падумаў і паставіў «Сталічную» назад пад стол.— Не, вашай чапаць ужо не буду. Дома вып'ю... Дык мне ісці, Іванаўна?

— Я буду думаць, Валера, наконт праводкі,— адказала маці. Яна так і стаяла, трымаючыся за крэсла, і ўвесь яе выгляд казаў што яна ў сваіх думках дзесьці далека адсюль. Валера зразумеў што яму трэба ісці:

— Накажаце на цэнтральную, калі надумаеце...

Маці адразу, як толькі ён выйшаў з гасцёўні, апусцілася на крэсла, галава яе ўпала на стол, на складзеныя рукі, і валасы рассыпаліся на непрыбраныя талеркі. Але яна не плакала, толькі вырваліся надрыўныя словы:

— І дзе ж ты там... У тых Чашніках, мая дачушка-а?! Чаму ж цябе цяпер няма са мною? Дочачка мая, дочачка...

Вольга ўся напялася, гатовая закрычаць: «Я тут, ма-а. Ты ж ведаеш, што я тут... Побач! І пакутаваць табе не трэба, ма-а! Гэта ўсё даўно мінулася, даўно ўсё прайшло!.. Ма-а, ты ж ведаеш, што ўжо і бацькі даўно няма. Бацьку забілі нейкія бандзюгі ў дзевяноста чацвёртым годзе недалёка ад мяжы з Польшчаю, Табе пра гэта пісала стрыечная, а ты мне не сказала, ма-а. Не сказала! І Любы таксама няма. Люба ў дзевяноста шостым паехала прадаваць мяса ў Расею, у Варонеж, ма-а... І не вярнулася. Прапала, знікла Люба, і ніхто не ведае, што з ёю здарылася. Застаўся толькі іхні сын, ма-а, васьмігадовы Віцька. І Любіны сваякі ўладкавалі яго ў нейкі сірочы інтэрнат. Але я знайду Віцьку, ма-а... Віцька мне брат... Ён мой брат, ма-а!»

Вольга не стрымала сябе, кінулася да маці і... абняла пустату. І сама ўжо ўпала на тое старэнькае крэсла, галаву апусціла на стол, брудны, запылены, і рукі адчулі халодны фарфор нейкіх чарапкоў...

Вольга рыдала. А потым штосьці зазвінела, і яна падняла галаву. Ля серванта, выціраючы ручніком талерку, стаяла маці. І стол перад Вольгаю ўжо быў засланы знаёмым абрусам у дробную клетачку, а на верандзе хтосьці тупацеў...

— Чуеце, вы дома, Іванаўна? — у гасцёўню зазірнуў Валера,— Прасілі, каб зайшоў?! Мне перадалі... Я і не марудзіў.

— Прасіла, прасіла, Валера,— адгукнулася маці,— Ведала, што адразу прыйдзеш, таму і вячэру строю...

І Вольга зразумела, што гэтая вячэра пачынаецца спачатку. Бясконцая вячэра... Як сказала маці: «Другі космас, а хто з жывых

ведае, што робіцца ў космасе?» — і Вольга дадала ад сябе.— У гэтай зоне, кранутай атамам.

Валера прайшоў да серванта. Маці паставіла талерку на стол. Вольга паднялася... Яна ўжо была сведкаю гэтай вячэры. Азірнулася, затрымала позірк на матчынай постаці і пайшла да дзвярэй, але ў парозе спынілася, прытулілася шчакою да вушака. Гэта было развітанне з родным домам. Назаўсёды.

А праз некалькі месяцаў калі ўжо золатам апалага лісця адгараў кастрычнік, Вольга разлічвалася з вадзіцелем таксі ў міжнародным аэрапорце «Мінск-2».

— Ну, шчаслівай дарогі! — сказаў таксіст,— Мо чамадан паднесці? Я магу.

— Ён не цяжкі,— адказала Вольга і, падхапіўшы чамадан, падала другую руку хлопчыку, што стаяў з ёю побач.

— Пайшлі, Віцька! Зараз убачыш, як самі перад намі расчыняцца дзверы.

Віцька паглядзеў на яе:

— А я, як вырасту, вярнуся сюды, каб знайсці маму Любу?

— Вядома... Захочаш, дык вернешся.

І, калі шкляныя электронныя дзверы перад імі рассунуліся, Вольга прыпынілася і на адно кароткае імгненне азірнулася назад.

Цямнеў лес за далёкім полем, вілася асфальтаваная дарога, а бліжэй стаялі рады прыпаркаваных машын... Вірыліся ў сваім клопаце людзі, і не было сярод іх нікога, хто б развітальна памахаў ім рукою.

1999

## ТЫ, Я І ВАЛОДЗЯ

Яны вярнуліся пад вечар, загарэлыя, радасныя. Адпачынак на Браслаўскіх азёрах відавочна пайшоў ім на карысць. Дачка, крутнуўшыся туд-сюд, адразу пабегла да сяброўак хваліцца загарам. Сын засеў за тэлефон... А муж пачаў распакоўваць чамаданы: гэта — памыць, гэта — у шафу. Пачыналася звыклая будзённасць.

— Ну, усё!.. Чамаданы можна на балкон.

— А гэта? — яна позіркам паказала на нешта груваcткае, абгорнутае шчыльнай шэрай паперай, перавязанае тоўстым шпагатам,— Што ў цябе там?

Муж марудзіў з адказам, потым нешта мармытнуў невыразнае, пачаў развязваць шпагат.

— Ты толькі не смейся, Надзя,— сказаў ён.— Я зусім нечакана адкрыў у сабе талент.

— Цікава! Што ж гэта за талент такі?

Ёй сапраўды стала весела. Ейны муж, Аляксандр Сямёнавіч Вячорка, быў даволі звычайным сухаватым чалавекам. Праўда, гэта не замінала яму загадваць аддзелам у даследчым інстытуце, своечасова абараніць дысертацыю па нейкіх рэдкіх мінералах, і вось на табе... талент!

— Угу-у... На самай справе,— Аляксандр Сямёнавіч нібыта ў нечым апраўдваўся.— Нейкі ген ува мне ўзяў і выбухнуў! — Ён усё разгортваў і разгортваў паперу.— І ўяўляеш, атрымалася! Першы раз узяўся за пэндзаль, а такое адчуванне, быццам усё жыццё толькі гэтым і займаўся! Адным словам, глядзі і ацэньвай.

Ад нечаканасці яна адхінулася. З кучы папер вытыркалася бліскучастая жоўтая рама, а ў раме... Так, гэта быў партрэт незнаёмага ёй чалавека на фоне невыразнага кустоўя, у поўны рост. І першае, што ёй кінулася,— вясёлы, нават гарэзлівы позірк незнаёмца, які нібыта казаў: «Ну вось ён я... Такі, які ёсць. Будзем знаёмыя!»

А муж удакладніў:

— У пансіянаце нашыя нумары былі побач. Ён, можна сказаць, мяне і падбухторыў паспрабаваць. Нават пагадзіўся пазіраваць! — і дадаў: — Табе гэта спадабалася? — ён не адважыўся тое, што было ў раме, назваць партрэтам. Хоць партрэт, як ні дзіўна, атрымаўся, і яна не пакрывіла душою.

— Вельмі сімпатычны твар... Думаю, гэтую раму трэба некуды павесіць.

— Давай у тваім пакоі,— радасна прапанаваў муж.— Калі табе спадабалася, хай гэта будзе маім падарункам.

...І вось ужо рама прымацавана да сцяны ў яе маленькім пакойчыку. Яна ўпісалася ў агульны інтэр'ер. Нават у позірку незнаёмца, які нібы толькі што выйшаў з-за кустоўя, як ёй здалося, заіграла штосьці ўхвальнае: «А нішто... Нішто... Мне тут, уявіце, вельмі падабаецца!» Але на раме асабліва не засяроджваліся: павесілі дый павесілі! Да таленту Аляксандра Сямёнавіча, які так нечакана раскрыўся ў ім, таксама больш не вярталіся. У іхняй кватэры запанаваў звычайны душны вечар яшчэ спякотнага жніўня, размяшаны з радасцю вяртання, сустрэчы, тых дробных прыемнасцей, якія ўсе спяшаліся выліць з сябе.

Надзея Паўлаўна Вячорка любіла сваю сям'ю, ганарылася дзецьмі і была даволі-такі прывязана да мужа. Таму, калі нарэшце апынулася ў сваім пакоі, адчувала сябе шчасліва-прытомленай. Першае, ад таго, што ўсе сабраліся дома, а другое... Прытомленасць нярэдка бывае прыемнай, тым больш калі ведаеш, што хутка забярэшся пад лёгкую коўдру, перагорнеш старонку-другую нейкага цікавага чытання. У іх з Аляксандрам Сямёнавічам ужо даўно не было той ранняй маладой жарсці, што ўкінула іх аднойчы ў гарачую бездань, з якой яны паступова вынырвалі. Пасля вячэры разыходзіліся па сваіх пакоях. І ўжо толькі час ад часу, звычайна пад раніцу, ён прыходзіў да яе. Без асаблівага палу цалаваў шчокі, плечы... Напэўна, так будзе і гэтай ноччу.

Яна нетаропка расшпільвала гузікі камізэлькі, і ў нейкі момант рука замерла... Ззаду пачуўся выразны шоргат і адразу лёгенькі стук, быццам хтосьці знекуль саскочыў. Потым — крокі: адзін, другі... Хутка азірнулася. ёй хацелася закрычаць дзіка, на ўвесь голас, але дух заняло. Павяла позіркам у бок рамы... Невыразнае кустоўе нагадвала пляму, якая выцягнулася, расплылася, а той, хто быў намаляваны на яго фоне, стаяў перад ёю. Ёй чамусьці схацелася ўпасці, уціснуцца ў мяккі пушысты дыванок на падлозе, каб толькі не бачыць гэтай збянтэжанай усмешкі. Але яна не ўпала, позіркі іх сустрэліся... Ну, вось зараз... Зараз ягонае аблічча зменіцца і яна ўбачыць штосьці такое, што можа ўявіць толькі нездаровая псіхіка. Але з псіхікай да гэтага моманту ў яе ўсё было нармальна, і ў абліччы незнаёмца нічога не мянялася. Ён толькі злёгку пасміхнуўся, як ёй здалося, вінаватай усмешкай.

— Я вас напалохаў? Далібог, не хацеў гэтага,— ён гаварыў пранікнёна, прыемным мужчынскім голасам,— Не трэба мяне баяцца, вам нічога не пагражае. Мне чамусьці захацелася прадставіцца,— і ён зрабіў яшчэ адзін крок — Валодзя... Для вас проста Валодзя.

У яе не было слоў Але першае здранцвенне прайшло, і яна захінула твар рукамі. Ну вось зараз... Зараз... ён накінецца на яе. У тым, што пад гэтым прыемным абліччам была пачвара, монстр не з гэтага свету, яна не сумнявалася. Ён лёгенька ўздыхнуў:

— Даруйце... Мне не трэба было сыходзіць з рамы... Я... Я... Добрай ночы.

Калі яна адняла далоні ад твару, яго ўжо не было перад ёю. Хутка зірнула на раму... Незнаёмец быў там на фоне невыразнага кустоўя, як і некалькі хвілін да гэтага. І тут яна закрычала, на злом галавы кінулася з пакоя і, калі ўжо ляжала побач з мужам, думала... думала... «А можа, яно і добра, што Саша не пачуў гэтага ейнага крыку. Што б яна сказала яму?! Хіба можна паверыць у такое? І ўсё ж гэта было не насланнё. Пакуль я тут, з Сашам, ён, той, у раме, зусім не страшны,— запэўнівала яна сябе,— Ён не пасмее з'явіцца сюды. Ну, а заўтра... Заўтра яны з Сашам выкінуць гэтую раму, раструшчаць, парвуць на шматкі...»

І вось прыйшло тое заўтра. Яшчэ па-летняму ясна заднела ў акне. Яны трошкі заспалі, а ў Аляксандра Сямёнавіча быў першы пасля адпачынку працоўны дзень. Ён мітусіўся, насіўся з пакоя ў пакой, ляпаў нейкімі дзверцамі, шумеў, патрабаваў: «Дзе дэзадарант? Падай кашулю ў сінюю палоску! Чаму так кепска адпрасаваны каўнерык?! Не бачу свайго сіняга гальштука! Занадта многа цукру ў каве! Колькі разоў казаць, не рабі бутэрбродаў з сырам!» А ў ейнай галаве ўсё круцілася і круцілася злашчасная рама. І нарэшце яна ўсё-такі вынайшла паўзу:

— Саша, а Саш... Учора кінула вокам... Далібог, не ўпісваецца гэтая рама ў маім пакоі. Муляе позірк.

Аляксандр Сямёнавіч зморшчыўся, адмахнуўся:

— Бач, рама ёй муляе! Ды кінь ты... Мяне распірае талент! І першае, што паспрабаваў зрабіць, я падарыў табе...— Падумаў— Ты сёння ў якую змену?

— У другую.

Надзея Паўлаўна працавала пазменна тэхнолагам на заводзе медыцынскіх прэпаратаў.

— Тады пакуль! Пабег... Хацеў цябе падвезці.

Яна прысела да століка на кухні. Па целе ўжо блукаў страх, а калі раздумацца, чаго яна баіцца? Магчыма, гэта была проста гульня ўяўлення?! Нейкая падсвядомая фантазія. Зусім побач у сваім пакоі спяць дзеці. За акном — людзі. Вось спыніўся на іхнім паверсе ліфт. Усё нармальна, а яна штосьці сабе прыдумала. Трэба паставіць чайнік ды нечым заняцца. Устала, падышла да пліты, але за чайнік узяцца не

паспела. Па спіне прабег халадок. Яна выразна чула лёгкія, асцярожныя крокі. Вось яны зусім побач. Патыліцай адчула гарачае дыханне. Адхінулася. Божа, які кашмар! Зноў ён... з рамы і ўжо ставіў на пліту чайнік, паварочваўся да яе:

— Будзеце каву ці чай? Даўно не падносіў жанчыне кавы. Ну ідзіце... Сядайце за стол.

Яна не магла выціснуць з сябе ні слоўка, толькі калі пачула ад яго: «І як вы яму такое дазваляеце?! Ён тут усю раніцу раздаваў свае загады, быццам вы за наймічку ў яго! Проста не муж, монстр нейкі. Я ледзь сябе стрымліваў! Хацелася выскачыць з рамы і даць яму па мордзе!» (Ну, ці ж магчыма гэта?!) — ёй захацелася разрагатацца вар'яцкім смехам ці, наадварот, зайсціся ў плачы, адчайным і нястрымным. Але такая ўжо істота чалавек, ён вельмі хутка да ўсяго прывыкае, з усім звыкаецца. Надзея Паўлаўна не была выключэннем.

Праз некалькі тыдняў яна не зайшла, а ўляцела ў свой пакой і не паверыла вачам: на тумбе ў агромністай керамічнай вазе стаялі астры. Колькі ж іх, гэтых махрыстых цудаў ужо прывялага верасня?! У позірку іграла такая радасць, што яна й не пачула лёгкага шоргату. А потым быў дотык, бы хтосьці цалаваў закручаную ў завіток пасмачку. «Валодзя!» — затрапятала дыханне.

— Адкуль астры? — яна павярнулася да яго.

— Гэта ўсё, пра што табе хочацца запытацца? — Ён узяў яе рукі ў свае.— Я сумаваў... Чакаў і чакаў цябе.

— Надзя-я-я! Надзя-я-я!

Гэта быў голас Аляксандра Сямёнавіча, і калі б Валодзя імкліва не адскочыў за дзверы, Аляксандр Сямёнавіч перажыў бы не найлепшы момант свайго жыцця.

— Чым тут можна займацца?! Няўжо нельга пачуць?

Яна міжволі заступіла яму дарогу.

— Ты некуды сабраўся? Зноў нацягнуў гэты жахлівы берэт!

Выгляд у Аляксандра Сямёнавіча быў няшчасны. І чорны берэт, які блінам трымаўся на ягонай галаве, толькі падкрэсліваў гэта.

— Паспрабую заняцца пейзажам... Трэба ўзяць некалькі ўрокаў. Мяне пазнаёмілі з мастаком-прафесіяналам.— І дадаў кісла: — З партрэтам Міхейчыка ў мяне нічога не атрымалася.

Міхейчык быў супрацоўнікам аддзела, якім загадваў Аляксандр Сямёнавіч. У той дзень, калі муж сказаў ёй, што бярэцца за ягоны партрэт, яна не без іроніі падумала: «Што будзе, калі яшчэ адна рама з'явіцца ў кватэры і, чаго добрага, яшчэ і Міхейчык пачне выходзіць з яе?!» І вось, дзякуй Богу, партрэта не атрымалася, ад чаго Аляксандр Сямёнавіч і пакутаваў цяпер.

— Вярнуся позна,— сказаў ён.— На вячэру згатуй што-небудзь, каб было легка разагрэць.

Яна згодна кіўнула, і ён пайшоў. Крокі Аляксандра Сямёнавіча былі цяжкімі і нервовымі. Надзея Паўлаўна з радасцю павярнулася да Валодзі.

— Ніякай яму вячэры! — у Валодзевым голасе трымцела раздражненне.— Мы таксама куды-небудзь сыдзем. У нас вольны вечар!

Яна сама падумала пра гэта, як толькі за Александрам Сямёнавічам зачыніліся дзверы.

— Мастак ...уеў! — Валодзя не мог супакоіцца.— Ты паглядзі на мае рукі. У мяне ж пальцы піяніста! А ён што намаляваў? Сасіскі нейкія. Калі я залажу ў гэтую раму, у мяне такое адчуванне, быццам нацягваю на рукі баксёрскія пальчаткі!

Надзея Паўлаўна засмяялася, бо й сама не верыла ў здольнасці Аляксандра Сямёнавіча. Ну, а што да Валодзі, да ягонага партрэта... тут проста, што называецца, шчаслівая выпадковасць.

— Дык я пайшоў?

— Куды? — здзівілася яна.

— У раму! Ты ж будзеш займацца макіяжам, будзеш пераапранацца... Потым вырашым, куды нам з'ехаць.

А яна ўжо вырашыла. Яны паедуць да ейнай сяброўкі. Вось толькі б не заспелі іх на выхадзе дзеці, што разышліся пасля школы па нейкіх сваіх справах.

Праз якую гадзіну яны ўжо ехалі ў гарадскім таксі. Надзея Паўлаўна пазірала на прыгожыя Валодзевы рукі і думала пра мужа. «Які ўсё-ткі ён няўважлівы! Зазірнуў у пакой і нават не заўважыў букета астраў. Ды што астры? Ужо колькі часу яна матыльком лётае па кватэры ў кароценькім шаўковым самым што ні ёсць сапраўдным японскім кімано з жоўценькім дракончыкам на спіне, а ён нават не запытаўся, дзеля чаго такі экстравагантны ўбор?! А мяккія атласныя пантофлікі на абцасіках? А гэтая прычоска «пад хлопчыка», што так удала падкрэслівае прыгажосць плячэй і шыі? Не, Аляксандр Сямёнавіч ніколі не зможа стаць мастаком,— заключыла яна.— Поўная адсутнасць усялякай назіральнасці!» І больш да думак пра мужа яна ўжо не вярталася ўвесь вечар. А вось пра Валодзю думала... Сяброўка адразу ў першы зручны момант шапнула ёй на вушка: «Дзе ты яго падчапіла? Такі абаяльны і рэспектабельны!»

Валодзя сядзеў у крэсле, час ад часу браў у рукі тонкі кілішак, адпіваў маленькімі глыточкамі духмяны напой. «Яму можна даць і трыццаць, і сорак пяць гадоў,— думала яна.— Выключна няпэўны ўзрост. І чымсьці няўлоўным нагадвае ён Дзіна Рыда, калісьці

вядомага спевака, якога яшчэ памятае яе пакаленне. А ўвогуле ў ім штосьці ёсць ад мексіканца». Яна ўпершыню бачыла, каб так грацыёзна, на адлёце мужчына трымаў руку з цыгарэтай, над якой у лёгкія кольцы збіраўся дым. Яна сачыла за гэтым дымком, прымружвала вочы, і бы выстрэльвала даль з бясконцасцю апаленых сонцам прэрый. З іржаннем наравістых гарачых скакуноў, дзе грывы пераблытваліся з фалдамі чагосьці паветрана-празрыстага. Ідыётка! Як ні старалася, позірк увесь час цягнуўся да Валодзі. Згадалася ягонае частае: «Ну, я пайшоў!..» — «Куды?» — «У раму!»

Яна абагаўляла і разам з тым ненавідзела гэтую раму. З часоў егіпецкіх пірамід фараоны, цэзары, князі, паны, рознага роду падпанкі ды простыя рабацягі, увесь гэты так званы дужы пол... Як яны здзекаваліся, у які шалёны вір укідвалі жанчыну, якія неймаверныя пакуты... Слёзы, бяссонныя ночы, адчай, рэўнасць, а то і халодная палонка ці кропелька атруты. А ўсё аказваецца так проста... Узяць у раму! Хм-м... Цэзар у раме! А разам з тым... Ну, рама... Бліпчастая, жоўтая вісіць у яе на сцяне, а потым лёгенькі шоргат... Пацалунак крадком... І кожны раз боязь, што вось-вось пачуецца ненавісна-патрабавальнае: «Надзея-я-я!» І Аляксандр Сямёнавіч нагадае аб сваёй прысутнасці цяжкімі нервовымі крокамі. «Божа, хоць бы яго захапіў пейзаж, хаця б у яго штосьці атрымалася, каб ён цалюткімі вечарамі карпеў над нейкімі там сваімі накідамі!»

...Яны вярталіся дадому позна. Валодзя нячутна праслізнуў у яе пакой, а яна, ужо распрануўшыся, мімаходзь зазірнула да мужа. З густога змроку цягнула такім жа густым пахам алейных фарбаў і ацэтону. Ляснула дзвярыма, маўляў, хоць задушыся ў гэтым паху! А за акном дзесьці ўжо зусім блізка завязваліся дні кароткага і асляпляльна бліскучага бабінага лета. Яна купіла дачцэ ролікі, сына ўладкавала на нейкія камп'ютэрныя курсы, а Аляксандр Сямёнавіч, сапраўды не на жарт захапіўшыся пейзажам, адразу пасля працы ехаў за горад з эцюднікам на эцюды. Яна ж з Валодзем... О, гэтыя дзветры гадзіны на ўтульным балкончыку, дзе яшчэ не адцвілі пасаджаныя вясною настуркі і чарнабрыўцы. Далека ўнізе ў нейкай здранцвелай нерухомасці дрэвы дазвалялі сонцу кранаць свае кроны вясёлымі блікамі, магчыма, яны лавілі і пах кавы, што расплываўся па балконе. Надзея Паўлаўна цёрлася шчакою аб Валодзева плячо, расшпільвала верхні гузік ягонай кашулі, губамі прыціскалася да ледзь прыкметнай жылкі на ягонай шыі... Ён любіў падстаўляць ёй сваё каленка. Яна садзілася на яго, сціскалася ў камячок і замірала...

Там, унізе, напружваўся, дыхаў жыццёвы хаос... Левыя, правыя, камуністы, цэнтрысты, лібералы, радыкалы, Народны фронт, пікеты,

мітынгі... А ў яе — Валодзя! Маленечкая радасць маленькай жанчыны ў кароценькім шаўковым кімано. Аўторак змяняла серада, сераду — чацвер... Дні наскоквалі адзін на адзін, пакуль нечакана не ўперліся ў дажджысты ветраны адвячорак. Надзея Паўлаўна, якім ужо разам, натхнёна заварвала каву на кухні, звінела посудам...

— Ну колькі можна заварваць гэтую каву! — Аляксандр Сямёнавіч выглянуў са свайго пакоя.— Ты што там, аппіваешся ёю ў сваім пакоі?!

— Ты... Ты дома? — яна нібыта толькі цяпер успомніла пра існаванне мужа і пайшла на ягоны голас, дзеля цікавасці зазірнула ў пакой.— А як жа твае эцюды?

— Ага-а, эцюды! Ты паглядзі, што ўсчалося ў прыродзе! У мяне рукі калеюць...

Ёй здалося, што ён вось-вось расплачацца. Але Аляксандр Сямёнавіч не расплакаўся, наадварот, падхапіў з падлогі нейкі мазаны-перамазаны ватман і пачаў са злосцю рваць яго на дробныя кавалачкі і шпурляць іх проста ў ейны твар...

— На!.. На!.. Мае эцюды!.. Любуйся!..

Іншым разам яна, несумненна, пакрыўдзілася б на яго, цяпер жа, наадварот, захацелася суцешыць, і гэтае суцяшэнне з'явілася вельмі хутка, бы хтосьці падказаў ёй.

— Саша... Што ты так распаляешся! — нават ласкава сказала яна.— Бывае... Не атрымаўся ў цябе пейзаж, паспрабуй узяцца за нацюрморт!.. І нікуды ехаць не трэба з эцюднікам, галоўнае, скампанаваць удалую кампазіцыю.

Твар Аляксандра Сямёнавіча засвяціўся.

— А што ты думаеш...— з радасцю ўхапіўся ён за ідэю.

І вось прайшло некалькі дзён. Надзея Паўлаўна вярталася з першай змены, і адна-адзіная думка трывожыла яе. У тым, што Аляксандр Сямёнавіч возьмецца за нацюрморты, яна не сумнявалася, а вось дзе ён засядзе за іх? Хоць ты вазьмі ды здымі яму нейкі пакойчык, каб ён і начаваў там! З гэтай сваей трывогай яна і ўвайшла ў кватэру і як жа была здзіўлена, убачыўшы Аляксандра Сямёнавіча, які з ліхаманкавым бляскам у вачах кінуўся да яе.

— Узяў адгул! — на вялікім уздыме паведаміў ён.— Ты мела рацыю... Цудоўны нацюрморт атрымаўся!

— Ну і дзе ж ён, твой нацюрморт? — Яна чамусьці падумала пра Валодзю: «Бедны мой! Калі Аляксандр Сямёнавіч увесь гэты час быў дома, у Валодзі не было ніякай магчымасці вылезці са сваей рамы...»

Аляксандр Сямёнавіч падхапіў яе плашч:

— Уяўляеш, выпадкова зайшоў у твой пакой. Падышоў да акна, а там сцяна... Сцяна суседняга дома. Астатняе я дадумаў!

— Ты не расказвай! — у ёй закіпела незадаволенасць.— Проста вазьмі і пакажы мне.

— Тады пойдзем... Нацюрморт там... У тваім пакоі.

І яны пайшлі ў яе пакой... Аляксандр Сямёнавіч павёў рукою ў бок рамы:

— Вось... Нічога больш не знайшлося, дык я...

Надзея Паўлаўна ашаломлена глядзела на раму, у якой яна раненька пакідала Валодзю. Цяпер жа ў ёй быў шэры квадрат сцяны з мёртвым аранжавым матыльком і нейкім цьмяна-жоўтым акраўкам накшталт кляновага лістка.

— Дзе партрэт?! — яна яшчэ не зусім усвядоміла, што адбылося, але ў горле перасохла да хрыпення і слабасць разлівалася па целе.

— Я... Я замаляваў яго! Ты ж сама казала: «Не ўпісваецца!.. Муляе...»

Надзея Паўлаўна яшчэ раз зірнула на раму... ёй раптам захацелася накінуцца на Аляксандра Сямёнавіча з кулакамі і біць, біць, біць яго, але замест гэтага яна, як падкошаная, упала на канапу і разрыдалася па-жаночы няўцешна і горка.

1997

## ПАМЫЛКА МАЛОЙ ГАЛАКТЫКІ

Ён маўчаў. А яна ўсё гаварыла і гаварыла, амаль галасіла:

— Алёшачка, дык што ж там адбылося ў шахце? Не, я не веру! Няўжо ты цалюткі? А ты ж ужо з таго свету, Аляксейка! Цябе ж я пахавала. Вас усіх трох пахавалі! Сёння ўжо сёмы дзень. Карэньчыка і Васілёнка знайшлі, а цябе як ні шукалі...— яна ўсхліпнула.— Толькі два рукавы ад кашулі і знайшлі. Іх і пахавалі, думалі, цябе выбухам ушчэнт разнесла. А ты аб'явіўся, Алёшачка... Ты ацалеў! Дык што ж там было, чуеш? Што здарылася?— і яна даткнулася да ягонага пляча.

— Нічога не было, Каця,— надзіва спакойна адказаў ён і адвёў ейную руку,— Проста яна хацела забраць мяне да сябе. Думала, нешта можна выправіць. Угу-у... Думала. Надта ж ёй хацелася, каб я быў там з ёю. Але бачыш, нічога не атрымалася. Назад мяне вярнулі. Сюды, у лабірынт наш. Там яны ўсё зямное жыццё нашае лабірынтам завуць.— І ён цяжка ўздыхнуў.— Няўдалы я... Эксперымент няўдалы, Каця. Памылка Малой Галактыкі. І ты таксама няўдалая. Таксама памылка. І ўсе мы тут няўдалыя.

Яны сядзелі на кухні. Толькі-толькі пачало днець, сонца яшчэ не ўзнялося над шахцёрскім пасёлкам. І ён, напэўна, не бачыў трывожнага ценю, які замільгаў у яе вачах.

— Хто, куды цябе забіраў Алёшачка? — голас яе трапятаў.— Як гэта можна забраць чалавека з шахты?!

— Кепска ёй там без мяне,— сказаў Аляксей.— Мы павінны былі быць разам. Гэтак нам было наканавана. Але прашчур наш, той самы першабытны чалавек, атрымаўся няўдалым. Яго і адкінулі калісьці сюды, у лабірынт. Канструкцыя генетычная не ўдалася. Адзін-адзіны нейрон у мазгах не змаглі як след кланіраваць. Нейрон памяці, Каця. Таму і жыве ў бяспамяцтве людства. Ні зямной, ні астральнай памяці ў яго нямашака.

Каця заплакала:

— Пра якое людства ты мне тут гаворыш! Гэта з тваёю галовачкаю штосьці сталася.

— Я і кажу, нейрон памяці. Усе мы тут на галаву слабыя. Ніякага вопыту свайго не памятаем. Паўсюль гніль, войны, распуста... А што да нас, беларусаў, дык мы нават мовы сваёй як след успомніць не можам. Яна цікава там мне пра ўсё расказвала...

І Каця нечакана для сябе ўзарвалася:

— Што ты ўбіў сабе ў галаву?! А ці ведаеш, што ў мяне там, на балконе, астры ў слоіку стаяць. Адвячоркам, думала, на магілку тваю занясу. Во-о дзе памылка выйшла! Ты прыйшоў — у мяне валасы

дыбам! Ну, скажы... Скажы-ы-ы! Хто яна? Хто?! Што ты ўсё заладзіў?! Яна! Яна-а-а!

Каця бачыла, як засвяціліся і пацяплелі ягоныя вочы. Ён трошкі падумаў а потым сказаў:

— Да сябе ў Малую Галактыку яна мяне забірала. А калі выявілася, што з няўдаласцю маёю нічога, як ні круці, нельга зрабіць, нам нават развітацца не далі... Ты ведаеш, гэта яна вадзіла пэндзлем француза Дэга, калі той маляваў сваіх блакітных танцорак. Яна, як яны. Уся — блакіт неба...

І Каця паднялася з табурэткі. Француз Дэга, можна сказаць, даканаў яе.

— На працу мне трэба,— сказала глуха.— Дзеці ў вёсцы, у маці тваёй. Зусім ёй кепска, як і перажыла! Не трэба было нам хаваць рукавы тыя. У прафкаме і казалі, што, можа, яшчэ знойдзешся. Ты не няўдалы эксперымент, Алёшачка, ты хворым стаў! Ты цяпер — вар'ят! Вар'ят! Чуеш?! І размовы ў цябе вар'яцкія!

Каця працавала паштаркай у аддзяленні сувязі недалёка ад іхняга дома. І тою раніцай вельмі хутка разнесла пошту, але дамоў, як гэта было раней, не спяшалася. Свежыя нумары газет, гэта яна заўважыла адразу, яшчэ стракацелі артыкуламі пра нядаўняе здарэнне на адной з салігорскіх шахтаў. Нават фотаздымкі былі з пахавання шахцёраў. Дзве труны адкрытыя, гэта значыць Карэньчыка і Каваленка, і адна зачыненая. Там мог ляжаць ён, ейны муж Аляксей Дроцік. Яна нават уявіла тыя два рукавы ад ягонай кашулі, якія і давялося пахаваць. І шыльдачку на часовым помніку згадала, дзе былі і прозвішча, і ўсе даты, а таксама яшчэ: «Смуткуем і помнім». Але вось ён, Аляксей, з'явіўся... І што?! Што сказаць, як патлумачыць усё гэта людзям? Хоць і не даказалі, але ж, мабыць, там сапраўды адбыўся нейкі выбух і яго выбуховаю хваляй кудысьці адкінула. А потым ён ачуняў выбраўся з той шахты і цяпер гаворыць, што ён — памылка Малой Галактыкі. Ці ж гэта не вар'яцтва?! Не, вядома ж, яна пакуль нікому не будзе казаць пра ягонае вяртанне. Зараз прыйдзе дамоў і паспрабуе яшчэ раз пагаварыць з ім. Але перад тым як пайсці дамоў, яна зазірнула на хвілінку да загадчыцы паштовага аддзялення.

— Хвёдараўна,— сказала нерашуча,— вы што-небудзь чулі пра француза Дэга?

— Француза? — здзівілася тая,— Чаго гэта раптам цябе зацікавіў нейкі француз? Мо якая гуманітарная дапамога?

— Не, Хвёдараўна...— Каця задумалася.— Маляваў ён... Танцорак... блакітных.

— Ну калі маляваў дык, пэўна ж, мастак,— адазвалася загадчыца,— Але табе цяпер, Кацечка, не да мастацтва.

— Вядома... Я гэта так.. Паглядзець цікава было б.

І яна пайшла, але не дамоў, як звычайна. Гняла пустата, нібыта з яе выпампавалі апошнія сілы. Рыхтавалася да дзевяцінаў, у доме было поўна харчу. Але яна чамусьці зайшла ў магазін і разглядвала там вітрыны... Знаёмая касірка замахала ёй рукою, ажно выйшла з-за касы:

— Кацярына Міхайлаўна, я ж казала... Я сапраўды казала, што не трэба хаваць чалавека, калі няма ўпэўненасці...— яна прыцішыла голас,— Я твайго Аляксея бачыла. Стаяў на балконе. І так ужо на неба глядзеў так глядзеў! Гэта ж ледзь не тыдзень пад зямлёю чалавек праляжаў, свету белага не бачыў. І, дзякуй Боіу, вярнуўся, знайшоўся твой гаротнічак!

— Знайшоўся,— суха адказала Каця,— Толькі ж ненармальны ён. З галавою не ўсё добра ў яго. Бог розум адняў

У касіркі перахапіла дыханне.

— Няўжо?! Не гнявi Бога, Міхайлаўна. Цяпер гэта па-культурнаму... стрэсам завуць. А стрэс здымаецца. Ты падлабунься да яго ноччу з ласкаю... І ўсё да нормы прыйдзе.

«А і сапраўды,— думала пасля Каця, калі ўжо прыйшла дамоў.— Ну няхай сабе ён усё стаіць на балконе. Няхай сам з сабою размаўляе і не адзываецца да яе, калі яна спрабуе загаварыць з ім. Але надыдзе ноч, і трэба будзе паспрабаваць пагаварыць з ім па-іншаму...» І калі нарэшце тая ноч надышла, Каця паспрабавала.

...Яны ляжалі ў ложку. Каця ўсё прыслухоўвалася да ягонага дыхання, спіць ці не спіць? Ён уздыхнуў, і Каця прытулілася да яго, абняла, зашаптала:

— Алёшачка... Мой ты Алёшачка! Ногі ў цябе халодныя. Я іх сваімі сагрэю. Я шэсць ночак без цябе тут, на гэтым ложку. Ну, шчытней прытуліся... Усё нармальна ў нас будзе.

— Не будзе,— адазваўся ён.— Я — ненармальны, ужо не такі, якім быў раней. Я ўжо без гэтага... Без жывёльнага. Усё грахоўнае ў мяне выдалілі,— і дадаў — Гэта што-о-о! Гэта легка! А з галавою ніяк... Тут ужо нічога не зменіш. Якая ёсць галава, такою і будзе.

Ён яшчэ штосьці казаў, але Каця не слухала. Затаілася ўся, а потым ціхенька павяла рукою туды, дзе ў яго было самае далікатнае інтымнае месца, і... бы апяклася — гола, пуста... «З кім жа гэта я тут ляжу?!» — скаланула ўсю яе шалёная думка.

І ўсё... З той начы ўжо нічога больш не злучала іх. Каця хадзіла на працу, займалася хатнімі справамі. Ён жа адно: стаяў на балконе.

Было, што яе шкадавалі, маўляў, здала б ты яго куды, да дактароў завезла б, жыць жа табе трэба. Вядома, трэба! І праз колькі дзён яна сказала яму:

— Алёша, ты не супраць, калі да нас сёння Міша Салівончык зазірне. Ну той, што жонка залетась памерла. Вагонкаю пярэдні пакой трэба абабіць, дык ён прыйдзе, замерае.

— Я не супраць,— адказаў Аляксей.

І Міша Салівончык тым днём прыйшоў. Доўга абмерваў рулеткаю сцены ў пярэднім пакоі. Рабіў фламастарам нейкія свае адзнакі на іх. А Каця штосьці смажыла, варыла, гатавала на кухні. Ён жа, ейны Аляксей, як заўсёды, стаяў на балконе, і ў нейкі момант Міша крыкнуў ёй:

— Каця, хутчэй! Ідзі да яго... Нешта з ім робіцца!

Калі Каця выйшла на балкон, Аляксей перакінуў ужо нагу цераз парэнчу. А рукі свае ён узняў раскінуў шырока над галавою, нібы хацеў, наколькі гэта магчыма, даткнуцца і абняць як мага больш неба... Але грэшнае цела пераважыла. Зямля прыцягнула яго да сябе, каб ужо праз дзень прыняць у сваю цяжкую, халодную вільгаць.

А дзесьці праз тыдзень пасля ўсяго, што здарылася, Каця несла ў слоіку белыя астры. Ішла на тыя самыя могілкі, дзе ўжо не два рукавы ад Аляксеевай кашулі, што толькі і знайшлі ў шахце пасля выбуху, а быў пахаваны сам Аляксей. Звярнула на сцежку, якая вяла да брамы, і тут адкуль і ўзялася бухгалтарка, што жыла ў іхнім доме, у суседнім пад'ездзе. Абедзве спыніліся, і бухгалтарка сказала ціха:

— Табе не трэба ісці туды, Кацечка. Не паверыш... Дзіва нейкае ці насланнё? Гэта ж я стаю ля цётчынай магілы, а тут фугас нейкі зверху, блішчасты, агромністы, як шугане! І раскрыўся, і адтуль штосьці кульнулася... Гляджу, жанчына! Ва ўсім блакітным, ну, чыстае неба! І ўжо стаіць яна ля магілкі твайго Аляксея... І ўпала яна на магілку. І плакала... Як жа яна плакала, проста білася ўся! Ты не думай... Я не з п'яных вачэй. Што ты на гэта скажаш?

І ў Каці не знайшлося слоў, каб штосьці сказаць ёй у адказ.

1999

## ЛЯ БЕРАГОЎ АЎСТРАЛІІ

Званок быў нечаканы, доўгі і нецярплівы. Ігар Апанасавіч нават не адразу зразумеў, што звоняць у дзверы. «Хм-м,— зірнуў на гадзіннік,— хтосьці пазнавата, ды і не чакаю нікога». Але пайшоў да дзвярэй, выціраючы даволі далікатныя рукі аб хвартух, якім быў падперазаны. Ён меў звычку адключаць хатні тэлефон, і сябры нярэдка пасылалі яму тэлеграмы-маланкі тэрмінова падключыцца. Не, сёння тэлефона не адключаў, пра што ўспомніў ужо адчыняючы дзверы.

— Вам ка...г...го? — літара «г» нібыта засела ў горле.

Ігар Апанасавіч быў рэалістам. Не верыў ні ў якую д'ябальшчыну, але тут міжволі адступіў назад. Перад ім стаяў ён сам. Ва ўсялякім выпадку, незнаёмец, які толькі цяпер адняў руку ад кнопкі званка, адрозніваўся ад яго толькі сваім адзеннем. У Ігара Апанасавіча ніколі не было такога светла-шэрага гарнітура. А вось барадаўка над левым брывом ёсць. І ледзь прыкметны шрам на ніжняй губе таксама, ён нават памацаў яго. Але галоўнае, што ўразіла яго найбольш, незнаёмец некалькі разоў павёў шыяй, нібыта раптам сталі цеснымі кашуля і гальштук. Гэтаксама рабіў ён сам у хвіліны моцнага хвалявання. Во-во, шыя крутнулася і цяпер. А незнаёмец ужо прайшоў у пярэдні пакой, зачыняючы за сабою дзверы. Шчоўкнуў замок, ён пачуў свой уласны голас. Але гаварыў не ён.

— Ігар Апанасавіч Халадневіч?

— Я-я... Э-э-э...

Незнаёмец з цікавасцю разглядаў яго. Хм-м... Незнаёмец... У вельмі знаёмым абліччы не было нічога варожага, і Ігар Апанасавіч нечакана для сябе пайшоў у наступ:

— Вы хто?! Гэта нейкі розыгрыш. Над вамі добра папрацаваў грымёр. Ды вы проста ўварваліся да мяне! Я вас не запрашаў...

І зразумеў, што той, каму адрасаваліся гэтыя словы, яго не слухаў. Чалавека, які так удала падрабіўся пад яго, цікавіла нешта іншае, і ён пачуў:

— Дачка выкінулася з акна пятнаццатага верасня тысяча дзевяцьсот дзевяноста пятага года?

Ігар Апанасавіч ажно скалануўся. Штосьці затрымцела ў грудзях, але гэта быў не боль, хутчэй горыч, нейкая даўняя хваравітая туга.

— Следства выявіла, што віною былі наркотыкі?

— Што вам ад мяне трэба? Э-э, дазвольце, што адбываецца?

Ігару Апанасавічу раптам захацелася выштурхнуць незнаёмца за дзверы, схапіць за шкірку надаваць кухталёў... І той адчуў гэта, засцерагальна павёў рукою:

— Не падабаецца? — І тут жа не папытаўся, а хутчэй сцвердзіў: — З жонкай развёўся ў дзевяноста шостым,— падумаў і дадаў: — А цяпер ты павінен знікнуць. І зараз жа. Назаўсёды.

Ігар Апанасавіч адчуў, як на глыбокіх залысінах выступілі кропелькі поту. Ён не тое каб спалохаўся, ён проста нічога не разумеў. Можа, галюцынацыя? Хутка пракруціў у галаве ўсё, што адбылося. Ён быў на кухні. Пачуўся званок. Пайшоў адчыняць дзверы. Убачыў яго... Усё ў поўнай свядомасці.

— Пройдзем у залу. Пярэдні пакой не для сур'ёзных размоў— сказаў незнаёмец. І, ужо на хаду, кінуў: — Дзесьці тут, на нейкіх паліцах, ляжаць папкі з тваімі лазернымі распрацоўкамі.

— Каго гэта цікавіць?! — Ігар Апанасавіч ажно затросся.— Яны не далі ніякіх вынікаў. Я дарэмна аспрэчваў Эйнштэйна.

У яго прамільгнула думка, што гэты чалавек палюе на ягоныя лазерныя распрацоўкі. Яго нехта падаслаў каб ён выкраў вунь тыя зялёныя папкі, што ляжаць на стале, якія ён нават не хаваў— там нічога цікавага, марнасць намаганняў. І зусім нечакана яму ўспомнілася дачка. Дзіўна, ён не памятае яе маленькай. Памяць сцерла не тое каб дні — цэлыя гады. Ён не помніць, калі яна ўпершыню самастойна зрабіла свой першы крок, не помніць яе першых слоў. Але затое добра помніцца той апошні, шаснаццаты год дачкі — дні пошукаў калі яна тыднямі прападала, бавіла час на невядома якіх кватэрах. Потым жонка ва ўсім абвінаваціла яго. Ігар Апанасавіч сустрэўся позіркам з незнаёмцам...

— Твае распрацоўкі не марныя намаганні,— сказаў той,— Ты памыліўся ў дробязі. Але цяпер не пра гэта. Твая самая вялікая памылка, што ты размінуўся з Вікай. Ты свядома пайшоў на разрыў з ёю.

— Віка? — ашаломлены Ігар Апанасавіч ажно прысеў на канапу,— Якая Віка?!

Галюцынацыя?! Выключная ненармальнасць. Нейкі закутак у чарапной скрыначцы здрадзіў яму. Напэўна, такім і бывае вар'яцтва. Незнаёмец тым часам падышоў да акна. Расчыніў яго. Ігар Апанасавіч інтуітыўна падумаў, што той зараз расшмаргне шторкі, як гэта рабіў ён сам, каб нічога не замінала хвалі вільготнай начной свежасці, якая пачала расплывацца па пакоі. Незнаёмец сапраўды расшмаргнуў шторкі. У Ігара Апанасавіча былі моцныя нервы, але яны пачыналі здаваць. Ён памацаў па кішэнях, шукаючы там валідол...

— Пытаешся, якая Віка? — незнаёмец павярнуўся да яго,— Ты пяць гадоў сядзеў з ёю за адною партаю ў школе. У апошнім, дванаццатым, класе вы нярэдка ўцякалі з урокаў, ехалі на дачу твайго

дзеда... І, не баючыся нічыіх позіркаў, у зарасніку акацый ты бясконца цалаваў яе маленькую радзімку на мочцы вуха.

— Гэта было так даўно. Віка... Віка Падабед.

— Вось ты і ўспомніў.

— Не рабіце з мяне ідыёта,— чамусьці ўскіпеў Ігар Апанасавіч,— Звычайнае юначае захапленне. Нічога сур'ёзнага.

— Гэта ты так вырашыў аднойчы. Дзеля чаго? Каб на трэцім курсе універсітэта заўважыць пухленькую ружовенькую дачку акадэміка? І не проста заўважыць...

— Я кахаў Зіну.

— Ты разумеў, што акадэмік дасць табе добры старт.

— Але я потым бег сам! Нават не бег, я поўз... Спатыкаўся. Падаў. Падымаўся... У выніку і з'явіліся гэтыя зялёныя папкі. Але я ўсё рабіў сам! Сам! — нібыта паставіў кропку Ігар Апанасавіч.

Ён пачаў развязваць хвартух, пра які ўспомніў толькі цяпер. Рукі не слухаліся, вузельчык не паддаваўся. Але вось удалося. Развязаў. Скамячыў хвартух, шпурнуў на падлогу, а лепш бы ў ненавісны твар незнаёмца.

— Ну, хопіць! Гэтым часам я звычайна сплю. Прашу выйсці!

Незнаёмец адмоўна пакруціў галавой:

— Знікнуць павінен ты. Я з'явіўся сюды, каб выправіць тваю памылку. Я знайду Віку. Я сустрэнуся з ёю. Мы павінны быць разам. Нам гэта наканавана аднойчы і назаўсёды.

Ігар Апанасавіч атарапеў.

— Вы?.. Вы ведаеце Віку?

— Ведаў... Пяць гадоў сядзеў з ёю за адною партаю ў школе. У апошнім, дванаццатым, класе мы ўцякалі з урокаў, ехалі на дачу майго дзеда...

У гэты момант Ігар Апанасавіч зразумеў, што з ім усё ў парадку. Ненармальны вось гэты дзівак. Як ён мог сядзець за адною партаю з Вікай Падабед, на якую мог ездзіць дачу, калі з Вікаю ездзіў ён... Ён! Ігар Апанасавіч Халадневіч, а тымі часамі проста Ігарок... Ігар.

— Э-э-э, паслухайце,— сказаў ён.- Я хацеў бы пачуць нейкае тлумачэнне. Сваімі словамі вы загналі мяне ў тупік. Я не люблю фантазій. Я заўсёды маю справу з дакладнымі рэчамі. Фантазіі былі ў Вікі, калі яна ўявіла сябе мастачкай. Прымушала сядзець гадзінамі і малявала мае партрэты. Гэта мяне і адштурхнула, напалохала. Я чалавек пэўнасці. Канкрэтных формаў. Скажыце мне, хто вы? — Ігар Апанасавіч амаль узмаліўся.

Незнаёмец задумаўся... Потым загаварыў з відавочным спачуваннем:

— Баюся, ты не ўсё зразумееш. Сусвет сціскаецца і пашыраецца. Яго будова бурыцца, каб праз мільёны гадоў аднавіцца зноў, але ў тым самым парадку. Няма канца — ёсць бясконцае паўтарэнне выключна ўсяго. Яшчэ некалькі гадзін таму назад я жыў у тры тысячы пятнаццатым годзе новай эры. Ты жывеш напрыканцы дваццатага стагоддзя старой, але мы адно і тое. Ты зразумееш гэта, калі паўторышся там, у новай эры, дзе будзеш да таго самага моманту, пакуль табе не захочацца сюды, каб звязаць парванае звенка свайго бясконцага лесу. Таму што ўсе свае жыцці — мінулыя і будучыя — ты звязваў толькі з адною жанчынай. І гэтая жанчына — Віка. Разрыў адбыўся тут... у гэтым стагоддзі. Мне ўдалося павярнуць ход нейкай мільённагадовай эвалюцыі. Гэта таксама адкрыццё, як і тое, што зрабіў ты ў сваіх зялёных папках, памыліўшыся ў нязначным. Толькі мае адкрыццё засталося там, у тры тысячы пятнаццатым годзе. Але, дзякуючы яму, я тут. Я хачу знайсці Віку. Яна загінула ў тым жыцці тыдзень таму назад у аўтамабільнай катастрофе. Але ў нас яшчэ ёсць час тут — час жыцця, надзей, кахання...

Ігар Апанасавіч чуў, як варушацца валасы на ягонай галаве.

— Як ваша прозвішча? — толькі і змог выціснуць ён з сябе.

— Халадневіч... Ігар Апанасавіч Халадневіч.

— А хто ж тады я?

— ???

Чалавек, які толькі што назваў сябе Халадневічам, пасміхнуўся:

— Сітуацыя табе бачыцца абсурднай. Мне таксама. Адзін з нас павінен знікнуць. Ты не зможаш аднавіць адносіны з Вікай, значыцца...— ягоная рука слізганула ў кішэню пінжака.

— Мяне чакае куля ў лоб?

— Ні ў якім разе. Вось партманет. У ім ты знойдзеш замежны пашпарт і авіябілет у Аўстралію. Там ляжыць і нумар рахунку, які адкрыты на тваё імя ў аўстралійскім нацыянальным банку. Ты больш не вучоны. Твае зялёныя папкі застануцца тут. Ты — звычайны жыхар Аўстраліі, праўда, элітны. На тваім рахунку мільёны. А цяпер — апранайся. Твой час тут скончыўся.

Ігар Апанасавіч, як на ватных нагах, выйшаў у пярэдні пакой. Ён падпарадкаваўся волі гэтага чалавека. Нацягнуў пінжак. Калі накідваў на плечы плашч, адчуў, як лёг у кішэню цяжкі партманет. Гэта незнаёмец паклаў яго туды.

— Ну... Шчаслівай дарогі! Тваёй адсутнасці ніхто не заўважыць.

І якраз у гэты момант зазваніў тэлефон. Апарат стаяў на невялікім століку паблізу. Ігар Апанасавіч па прывычцы хацеў зняць трубку. Незнаёмец яго апярэдзіў.

— Халадневіч слухае... Таксі? Заказваў. Пасажыр на выхадзе.

«Д'ябал! Што ж такое адбываецца? Халадневіч слухае...» Ігар Апанасавіч выйшаў, хутчэй, вылецеў з кватэры, адчуваючы, як па целе бягуць дрыжыкі.

Віка намагалася заснуць. Церла надброўі, лічыла да ста, і ўсё марна. Бралася на досвітак. Калі б такімі ж ціхімі былі яе думкі, яна, напэўна, заснула б. Але думкі неспакойна круціліся вакол аднаго: відаць, з выданнем буклета нічога не атрымаецца. У банку, дзе ёй абяцалі пазыку над невялікі працэнт, «форс-мажорныя» абставіны. Антон абяцаў ёй знайсці пакупніка — некалькі карцін можна было б прадаць, але ці тыя гэта грошы? Ды і сам Антон... Яна дацягнулася рукою да тумбачкі, што стаяла за канапай, узяла адтуль шматок паперы. Гэта ж трэба, што напісаў: «Жывіце і плывіце! Мой ветразь павярнуў у адваротны бок». Нягоднік! А чаму, уласна кажучы, нягоднік? Яны проста сышліся на нейкі момант. Праўда, гэты момант працягнуўся два гады. Але ж ніхто нікому нічога не абяцаў. Тыя чатырнаццаць гадоў якія ляжалі паміж імі, адыгрывалі сваю ролю. Усё роўна гэтая сувязь калісьці скончылася б. У свае сорак два гады Віка дазваляла сабе быць рэалісткай. У тое, што ён пайшоў назаўсёды, яна не верыла: скончацца ў яго грошы — з'явіцца. Але разлічвала не на многае, таму самым правільным было б пакінуць Антона проста ў прыяцелях. Два-тры званкі на год і кубачак кавы ў выпаду нейкай ягонай няўдачы. Праўда, у яе самой гэтых няўдач значна больш. Антон маляваў кідкія рэкламныя шчыты, і так званыя новыя беларусы ахвотна плацілі яму. Ёй гэта не падыходзіць. Кожнаму сваё. Хто ў які вагон паспеў ускочыць. Таму і застаецца спадзявацца на выпадковага пакупніка. А можа, прадаць машыну? Не, на гэта яна не адважыцца. Яе не хопіць на цяганне падрамнікаў па тралейбусах ды аўтобусах. У свой час нацягалася.

Яна перавярнулася на другі бок і нібыта нават задрамала. Ва ўсялякім разе, калі падхапілася, краёк неба ружавеў у акне. Там падымалася сонца. Штосьці снілася... І ці спала яна ўвогуле? Усё роўна як нехта тут быў. Так рэальна адчувала нечую прысутнасць. Не, напэўна сон. Пачала ўспамінаць: «Я некуды збіралася ехаць на сваім «рэно», на нейкую дачу... Некага чакала... Потым гэты нехта з'явіўся. Антон? Не-не... Божа мой, ды гэта быў Ігар... Ігар Халадневіч. Да чаго б гэта ён? Ніколі не бачыла яго ў сне. Колькі ж гэта гадоў мінула? Васемнаццаць? Ды не, усе дваццаць два! Ён нешта казаў... Ага-а... Пытаўся, дзе можна мяне пабачыць. Я спачатку запрасіла ў госці, да сябе, а потым перадумала і прызначыла яму спатканне ў Доме

мастацтваў. Хм-м... Цікава». Пад рукою штосьці зашамацела. Ага-а, Антонава запіска. Скамечыла, шпурнула на падлогу. Пазяхнула. У прынцыпе, сны яе не надта цікавілі. Утульней уладкавалася на падушцы: «О, ды я, здаецца, засынаю...» А калі зноў расплюшчыла вочы, зразумела, што спала яна доўга. Так і ёсць, гадзіннік паказваў за дзесяць раніцы. Складвала канапу, апраналася, варыла каву. У майстэрню, дзе звычайна праводзіла дні, ехаць не хацелася. Падумала, што трэба пазваніць знаёмаму фатографу, папрасіць, каб зрабіў слайды некалькіх яе карцін. Села да тэлефона... І раптам мільганула: «Ігар Халадневіч...» Перад ёю нібыта пракруціўся ўвесь яе досвітны сон. Дзіўна, жывём у адным горадзе, а ніколі не давялося сустрэцца. У метро, у тралейбусе, на рынку, ды мала дзе яшчэ? Калісьці ў іх нічога не атрымалася, але ж перад гэтым было шмат пяшчоты, доўгага салодкага замірання перад кожным спатканнем. Ды і якія спатканні! Яны бачыліся штодня. А потым куды што і падзелася. Бы правалілася памяць... Цяпер вось гэты нечаканы сон, як запозненае рэха. Не, сапраўды, як гэта яна нічога не ведае пра Ігара? А хто б мог ведаць? Вадзік Пяткевіч? Яны, здаецца, сябравалі. Але ж ад некага яна чула, што Пяткевіча ўжо няма. Рак. Хто ж ёй сказаў пра гэта? Галя... Галя Манёнак. Некалькі гадоў таму назад выпадкова сустрэліся на выстаўцы, дзе Віка выстаўляла ажно пяць сваіх палотнаў. Абмяняліся тэлефонамі. Галя можа штосьці ведаць і пра Халадневіча. Узяла запісную кніжку, пагартала старонкі... Ну, вось жа гэты нумар... Пачала яго набіраць.

— Мне Манёнак Галю. Галка, ты? Здагадайся... Ды ніякая не Зоя, а Вікторыя Падабед. Ну, дзякуй Богу, успомніла! Ды так, званю па адной маленькай справе. Ты што-небудзь ведаеш пра Халадневіча? Ён? Табе званіў гадзіну таму назад? Цікавіўся маім адрасам?!.

Потым Віка доўга сядзела ў крэсле. Думала. Няўжо ён не ведае, што я, як і калісьці, жыву ў бацькоўскай кватэры? Што ж, вельмі прыкра, што і ў яго не склалася жыццё. Праўда, што тычыцца яе, дык яна асабліва і не імкнулася да гэтага. Ёй не хапала часу на нешта вельмі асабістае. Кароткія, часовыя захапленні і такія ж кароткія расчараванні, тое, што называецца пакутамі жаночага сэрца. Бог з імі, з гэтымі расчараваннямі. Хопіць і пра Халадневіча. Яна хутка набрала нумар знаёмага фатографа. Глуха. Трэба было званіць раней. Ну, а што ў нас у халадзільніку? І яна пайшла на кухню, дзе пераканалася, што ёй трэба ісці па прадукты. Што там з надвор'ем? Зірнула ў акно. Сонечна, значыцца, цёпла. На нейкі момант затрымалася ля люстэрка ў пярэднім пакоі, прыпудрыла яшчэ даволі свежы твар. Яна належала да таго тыпу жанчын, якіх узрост толькі

прыхарошвае, паступова надаючы твару тую выразнасць, за якою хаваецца шмат таямніц. Праўда, сама Віка так не лічыла. Прычасала кароткія каштанавыя валасы і выйшла на лесвічную пляцоўку, дзе нямала здзівілася, заўважыўшы чалавека, які сядзеў на лесвічных сходах ля яе дзвярэй. «А гэта яшчэ хто?» — падумала.

Чалавек не па ўзросце хутка падняўся. Пакамечаны плашч, расшпіленыя верхнія гузікі кашулі, гальштук, які ён трымаў у руках,— усё гэта кінулася ў вочы адразу. А потым яе вусны расцягнуліся ў нейкай змушанай усмешцы.

— Ігар? — у голасе была няпэўнасць.

— Пазнала?

— Калі б мне было цяпер васемнаццаць, сказала б, што ты змяніўся. Ёсць справа да мяне?

Вочы яго пацяплелі, але цяжкая стомленасць у позірку нібы замінала яму ўсміхнуцца.

— Скажы, я падобны на ненармальнага чалавека?

— Не ведаю. Каб нешта сказаць, нам трэба пагаварыць. Спадзяюся, ты зойдзеш у кватэру?

— Вядома.

...Ён здымаў плашч. Было ў ягоных рухах нешта нервова-мітуслівае. Назіраючы за ім, яна думала, што ён зусім не падобны на вучонага, хай сабе і няўдачніка, пра што сказала ёй Галя Манёнак падчас нядаўняй размовы, хутчэй нейкі безнадзейны бомж з шэрым тварам і патухлым позіркам.

— Партманет?! Тут у кішэні ляжаў гэты д'ябальскі партманет! Цяпер яго няма,— ён выварочваў кішэні плашча, шукаў позіркам на падлозе, ці не выпаў дзе.

— Паглядзі ў пінжаку,— параіла Віка.— І навошта табе нейкі партманет, ты ж не ў магазіне! Хіба гэта так важна цяпер?

Ёй не падабалася ягоная мітуслівасць. Усё ў ім да раздражнення насцярожвала. Яны больш як дваццаць гадоў не бачыліся, а ён турбуецца пра нейкі партманет. Мо і сапраўды якійсьці зрыў у псіхіцы?

— Есці хочаш?

— Не адмоўлюся. Я некалькі начэй правёў на вакзале. Спрабаваў спаць на лаўках, мяне зганялі міліцыянеры. Днём бадзяўся па скверах...

— У цябе што, няма кватэры?

— Ёсць. Аднапакаёўка. Размянялі былую з жонкай,— і ўдакладніў: — Я развёўся.

— Ведаю. Сказала пра гэта Манёнак. Чаго ж ты, дарослы чалавек, начуеш на вакзале? Ды не трасі ты гэты плашч, дай павешу.

— Э-э-э... Я... Я... Са мною здарылася нешта неверагоднае,— і ён, чамусьці азіраючыся, запытаўся шэптам: — Да цябе ніколі ніхто не з'яўляўся, хто б прымусіў падумаць, што з табою не ўсё добра?! Штосьці такое туг...— паказаў на галаву.

— Ну, Халадневіч,— яна ледзь стрымлівала смех.— Помніш, мы некалі смяяліся, хто каго перасмяе... Гульня такая была ў нас. Давай пасмяемся!

— Ты сур'ёзна?

— А ты са сваімі дурнымі пытаннямі?

Яны прайшлі ў пакой.

— Твае бацькі?..

— Памерлі. Тата ў дзевяноста першым, мама ў дзевяноста трэцім.

— Мае трошкі раней. У вас... У цябе амаль нічога тут не змянілася. Я неяк хацеў зайсці, павіншаваць цябе з днём нараджэння. Гадоў дзесяць таму назад.

— Добра, што зайшоў сёння. Ну... Сядай дзе-небудзь. Ты ж хочаш есці, я якраз ішла ў магазін па прадукты. Пайду што-небудзь куплю.

— Не ідзі. Застанься. Я магу абысціся кавай.

...І яна варыла каву. Ён быў тут жа на кухні, сядзеў за сталом, але ўжо без кашулі. Яе яна замачыла ў ванне і цяпер казала яму:

— Разумееш, я не люблю ніякага піжонства. Але да мяне ніколі не прыходзілі мужчыны ў брудных кашулях. Ты першы. На, пі...— паставіла перад ім кубак з кавай.

— Ты не паверыш, я ўпершыню без усялякай прычыны не пайшоў на працу. Нават не пазваніў у лабараторыю.

— Бяры прыклад з мяне... Я ўвогуле не прывязана ні да якай службы. Вольны мастак. Зрабіся і ты хоць на тыдзень вольным,— яна падсела да яго, маленькімі глыточкамі адпівала каву са свайго кубка,— У мяне шалёная ідэя. Давай заўтра з раніцы махнем да маёй сястры. Яна жыве недалёка, пад Мінскам. Сажалка, луг... У сажалцы во-о такія карасі!.. Ну, давай, думай, Халадневіч. Мой «рэно» на ходу... Там і адзначым твой візіт да мяне.

— А я мог і не прыйсці... Ва ўсялякім выпадку, такіх думак у мяне не было. І калі б не ён...— абарваў сябе на слове, адчуўшы, што сказаў лішняе.

— Каго ты маеш на ўвазе? Ну, дагаворвай... Дагаворвай, я — цікаўная.

— Разумееш... Я нават пэўна і не ведаю, ці быў «ён»... Гэта здарылася некалькі дзён таму назад. Да мяне прыйшоў я... я сам.

Вар'яцтва, праўда? У яго нават вось гэты маленькі шрам быў на губе. І ўвесь ён...

— Быў такі страшны і валасаты... У-у, Халадневіч,— яна разрагаталася.— Ты проста стаміўся. Ведаеш, ідзі прыляж... А я спаласну тваю кашулю.

Ён пагадзіўся. Праз нейкі час яна на дыбачках падышла да канапы... Спіць... Зусім не падобны на таго, ранейшага Халадневіча. Як на каго працуюць гады. Яна ведала мужчын больш цікавых у яго ўзросце. Штосьці скруціла яго, прыціснула да самага краю, за якім выключная абыякавасць да ўсяго. Халадневіч расплюшчыў вочы. Пацягнуўся насустрач ёй:

— Хадзі да мяне...

І яна пайшла. І ніхто з іх ужо дакладна не мог сказаць, як доўга цягнуўся астатак дня, якім быў вечар,— усё склалася ў душную летнюю ноч, з засмяглымі губамі, гарачым дыханнем і абрыўкамі бессэнсоўных слоў, якія спляталіся ў адно-адзінае: яны разам.

Дзесьці пад раніцу ён папрасіў:

— Можна, я застануся ў цябе на некалькі дзён?

— Толькі пасля таго, як я адасплюся.

Але ёй не спалася... Ужо чулася яго роўнае дыханне і абуджаны ранак стукаўся ў вокны, а яна ўсё спрабавала разабрацца ў сваіх пачуццях. Што для яе цяпер гэты чалавек, які так не падыходзіў да нечага эпізадычнага. З Антонам было ўсё іначай. Яна загадзя ведала, што гэта толькі момант. А тут працяг... рамана, якога не было. Дзесьці далека-далека, што засталося незваротна ў гадах, быў пралог, прэлюдыя, і вось цяпер працяг... Ён яе мужчына, і яна баіцца сваей логікі. Пачуцці лагічных раскладаў не ведаюць. Але якая логіка? Прыйшоў нехта, каго шмат гадоў таму назад яна выкрасліла са сваёй памяці, і яна так лёгка дазволіла яму стаць блізкім. Як і чым ён жыў усе гэтыя гады? А, урэшце, навошта ёй пра гэта ведаць. Таго не было, што было без яе. І гэта ісціна. Яна здзівілася, калі пачула, што ў другім пакоі звоніць тэлефон. Для некага распачаўся дзень... І, напэўна, дажджлівы. За вокнамі — шэрасць. Ускочыла, прайшла да тэлефона, зняла трубку... Спачатку падумалася, што мог званіць Антон, але гэта была сястра. Сказала, што ўчора прыязджала ў Мінск, хацела забраць нейкія рэчы з хімчысткі, але спазнілася. І цяпер хацела б, каб гэтыя рэчы забрала яна, Віка. Заходзіла да яе, але не застала дома, таму ўкінула квіток у паштовую скрынку...

Гэта ж трэба, не пачула, як званіла ў дзверы сястра! Пра што гаворка, вядома, яна забяжыць у хімчысгку. Дарэчы, учора яна не даставала пошты...

— Віка!

— Прачнуўся ад званка? — Яна на хаду накідвала на плечы халацік,— Нейкія просьбы ў сястры... На хвілінку выйду, забяру пошту...

І, калі вярнулася, затрымалася на кухні. Паклала на халадзільнік квіток, разгарнула «Вячэрнюю газету». Прабегла позіркам па аб'явах...

— Віка, ты дзе?

— У магазін давядзецца ісці табе,— адгукнулася яна,— а не, дык памрэм тут з голаду. Як цікава! — з разгорнутай газетай пайшла да яго. Ён ужо складваў канапу. Яна працягвала: — Слухай, можа, які твой сваяк? Яшчэ спадчыну атрымаеш. Агенцтва «Навін» паведамляе: «Ля берагоў Аўстраліі разбілася яхта мільянера Ігара Халадневіча. Цела нябожчыка апазнаецца. Расшукваюцца спадчыннікі»...

— Дай газету!

Яна падумала, што з ім здарыўся нейкі ўдар.

— Мо і сапраўды твой сваяк?

— Ці можа такое быць?! Віка... У Аўстралію павінен быў ляцець я... У аўстралійскім нацыянальным банку быў адкрыты рахунак на маё імя... Але я пачаў расшукваць цябе. Значыцца, гэта ён... Я ж тут... з табою! — адшпурнуў газету.— Дзе-небудзь паблізу ёсць стаянка таксі? Мне тэрмінова трэба ехаць!

— Куды, Халадневіч?

— Да сябе. Што сталася з маімі лазернымі распрацоўкамі? Ён мог забраць іх з сабой! — і Ігар Апанасавіч кінуўся ў пярэдні пакой, схапіў плашч...

— Чакай,— яго нервовасць перадалася ёй.— У мяне ж машына, я адвязу цябе!

І праз якіх паўгадзіны яны ўжо былі ў кватэры Ігара Апанасавіча. З таго вечара тут нічога не змянілася, нават акно было прыадчынена. Вецер варушыў шторку. Дзве зялёныя папкі ляжалі на стале. Адна з іх была разгорнутая, і некалькі аркушаў паперы вытыркалася з яе. На верхнім, на палях, буйнымі літарамі было напісана: «Ты памыліўся тут! Зрабі правільны разлік!»

— Няўжо?.. Наконт гэтага месца ў мяне не было ніякіх сумненняў.

Ігар Апанасавіч сеў за стол... Схапіў аловак. Слупкі лічбаў імкліва кладліся на аркуш. Нарэшце падняўся з крэсла:

— Неверагодна!.. Віка... Магчыма, ён д'ябал, але ўсё сыходзіцца... Мой лазерны промень перавышае хуткасць святла. Я абверг тэорыю Эйнштэйна! Наша цывілізацыя ступіць на новы шлях развіцця. Віка...— ён сціснуў яе ў абдымках.— Ты разумееш, што гэта такое!

Праз пяць гадоў акадэмік Ігар Апанасавіч Халадневіч у варшаўскім гатэлі «Орбіс» нецярпліва пазіраў на гадзіннік. Праз гадзіну ён павінен рабіць даклад на міжнародным сімпозіуме, але была дамоўленасць з Вікай. Яна павінна была званіць яму ў гэты час, каб сказаць, калі зможа прыехаць да яго ў Варшаву. Тэлефон маўчаў. Час між тым бег, і Ігар Апанасавіч вырашыў, што ў перапынку, адразу пасля свайго даклада, ён паспрабуе дазваніцца дамоў сам.

Калі выходзіў з гатэля, да яго падышоў парцье:

— Пан Халадневіч?

— Ён самы...

— Толькі што вам была тэлеграма Мы думалі, што вы выйшлі раней. Спытайцеся ў пана дырэктара...

Праз некалькі хвілін Ігар Апанасавіч ужо разгортваў тэлеграму. Літары паплылі перад вачыма: «Тэрмінова вылятай. Віка трапіла ў аўтамабільную катастрофу».

Ён расшпіліў верхні гузік кашулі, пакутліва пацёр скроні:

— Як не паверыць у наканаванасць чалавечага лёсу?!

1996

## ДАЛІНКА

Нізкая мясціна пасярод вёскі, зарослая густым кустоўем, змрочная і сырая. Але не гэта было галоўным. Пра Далінку расказвалі ўсялякія жахі. Хтосьці з вяскоўцаў неяк бачыў там свінню, якая, прысеўшы на азадак, пасміхалася зусім па-чалавечы і капытцам скрэбла сябе за вухам. А некага пераходзіла цяля і, спыніўшыся, гаўкала па-сабачы... Адным словам, Далінка была месцам небяспечным. І адно ўпрыгожвала яе: высозныя дрэвы паабапал дарогі, што перасякала Далінку. Ад іх заўсёды ішоў незразумелы гуд. Але гэта між іншым. Галоўнае тое, што ў Вялікім пісанні сказана: «Не памрэм, але зменімся».

Ён вельмі добра помніў той дзень, калі, ідучы з вясковае крамы, зазірнуў да Мікіткі Кульгавага. Вестка радасная ў таго была. У мястэчку нявестка разрадзілася ўнукам. «Ну, дык кульнём за майго ўнучка»,— наліў чарку Мікітка. І яны кульнулі. А потым была яшчэ адна чарка і, як час паказаў лішняя. Ужо падыходзячы да сваёй хаты, пачуў як нешта кальнула пад левай лапаткаю, потым запякло. А тут Галенка, жонка ягоная, на парозе з'явілася: «Нацмокаўся, цмок стары... Ідзі лучыны нашчапай. На заутра падпалу няма. Чым печ распалю?!» І ён пайшоў шчапаць лучыну. Паклаў на калоду смалісты сук, падняў сякеру... І ўсё! Як падкасіла чалавека. Зваліўся проста тут, ля калодкі. Але гэта быў не канец.

Праз колькі хвілін ён ужо зразумеў, што ў ягоным жыцці пачынаецца нешта новае. Ён нібыта ажыў — думаў разважаў... Бачыў усё тую ж калодку, сякеру ля яе і сябе самога тут жа. Нага неяк дзіўнавата падкурчылася, лоб упёрся ў калодку. Так, гэта было ягонае цела, а што ж тады ён такое цяпер? Хацелася памацаць сябе за руку, але ніякай рукі няма. Вунь яна, адкінутая, з жоўтым ад тытуню пальцам. Агарнула разгубленасць. Пад неіснуючай лыжачкай засмактала нейкая страшная адзінота. Вачэй няма, а ён усё бачыць. Ды і чуе таксама. Во, з якім лямантам бяжыць Галенка. Упала, схілілася над ягоным целам, а ён вось тут, побач. Хацеў нешта сказаць — не атрымліваецца. Мовы няма. Як ні пнуўся, ні слоўка не выціснуў а вось жа разважае... А галава там. Без галавы думае. Але што цяпер тое згадваць? Пэўна, ужо і Галенка не памятае той калодкі, той нагі ягонай падкурчанай. Напэўна, з году ў год ходзіць на Радаўніцу на ягоную магілку. Час ад часу і ў царкву заглядвае, моліцца за супакой ягонай душы. Ведала б Галенка, што душа гэтая ўжо мо які дванаццаты гадок матляецца на галіне, што распасцерлася над Далінкай, і ніякага супакою ёй няма.

Як ён апынуўся на гэтым дрэве, дагэтуль уцяміць не можа. Нейкая сіла падхапіла, нанесла і кінула на галіну. Ды і не кінула, бо не было чаго кідаць. Так, нейкі туманок празрысты, пасмачка, акравачак нечага нябачнага. Але гэты акравачак бы прыкіпеў да гэтай галіны. Праўда, не зусім. Ён можа спускацца ўніз, туды, на Далінку... Але толькі на яе. Уверх дарогі няма. Як ні пнуўся — бы сцяна якая. Кідаўся і ў бакі: у адзін, у другі! Таксама глуха. Нешта не пускае. А ўніз можа...

Во-о, зноў курыца Іванішына пад ім на Далінцы сакоча. Гняздо ў яе там, ці што? З гэтай курыцаю дык проста смех. Неяк дастала яна яго сваім сакатаннем. Дапякла. Ён і рынуўся ўніз, на яе... І, о дзіва! Прайшоў, праткнуўся праз пер'е, праз скуру. Вантробы курыныя пабачыў. Фу-у, паскудства нейкае. І мазгоў ніякіх, так, чарвячок замораны. Аж плюнуць схацелася. Але — як жа ён плюне? А вось курыца плюнула, як толькі ён пра гэта падумаў. Са смакам, пачалавечы. Гэта яго моцна тады ўразіла. А потым, калі ўжо зноў матляўся на сваёй галіне, раптам павесялела. Дык калі ён у курыцу Іванішыну залез, то і ў чалавека залезці можа. А тут, на тую думку, і чалавек... Якраз Сцепка Яўхімаў ішоў. Бы кулём нейкім нябачным зваліўся. І да Сцёпкі, да галавы ягонай. Пнуўся, пнуўся і ніяк... Моцная мазгаўня ў Сцёпкі. Не прайшоў не прабіўся. Вярнуўся на галіну. Падумалася, што трэба на бабе нейкай паспрабаваць. Бабы, яны слабейшыя. А вунь і баба! І ніхто іншы, як Галенка ягоная. Рэдка яе тут на Далінцы ён бачыць. Пастарэла Галенка, здала надта. Ногі зусім скрывіліся, але ж неяк шлэпае. Падаўся ўніз, да яе. Торкнуўся, да цела яе пранік. І тое самае, што і са Сцепкам. Не па ім баба! Ды ў іх заўсёды так і было: каса на камень. А-а-а-т!..

Але да людзей ён больш не чапляўся. Да курыцы тым больш. Смурод адзін. Адно і заставалася: глядзець і глядзець на дарогу. І ўдзень і ўночы. Але позняй парою было нецікава. А вось днём нешта ўдавалася выхапіць, як кажуць, з таго, цяпер для яго ўжо чужога, свету...

Во-о, шкандыбае хтось па дарозе. І не адзін. Той, што ў кепцы зашмальцаванай, ці не Васька Дзірванок. Ага-а, ён, Васька! А маладога ўжо і не ведае. Во-а, як прэ. А Васька наўздагон...

— Чуй, Толік,—даляцела да яго.—Дык ты што, сапраўды ў Народны фронт падаўся?! Лістоўкі іхнія расклейваеш?

Васька замоўк. Малады не адзываўся. Яны ўжо пераходзілі Далінку. Але ён пачуў апошнія Васькавы словы:

— Смаркач ты яшчэ... Да каго прыткнуўся?

Штосьці пахаладнела ў ім. Думкі закруціліся, замітусіліся. Ва-а... Нейкі Народны фронт там у іх! Але ён жа не дурань! Фронт ёсць фронт! Ён жа сам, калі немец сюды папёр, таксама... Праўда, пад канец, калі ўжо наступление ішло, на Першым Беларускім быў. Дык мо вайна ў іх якая там грамадзянская? Але — не! На вайну не падобна. Вунь Іваніха плёнку з парніка здымае. Дурная баба, што ты робіш? Колікі саб'еш! Ну, нарэшце, з другога боку зайшла. Значыцца, фронт нейкі!.. Цяжкая справа. Ён ведае. Праўда, сам толькі да Варшавы дацёгся, а нібы праз пекла прайшоў. Там і параніла, пад Варшавай. За гэта і ордэн далі. Але раненне было лёгкае. А вось капітану Міхайлаву не пашанцавала, батальённаму іхняму. Жывот разнесла. Ляжаў пад сасонкай... Да яго павярнуўся: «Дзямчук, не мітусіся... Мы яшчэ недзе там... сустрэнемся!» Э-э, памыліўся капітан. Мо і ён вось гэтак дзесьці там, пад Варшавай, на сасонцы той матляецца. І яму цяжэй.

Я тут, між сваіх... А ён нават мовы польскай не ведае. Хаця... Столькі гадоў прайшло! Відаць, вывучыў. Разумее палякаў і не так горка. Во і я гляджу і гляджу ўніз... От, на ровары хтосьці едзе. Спыніўся ля Іванішынай хаты.

— Цётка Ганна, Вадзік до-ома?

Ай, Іваніха... І што ж там за гарод такі ў яе, што ўсё корпаецца, корпаецца. Але вось разагнулася.

— На торф з бацькам падаўся.

— Дык скажыце, калі вернецца, што Трында-бізнесмен прыехаў. Тавару гару ўсялякага навёз. Без накідкі. Але бярэ даларамі.

А-а?! Даляры... Бізнесмен. Што ж та за слова такое? Э-э, вось і выкруцілася... То ж недзе напрыканцы сямідзесятых бізнесмены амерыканскія ў суседні калгас прыязджалі дзяліцца вопытам. А тут тавар развозіць бізнесмен нейкі за даляры. І ўсё роўна бы свой чалавек, да якога прывыклі ўжо. Дык мо амерыканцы прыйшлі? Мо, сапраўды, вайна якая? Але чакай, чакай... Колькі ўжо тут матляюся, гляджу ўсё на дарогу гэтую, ды не прыкмячаў каб прабухала пяхота ці артылерыя. Дык мо голымі рукамі ўзялі, што называецца, без бою? Немцы ж, во, таксама не надта наязджалі. Першы раз з'явіліся — падаткам абклалі, а за другім разам палілі... Але ж тады сюды не ўваткнуцца было. Наўкола балота, багна. Толькі дурань сунуцца мог. Цяпер усё іначай. Ваду звялі, асушылі. Вунь якая дарога! Танкавая брыгада прайсці можа. Не праходзіла. І ўсё ж нейкі бізнесмен... Даляры... Хм-м, ціка-ава!

— Мар'я!

О-о, Іваніха зноў разагнулася. Мар'ю Фядутку ўгледзела, што за дарогай у сваім гародчыку калупаецца.

— Ганна, ты? Цябе й не відно з-за сланечнікаў.

— Я... Мо ў цябе праграма ёсць? Калі гэта «Санта-Барбару» трэба глядзець?!

Угу-у... Санта-Барбару нейкую глядзяць. Што ж гэта такое?! Імя жаночае, ці што? Далібог, амерыканцы... І нешта падкінулі ім, каб глядзелі. Мо дзіця якое? Ды яшчэ і па праграме... Ну, хаця б на хвілінку ў тое жыццё ўкруціцца, разабрацца, што да чаго.

Нейкая млявасць. Усё роўна бы задрамаў. Дудкі! Цяпер сну ў яго ніякага. І хоча забыцца, упасці ў нейкую несвядомасць, і не можа. Прыкідвае, разважае, назіркам сочыць за дарогай. Здаецца, кожную пясчынку на ёй вывучыў. Во-о, падлетак нечы ідзе. Ён ужо і не ведае гэтых падлеткаў. Без яго нараджаліся. Натапыраны нейкі, злосны.

— Пецька-а! Пецька-а!

Бяжыць нехта ўслед. Дзеўчанё нейкае. Цьфу, ногі непрыкрытыя, а ўжо, лічы, дзеўка. Чыя ж гэта можа быць? Не, не ведае. Хутка, мабыць, як ягоная Верка, лахі пад пахі і ў мястэчка! Верка... Штосьці ж ні разочку яе тут не ўгледзеў на Далінцы. Мо ў таксоўцы якой пралятала? Ці ў аўтобусе? Ды нешта ж і аўтобуса рэйсавага даўно ён не бачыў. Не едзе Верка! Во, не стала яго, мо і рухнула ўся сямейка. Развалілася. Мо, з Віцькам чаго пасварыліся, не падзялілі? А дзяліць было што! Дабра нямала ён пакінуў. Хоць, бывала, і чарку ад сябе не адкідваў. З-за той, другой, у Мікіткі Кульгавага, можна сказаць, і памёр. Яму ўсё не давала спакою тая чарка. Каб не яна, мо і не матляўся б тут, на гэтай галіне. Ва ўсялякім выпадку, гадочкаў з пяць яшчэ там працягнуў бы...

— Пецька! -дзяўчына аддыхвалася.— Ты грошы не ўзяў. Тут во семдзесят тысяч. Маці ў Антопаль едзе. Адразу з фермы...

Або-о! Семдзесят тысяч! Здалося, аж дух яму заняло. Хм-м, дух! Ён увесь цяпер дух. Во-о, як сцяўся ў камячок. Семдзесят тысяч! Адкуль жа ў іх цяпер такія грошы? Не памыліўся-такі: пры амерыканцах жывуць. Пры палякох у зрэб'і хадзілі, пры Саветах на ровары ўсе ўзбіліся, а пры амерыканцах... Ужо і на семдзесят тысяч узлезлі! Не-е, ён пра такія грошы і думаць не мог калісьці пры тым жыцці. Колькі ж гэта ў яго пенсія пад канец была? Дваццаць восем рублёў, здаецца? Не-е, дваццаць восем гэта ў Галенкі... А ён ужо ў васьмідзесятым трыццаць два рублі атрымліваў. І як жылі яны з Галенкаю! Як жылі! На пенсіі на дастатак ускараскаліся. Разам ажно шэсцьдзесят рублёў атрымлівалася. А тут семдзесят тысяч!..

Чые ж гэта дзеці будуць? Ён зірнуў на Далінку. Пецька ўжо быў дзесьці па-за ягоным зрокам, а дзяўчынку бачыў. Ішла назад, пабліскваючы аголенымі нагамі. Фу-у, бессаромніца! Штосьці пра ферму казала. Мабыць, Лявонкава. Во і зразумела. Лявончыха калісьці сама добраю круткай была, такою і дачку выгадавала. Э-э, ядры твой корань! Крутка круткаю, а семдзесят тысяч... Што ж яна там, у Антопалі, будзе купляць такое?! За такія грошы Антопаль увесь скупіць можна. От як разжыліся! Яму хацелася плакаць ад нейкай сваёй безвыходнасці. Ды за такія грошы!.. «Жыгуль» можна, як ахнуць, адхапіць! Колькі ж гэта ён каштаваў? Шэсць-сем тысяч... А тут семдзесят! Семдзесят тысяч! О, які дастатак амерыканцы далі. Ей жа бог, Лявончыха ўвесь Антопаль скупіць. Ну, а Віцька мой? Што ж там у маіх?

Э-э, неяк бачыў тут яго, на Далінцы. Пакутаваў тады надта. Віцька налізаўся недзе, як цуцык. Ног не чуў сваіх. Ішоў, бы кашалі плёў. А пасярод Далінкі і зваліўся. Уткнуўся галавою ў крапіўнік. Ды якая там галава ў п'янтоса! Квач нейкі. Во-о, дык тым квачом дзёўб зямлю. Як жа яму хацелася тады курыцу Іванішыну ўгледзець. Ён бы такія штукі паказаў Віцьку, што таго назаўжды ад пітва адвярнула б! Шкада, не было тады курыцы на Далінцы. Толькі праз які час Каця з'явілася, гэта значыць нявестка ягоная, жонка Віцькава. З калёскамі нейкімі. Усцягнула Віцьку на драбінкі і паперла тыя калёскі паперад сябе. Каб на тым свеце быў дальбог, лейцы ў рукі ўзяў бы... Сам во, з-за той, другой, чаркі ў Мікіткі Кульгавага... Га-а, а мо і не п'е Віцька. З чаго гэта ён так вырашыў? Ці ж бы пёрла Каця з тымі калёскамі. На п'янюгу рукой махнула б! Ляжыш і ляжы сабе да скanання. Цікава, семдзесят тысяч! Мо і Віцька таксама такімі грашамі варочае?

Яму стала чамусьці непамерна шкада сябе. За што Бог так скараў яго, век кароткі адмераў? Галенка ж ягоная шчэ жыве. А дзесьці ж пад восемдзесят. Ёй заўсёды больш шэнціла. Бывала, як парсючкоў купіць, дык і вяліся... Рука лёгкая ў Галенкі. У яго цяжэйшая была, не ў руку ўсё ішло. Але хату сам ставіў. Не-е, гаспадар ён быў неблагі. Бог за іншае нешта скараў! Хм-м, семдзесят тысяч!

О-о, як шпарыць!.. Хто ж та такая? Манька Васіля Каморніка. Яна ўсё хустку набакер завязвала.

— Манька!

Ага-а... Іваніха, цяпер ужо не з гароду, з хаты выйшла.

— Ма-анечка,— даганяе Васіліху— Ты мо ў канторы была?

— Якраз адтуль іду, цётка!— прыпынілася Маня — І вы не марудзьце... Грошы прывезлі. Толькі мала. Наўрад ці касірка на ўсіх расцягне. Мне во толькі сто дваццаць тысяч дала. Астатнія невядома калі.

Ён ажно затрапятаў увесь. Ды ці не здурнела Манька? Бач, ёй ужо сто дваццаць тысяч мала. Куды ж яны там дзяюць грошы гэтыя? Па выгляду, дык жа і у шаўках не ходзяць. Боты нейкія на Маньцы. гумовікі. А сонца ж во як жарыць... Прыслухаўся.

— Вы б, цётка Ганна, транты якія глянулі. Мо што ад вашых хлопцаў засталося? — казала Васіліха.— Мой малодшанькі школу во закончыў... Дарэшты штанцы дадраў! А мо ў пэтэвэ якое падасца, дык жа зад прыкрыць трэба. У мястэчку як глянула, па сто тысяч штаны каштуюць!

— Я пагляджу, Маня,— запэўніла Іваніха і параіла: — А ты б мо ў Антопалі прадала што з харчу.

— Што? Што прадасі, цётачка?! Я раней і прадавала. Яшчэ за тымі часамі, ранейшымі. Бывала, дзесятак яечак прадам, во вам і рубель сорак. Два кілі хеку марожанага можна было купіць. А цяперака... Ну, прадам я дзесятак за дзесяць тысяч... А кіле таго самага хеку ўсе трыццаць каштуе! Дык ці варта прадаваць тыя яйкі, цётачка? Жыццё такое, што і не прадаць, і не купіць!.. Да згубы нейкай усе ідзём!..

На яго бы праясненне якое найшло пры гэтых Маньчыных словах. Здалося, нешта кальнула, запякло, як тады пад лапаткаю, пасля той, другой, чаркі ў Мікіткі Кульгавага. Унізе, на Далінцы, сакатала Іванішына курыца. І, доўга не думаючы, ён рынуўся ўніз, на яе... Курыца страпянулася. І, накульгваючы, пабегла да дарогі, да Іваніхі, да Манькі. Спынілася. Трапятнула крылом. І з нейкай незямною горыччу, з вялікім адчаем мацюкнулася!.. Бабы атарапелі і тут жа заенчылі. Кінуліся прэч, як мага далей ад гэтай курыцы, ад Далінкі...

Ружовы паўкруг лянотнага ранішняга сонца павольна выкочваўся з-за далягляду. А ля вясковага калодзежа ўжо бразгалі ланцугом. Старая Мікіціха выцягвала вядро. Азірнулася. Да калодзежа падыходзіла яшчэ заспаная Лявончыха.

— Ці чула ты, Гэлька...— Мікіціха паставіла вядро на зямлю.— Гэта ж учора стаялі бабы на Далінцы... Ну, ведаеш, Манька Васіля Каморніка і Ганна Іваніха. Гаманілі пра нешта. А тут... Адкуль ні вазьміся — Іванішына курыца... Ды як мацюкнецца!.. О-о, страху было!

— Ай, цётка...— адмахнулася Гэлька.— Галавы сваей не тлуміце! Жыццё во-о якое... Усе мацюкаюцца. Думаеце, курыцы салодка цяпер? Не корміць яе Іваніха. Во і мацюкнулася...

І Гэлька загрымела калодзежным ланцугом.

А сонца лянотна ўздымалася і ўздымалася, рыхтуючыся лінуць свае промні і на Мікіціху, і на Гэльку, і на вечны, трывожны спакой Далінкі.

1996

## КАХАННЕ ДЫСІДЭНТА

...Цяжка паднялася з канапы, уражаная: да чаго б гэта? Гадоў дваццаць не сніўся і раптам з'явіўся ў сне, нібыта выплыў аднекуль, каб сказаць адну-адзіную фразу: «Я забяру ў цябе свой фотаздымак!»

Ягоны фотаздымак сапраўды быў у яе. Днямі наткнулася на яго ў альбоме, шукаючы свой. Наколькі памятае, ён не любіў здымацца, і гэтае фота было ў яго ці не адзінае, на ўсе выпадкі жыцця. Такое самае дзесьці напрыканцы шасцідзесятых яна бачыла ў вітрыне невялічкай «ксенгарні» на вуліцы Фоксаль у Варшаве. І гэты ж здымак у чорнай рамцы гады тры таму назад прамільгнуў на экране тэлевізара па нейкай тэлевізійнай праграме. «У Швецыі, недалёка ад Стакгольма, у гарадку Н. памёр вядомы кінарэжысёр...» — удакладніў тады дыктар, нібыта расшыфроўваючы ёй тую чорную рамку. І вось гэты сон. Навошта? Дзеля чаго? Падняла з падлогі п'есу, якую намервалася чытаць перад тым як заснула. Спынілася позіркам на назве «Уніз па рацэ, альбо Развітанне з радзімай». Можа, нейкім чынам гэты сон звязаўся з назвай п'есы, але да чаго тады тут яго фота?

На дзвярах вісела запіска, якую прымацавала дачка: «Ма-а, я пайшла на шэйпінг!» Ну вось, праз якую гадзіну-дзве збяруцца яе хатнія, а яна пакутуе над гэтай фразай: «Я забяру у цябе свой фотаздымак!» Як гэта ён можа яго забраць — чалавек, якога не стала тры гады таму назад? Глупства нейкае! Проста глупства. А тым часам штосьці ў яе думках адкручвалася назад, да нейкага не зусім яшчэ выразнага «стоп!». Фотаздымак... Фотаздымак... Ага-а... Вось яно што!..

Яна лёгенька падымаецца па лесвіцы. Нарэшце дзверы з маленькай металёваю шыльдачкай «Вадзім Ізмайлаў». Шукае ў сумачцы ключ і ніяк не можа знайсці яго. Дзесьці згубіўся. І Вадзіма цяпер няма. Якая роспач! Але на ўсялякі выпадак націснула на кнопку званка. І там, за дзвярыма, пачуліся крокі. Дзверы расчыніліся...

— Вадзя-я,— выдыхнула радасна — А я згубіла ключ. І адразу ў пярэднім пакоі высыпала на падлогу усё, што было ў сумачцы, можа, усё-ткі ён знойдзецца? І ключ сапраўды знайшоўся. Усё, што высыпала, пачала запіхваць назад у сумачку.

— Што гэта ў цябе ў руках? — запытаўся ён.

— Фотакартка!

— Чыя? Замялася:

— Ат... Валяецца! Знаёмы аднакурснік.

— Парві.

І яна парвала, хутка, на дробныя-дробныя шматкі. Ён прыціснуў яе да сябе. З нейкай сумнай іроніяй пасміхнуўся:

— Неразумніца... Я пажартаваў. Хіба ж так можна? Вось і мае фота калі-небудзь парвеш і выкінеш. Зробленае аднойчы мае звычку паўтарацца.

Яна расплакалася. Слёзы нагарнуліся раптоўна.

— Гэта ж толькі аднакурснік. А ты... Ты... Я памру, як цябе калі-небудзь не стане. Я сапраўды памру. Ты не верыш?

...Сарвала з дзвярэй запіску дачкі. Незразумелае пачуццё гняло неймаверна. Туды-сюды пахадзіла па пакоі. Спынілася ля акна. На балконе ў гаршчэчках ад лета чарнелі даўно высахлыя кветкі. «Лянотнаю ужо нейкаю стала. Даўно трэба было выкінуць гэтыя сухія стаўбуны!» І што ж такое на яе найшло? Ніяк не можа адкараскацца ад гэтага сну! Ну, прысніўся... І хай сабе. У яе, во-о, балкон неприбраны. І п'есу трэба прачытаць да заўтрашняй раніцы, а тут... Зараз пазбіраюцца ўсе: муж, сын, дачка. І ўжо ўвесь вечар трэба будзе круціцца: таму падай, таму паднясі, з тым паразмаўляй. Узяла п'есу, прысела на канапу... Не, чытаць яна відавочна не можа!

Цікава, хто цяпер жыве ў той кватэры? Маленечкая «хрушчоўская» аднапакаёўка. Пісьмовы стол, кніжныя паліцы, камін з белай цэглы. Яна ўсё хацела паставіць на яго кветкі, звычайныя хатнія вазоны, ды так і не паставіла. Што цяпер з тым камінам? Можа, яго разбурылі, а можа, паставілі кветкі? Ды якая ёй розніца! Каб на цяперашні розум, яна па-свойму абсталявала б там кухню. Замяніла б фіранкі. Жоўты колер не надта пасаваў да колеру сцен. Тую маленькую кухню яна любіла. Былі тыдні, калі яна была проста яе пакоем. Адно кепска, не было дзе прылегчы. Зрэдку нехта прыходзіў. Ну, скажам, Эдзік, знаёмы Вадзеў урач. Яна нібыта зноў апынулася там, за тым белым столікам. Насупраць сядзеў Эдзік.

— Ты толькі ўспрымай усё правільна,— казаў ён.— Гэта нават не алкагольны запой, а хвароба...

Даўняя хвароба нашай інтэлігенцыі. У Вадзіма яна асаблівая.

Яна кіўнула галавой:

— Угу-у... За пяць дзён дзевятнаццаць пляшак вермуту.— Узяла з падлогі пляшку,— «Ружовы. Адзін рубель трыццаць пяць капеек».,. Вадзя зусім слабы, ужо і ўстаць сам не можа.

— Я сёння ўкалю яму што-небудзь сардэчнае. Слухай, а ты кепска выглядаеш. Бледная. Магла б пакінуць яго аднаго на дзве гадзіны. Тут дзесьці паблізу кінатэатр... Паўсюдна ідзе прэм'ерны фільм «Белае сонца пустыні».

З пакоя пачуўся лёгкі шоргат, рыпенне канапы і хрыплае, ледзь чутнае, амаль неразборлівае:

Девять граммов в сердце

постой — не зови…
Не везет мне в смерти,
повезет в любви!

— Прачнуўся! Я найду да яго.

— Чакай... Калі б ты змагла ўгаварыць яго хоць што-небудзь з'есці, усё пайшло б на спад. Паспрабуй, га-а? Ну, хоць некалькі лыжак булёну.

— Зараз звару...

Потым яна сядзела перад Вадзем на старэнькай, ледзь не праваленай канапе з міскай булёну. Каб яго не раздражняла святло, зацягнула акно цяжкой шторай і ўключыла маленькі цьмяны начнічок, падарунак польскага пісьменніка, што адзін з першых у тыя далёкія шасцідзесятыя выехаў у Ізраіль. Яна сама прывезла гэты начнічок з Варшавы.

— Вадзя... Вадзечка... Я ж адчуваю, ты не спіш. Расплюшчы вочы. Я табе булёну прынесла. Паеш. Прашу цябе.

Ён нязгодна паматаў галавой:

— Бр-р-р...

— Вадзя, ну давай, зусім трошкі. Адну лыжачку. Тады я скажу табе, хто самы мудры, самы разумны.

Ён прыўзняў галаву, падаўся да яе. Булён праліваўся, але нешта ён праглынуў.

— Во-о і добра. А самы мудры, самы разумны ў нас Вадзя. Вадзім Ізмайлаў. Цяпер яшчэ адну лыжачку, і я скажу табе, хто самы таленавіты. Вадзя... Вадзечка самы таленавіты. А самы прыгожы? Ну... Ну яшчэ лыжачку!

Яна адставіла міску. На донцы засталося толькі трошкі варыва. На ягоным ілбе выступілі кропелькі поту, але твар памякчэў разгладзіўся... Ён зноў спаў. І сон гэты быў доўгі. Але вось страпянуўся, уздрыгнуў...

— Што? — схілілася над ім,— Табе кепска?

— Прыбяры пляшку,— нечакана сказаў ён роўным ціхім голасам.— У мяне пачынаюцца кашмары. У сне. Ляж да мяне і раскажы што-небудзь цікавае, каб я не спаў.

— Я не ведаю, што расказаць.

— Што-небудзь. Можаш са свайго дзяцінства. Раскажы пра горад, дзе ты жыла раней. Я баюся заснуць...

Яна лягла побач і пачала расказваць, пакуль яе не змарыў глыбокі сон. Але і праз сон адчула ягоны позірк на сваім твары. Расплюшчыла вочы.

— Які сёння будзе дзень? — папытаўся ён.— Чацвер? Зразумела. А дванаццатай калегія. Я павінен быць на студыі. Апошні шанц, што разгледзяць маю заяўку.

— Ты зможаш паехаць?

— Паспрабую,— І праз паўзу пацікавіўся: — Чым ты тут харчавалася?

— Ела катлеты...

— Я ж цябе прасіў... Гэты васьмікапеечны паўфабрыкат мне падыходзіць. А ты жанчына. Табе трэба есці натуральны прадукт. Нармальнае мяса, каб захаваць колер скуры на твары.

Яна пацiснула плячамі, расшмаргнула штору, расчыніла фортку. Даўкае цяжкое паветра пачаў свідраваць скразняк. Досвітак толькі займаўся. Адзін за адным ішлі першыя тралейбусы.

— Навошта я табе? — пачула ягоны голас.— Я нічога не магу табе даць. Мне ўжо амаль сорак. Пакінь мяне. Я хачу, каб ты мяне пакінула.

— Ты кажаш няпраўду,— падышла да яго. Абняла. Ён разняў яе рукі.

— Мне трэба памыцца. Цела бы пераехалі. Ты зможаш мяне пагаліць?

— Думаю, што змагу

Ён раптам заплакаў...

— Вадзя... Вадзечка...

— Я нават жанчыны ў табе не адчуваю. Ты — святая... Ты — больш чым дачка,— і ён неяк няўклюдна ўкленчыў перад ёю, абняў яе калені,- Ты сапраўды мяне не пакінеш? Ніколі-ніколі?

...Яна чула, як у пярэднім пакоі звоніць тэлефон. Апошнім часам нічога яе так не раздражняла, як тэлефонныя званкі. Але ўсё-ткі пайшла на званок. Трубку падняла дачка.

— Ты ўжо вярнулася з шэйпінгу?

— Як бачыш. Толькі што. Яшчэ не паспела зняць абутак,— і зноў загаварыла да некага ў трубку. Яна прайшла на кухню. Ну, усё! Хопіць. Пракляты фотаздымак! Трэба ж было заснуць на нейкія паўгадзіны, каб пачуць гэтую недарэчную фразу! П'еса не чытаная. Халадзільнік пусты.

— Ліна, мо збегаеш у магазін?

— Я званіла бацьку. Ён прынясе прадукты,— адазвалася дачка.

Потым прыйшоў з працы сын, папрасіў памыць кашулю. Да яе дадалося яшчэ нешта, і вось ужо ванны пакой ператварыўся ў пральны.

— Ма, цябе да тэлефона! — зазірнула дачка.

— Хто?

— Не ведаю. Не назвалі сябе.

...Голас у трубцы сапраўды быў незнаемы.

— Алена Хведараўна, прашу прабачэння, што турбую. Хацеў бы ўзяць у вас інтэрв'ю. Я яшчэ студэнт. Праходжу практыку ў штотыднёвіку «Культура». Шмат разоў бачыў вас у розных спектаклях. Вы мая любімая артыстка.

Яна не любіла даваць інтэрв'ю. Заўсёды атрымлівалася не так, як хацелася, з-за таго, што не ўмела расказваць пра сябе, ды і не было асаблівай ахвоты рабіць гэта. Але голас быў такі малады. Ну вядома, сгудэнт-практыкант і, можа, гэтае інтэрв'ю першае ў ягоным жыцці.

— Мне хацелася б сустрэцца з вамі заўтра, калі можна. Вы не супраць? А якой гадзіне вам больш зручна?

— А дзевятай.— І дадала: — Прыязджайце да мяне дамоў. Думаю, што нейкую гадзіну мы зможам паразмаўляць. Пасля адзінаццатай я ўжо буду занята. У тэатры першая чытка п'есы. Адрас? Запісвайце...

І пасля, познім вечарам, калі ўжо ляжала ў ложку і амаль дачытвала п'есу, яна чамусьці ў думках вярнулася да гэтага хлопчыкапрактыканта. Нешта ў ім кранула яе: зусім яшчэ хлапечы голас ці прызнанне, што яна ягоная любімая артыстка. Як тут можна было адмовіць, расчараваць у найлепшых парываннях?! «Ніколі не трэба расчароўваць людзей...» І бы спатыкнулася. Зноў Вадзім... Гэта ягоны выраз. Цікава, а што сталася з тою маленькаю шыльдачкай на дзвярах: «Вадзім Ізмайлаў»? Можа, яна і да гэтага часу знаходзіцца там, а гаспадары кватэры даўно іншыя? Не, Вадзім павінен быў адарваць яе, вырваць з дрэвам, каб ніякага следу... Штосьці тоненька зашчымела, насунулася. Перад ёю вымалёўваўся зноў той пакойчык...

— Я, відаць, усё-ткі з'еду. Мяне гатовы прыняць у Швецыі...

— Ты добра ўсё ўзважыў? — папыталася яна.

— У адказ мне хацелася б расказачь табе прытчу. Слухай. Да аднаго мудраца прыходзіць юнак і пытаецца: «Скажы мне, шаноўны, які ўрад самы лепшы?» Мудрэц трошкі падумаў і адказаў: «Той, што нічога не плаціць markdownзнага кшталту творцам, пісьменнікам, мастакам, кампазітарам... за іхнюю працу». Юнак не зразумеў гэтых слоў, і мудрэц яму растлумачыў: «Іхнія творы бясцэнныя. Яны не маюць свайго сапраўднага кошту. Іх ацаніць можа толькі час»,— «Але ж творцы жывыя людзі,— запярэчыў юнак— Ім трэба нешта есці, купляць апратку і гэтак далей... Іншымі словамі, неяк жыць. Што ж рабіць у такім выпадку творцам?» Мудрэц падумаў і адказаў «Змагацца з урадам!» Але я... Асабіста я... Вадзім Ізмайлаў я ніякім чынам

не змагаюся з ім! Гэта ўрад са мною змагаецца: ён узяў і перакрыў мне кісларод... Апусціў перада мною чырвоны шлагбаум, які ўжо ніколі не падымецца. І гэты ўрад рады мяне выпусціць куды заўгодна, абы мяне не было тут!

— Чаму ты так думаеш?

— Я не думаю, я ведаю. Гэтаму ўраду не патрэбны таленавітыя людзі. Таленавіты чалавек неардынарны, ён нязручны ва ўсіх адносінах. Ён хоча рабіць тое, што яму хочацца, а не тое, што прадпісана аднекуль зверху. Яго не прымусіш, з ім трэба лічыцца, трэба няньчыцца. Я не ўпісваюся ў гэты лад. Я не ўмею расказваць на кухні анекдоты пра абвешанага ордэнамі старца і адначасова дзесьці там... на сваім службовым месцы выконваць ягоныя загады. А яшчэ лепш пад воплескі сабе падобных ствараць эпахальныя творы, за якія даюць ордэны, прэміі, пасады... Гэтыя людзі навучыліся прыстасоўвацца. Пабачыш, яны ўпішуцца ў любы час. Ген у іх такі, бальшавіцкі. Яны апраўдаюцца тымі анекдотамі: маўляў, мы ўсё разумелі, толькі чакалі зручнага моманту, каб усё перавярнуць з ног на галаву. Я іншы, даруй. У мяне адна магчымасць — з'ехаць! Пакуль яшчэ выпускаюць.

— А я? Вадзя, як жа я? — Яна нецярпліва камячыла краёк лёгкага халаціка.

Ён адказаў не адразу, але, несумненна, быў гатовы да такога яе пытання.

— Ты вернешся да сваіх...— Памаўчаў — У цябе ёсць маці, бацька, малодшыя браты. Я не маю ніякага права рызыкаваць табою, таму што не ведаю, што ў мяне будзе там. Я буду адно што вольны і не хачу ні ў чым падстаўляць цябе. Ты ж таленавітая, толькі трэба раскапаць гэты талент. Ты здолееш. Я не хачу, каб ты ахвяравала чымсьці, што дадзена табе Богам, дзеля мяне.— Ён зглынуў нейкі даўкі камяк,— Я сталы чалавек і ўсё гэта вельмі добра разумею.

Яна адчула, як падлога выслізгвае з-пад яе ног. Усё вакол бурылася, крышылася, правальвалася...

Але свет не згінуў. Раніца наступнага дня была лёгкай і прыўзнятай. Сын адмовіўся ад сняданку, папрасіў пяцьдзесят тысяч, якіх да нечага яму не хапала, і падаўся на працу. Дачка пайшла ў ліцэй. Муж абмежаваўся бутэрбродам і нечакана прапанаваў:

— У мяне сёння квартальная прэмія. У цябе роля ў новай п'есе, дык, можа, адзначым? Пасядзім вечарам у якім-небудзь прыгарадным рэстаране, трошкі расслабімся. Дзеці? Бог мой, яны дарослыя!

Сышліся на тым, што ён заедзе па яе ў тэатр. Прапанаваў падвезці у горад, але яна гэтай раніцай нікуды не спяшалася.

— Да мяне зараз прыйдуць браць інтэрв'ю. Студэнт-практыкант. Я чакаю...

— Ну, чакай, чакай,— сказаў муж на выхадзе.— Да вечара!

Праўда, чакаць ёй доўга не давялося. Яшчэ не паспела як след прывесці сябе ў належны выгляд, а ў дзверы ўжо званілі...

— Праходзьце...

Студэнт-практыкант быў падобны на падлетка, і яна перайшла на «ты». Запыталася:

— Мінчанін?

— Не, з раёна. Жыву ў інтэрнаце.

— Значыцца, галодны. Здымай куртку, ідзі вунь у той пакой, а я прыгатую чай з бутэрбродам.

Ён не адмовіўся, толькі папрасіў:

— Учора вы сказалі, што ў нас будзе адна гадзіна на размову, дык, можа, каб не траціць часу, пакуль вы будзеце заняты, я выберу нейкі ваш фотаздымак. Інтэрв'ю звычайна друкуецца з фота.

— Ніякай праблемы! Ты сядай... Зараз прынясу табе некалькі альбомаў. Выбірай на свой густ.

...З ім было лёгка, з гэтым студэнтам-практыкантам. І пытанні ён задаваў простыя, не заганяў яе ў кут.

— Вы шчаслівая?

А як жа інакш? Несумненна! У яе добрыя дзеці, цудоўны муж, пра якога ён нават мог дзесьці чуць. Прозвішча вядомае — Дзяніс Лінчук, галоўны архітэктар горада. У іх трывалая сям'я. Усё астатняе дадаецца.

— Што б вам хацелася вярнуць з мінулага?

Як ні дзіўна, дзяцінства. Цёплую руку мамы, стрыманую пяшчоту бацькі.

— Муж — гэта вашае першае каханне?

Тут трошкі задумалася... Было, што ёй падабаліся хлопчыкі ў школе. А ўвогуле, яна не падзяляе каханне на першае, другое, трэцяе... Дзяніс — той мужчына, які ва ўсіх адносінах яе задавальняе. Яна яго цэніць, па-свойму захапляецца ім і, вядома ж, любіць.

Яшчэ трошкі пагаварылі пра тэатр, трошкі ўвогуле пра жыццё... І студэнт-практыкант сказаў ёй: «Вялікі дзякуй!» Паабяцаў пазваніць, як толькі інтэрв'ю з'явіцца ў штотыднёвіку.

Потым яна была на першай чытцы п'есы ў тэатры, куды па яе, як і дамовіліся, своечасова заехаў Дзяніс. Яны правялі някепскі вечар у рэстаране з заманлівай назвай «Качка з яблыкамі ў Антона». І тыя «антонаўскія» яблыкі з чарачкай каньяку дадалі прыемнага настрою, які ўжо не пакідаў яе да позняй ночы.

— Не заводзь будзільніка, паспі раніцай лішнюю гадзіну,— сказаў ёй Дзяніс, калі яна ўжо ляжала ў ложку,— Я сам пабуджу дзяцей. Ну, спакойнага сну...

І сон яе сапраўды быў спакойным ажно да раніцы. Яна ўжо гатова была прачнуцца, ужо чула голас Дзяніса з суседняга пакоя, і на кухні чайнік адзываўся свістком, мабыць, дзеці пачыналі снедаць. А пасля — бы правалілася некуды. Ненадоўга, але гэтага было дастаткова, каб вымалёвалася аблічча, пра якое яна ўжо паспела забыцца. Вадзім Ізмайлаў... Ён неяк нязвыкла загадкава пасміхаўся. У вачах паблісквалі хітрынкі, маўляў а ў мяне сакрэт! Які? «Я ўсё-ткі забраў у цябе свой фотаздымак!»

Яна падхапілася імгненна. Ну ці не насланнё?! Але якая паслядоўнасць! «Раней ноччу ён мне сказаў, што забярэ сваё фота, а сёння, аказваецца, ужо і забраў!» Э-э, не! З ёю ў такія гульні не пагуляеш. Зараз жа яна знойдзе гэтае фота... Дзе тыя альбомы, што давала студэнту-практыканту? Тут яны... Так і засталіся ляжаць на стале... І, здаецца, вось у гэтым бачыла яна Вадзеў фотаздымак. Перагарнула старонку за старонкай — няма! Значыцца, памылілася. Узяла другі альбом, але і там толькі сямейныя здымкі. Яшчэ раз пагартала старонкі... Ягонага фота і сапраўды не было. І раптам узарвалася ў думках: «Пракляты студэнт!.. Ну, вядома, гэта ён... Ён узяў Вадзева фота! А чаму б і не? Славуты кінарэжысёр. Вадзю ведаюць і ў Нью-Йорку, і ў Парыжы, і ў Лондане... Пра ягоныя фільмы апошняе дзесяцігоддзе гаворыць увесь свет. Як было не спакусіцца?! І ўсё-ткі яна пакажа гэтаму студэнту... Практыканту няшчаснаму. Яна пазвоніць галоўнаму рэдактару «Культуры», і ён прымусіць яго вярнуць ёй гэты фотаздымак!»

Пайшла на голас дачкі... У пярэднім пакоі тая раскручвала бігудзі і штосьці гаварыла бацьку. Узрадавалася, убачыўшы яе:

— Ма-а, я пазнюся! Пачысці мае туфлі.

— Яшчэ чаго не хапала! Чым ты займалася ўчора?! Вось трэба было і пачысціць!

— Я ж па-добраму, ма-а, а ты крычыш.

— Не чапай маці,— адазваўся з кухні Дзяніс,— У яе пачынаюцца творчыя пакуты, уваходзіць у новую ролю,— І ўжо да яе: — Лена, каву будзеш?!

Кавы яна выпіла, і гэта яе трошкі супакоіла, але ідэя пазваніць галоўнаму рэдактару засталася. І як толькі дачка з Дзянісам сышлі з дому, узялася шукаць старыя нумары «Культуры», дзе ўжо раней пісалі пра яе. Там жа, на апошняй старонцы, павінен быць тэлефон рэдактара. Адразу і набрала ягоны нумар.

— Алё-ё... Вам тэлефануе Алена Лінчук. Добрай раніцы... Тут у мяне такая справа. Учора заходзіў да мяне ваш студэнт-практыкант... Пагутарылі... Дала яму альбомы, каб выбраў мае фота, а ён знёс яшчэ адно... Чаго вы не разумееце?! Ваш... Ваш студэнт-практыкант прыходзіў браць інтэрв'ю. Як гэта — няма ў вас ніякага практыканта?! А хто ж тады прыходзіў?..— паспешліва пачала развітвацца, хоць рэдактар гатовы быў да доўгай размовы. Калі яшчэ пазвоніць вядомая артыстка!

...Потым яна доўга сядзела ў крэсле. «Сапраўды, чаго я крычала на Ліну? Хай бы ўзяла і пачысціла яе туфлікі». Яна нават не падумала пра тое, што адбылася нейкая неверагоднасць. Нешта ўціскала і ўціскала ў крэсла. Было такое адчуванне, нібыта калісьці, даўно ёй далі алмаз і яна схавала яго. А цяпер вось разгарнула той схоў а там... шчопаць попелу.

«Чаго ж я сяджу? Трэба збірацца ў тэатр. Не, спачатку памыю посуд». Але замест гэтага падышла да тэлефона, набрала нумар і, калі ў трубцы папула голас, запыталася:

— Дзяніс, ты не шкадуеш, што пражыў са мною ўсе гэтыя гады?..

1997

## ПЕРАКРЫЖАВАННЕ-777

> ...І пайшоў Ён на крыжавыя дарогі у глухую ноч, і выйшаў да яго Д'ябал, і сказаў: «Распішыся крывёю, таму што за усё, што я табе дам, трэба заплаціць душою...»
>
> *З народнага павер'я*

Пронт пацягнуўся ў крэсле, яму здавалася, ён задрамаў, але крою Кранта прымусілі хутка азірнуцца:

— Ну, што Цэнтр? Сувязь была чыстай?

Крант пасміхнуўся. Гэта быў высокі чалавек, а можа, толькі выгляд чалавека, пра гэта нікому не дадзена ведаць, і сказаў проста, звычайна, як гавораць на Зямлі:

— Трэба вяртацца! Цэнтр незадаволены і мяркуе, што мы марна трацім час...— Ён падумаў: — А можа, ёсць новы маршрут?..

— Наконт часу ты дарэмна,— нібыта спрабаваў апраўдацца Пронт.— Успомні тую дзяўчыну... Яна ўжо гатова была пайсці на кантакт!

— Глупства! — Крант сеў у суседняе крэсла.— Кантакту не атрымалася... Мы вярнулі ёй каханага, і яна стала непрабіўной сцяною. Яе мозг не ўспрымаў нашых сігналаў. Яна слухалася толькі яго!.. Дык навошта нам вісець над гэтым клятым перакрыжаваннем! Цэнтр мае рацыю!.. Мы павінны вярнуцца на Цнуну.

Ён узяў карту і там, дзе стаялі тры лічбы «777», паставіў крыж. Потым павярнуўся да Пронта:

— Трэба зрабіць кантрольную праверку на караблі, і, калі ўсё будзе ў норме, рушым да Цнуны!

— Чакай... Зірні на экран!.. Гэтаму няшчаснаму, напэўна, патрэбна дапамога.

Экран быў насупраць, і калі б гэта было ў кватэры, на Зямлі, дык можна было б падумаць, што пачынаецца фільм. Вось ён, галоўны герой, спыняецца на перакрыжаванні, выцягвае з кішэні лёгкай курткі цыгарэты, потым запалкі... Цемра ўспыхвае яркім агеньчыкам... Чатыры вуліцы разбягаюцца ў розныя бакі, і, закурыўшы, чалавек ідзе па адной з іх... Зусім недалёка лавачка. Там аўтобусны прыпынак Чалавек садзіцца на лавачку. Курыць... Чакае аўтобуса...

Крант узіраецца ў твар чалавека:

— Ты сказаў праўду. Яго нешта гняце...— Ён яшчэ падумаў, потым дадаў:— Гэта нас доўга не затрымае... Паспрабуй падключыцца...

Пронт засмяяўся. Так смяюцца, калі прадчуваюць удачу. Лёгкім рухам ён націснуў на кнопку побач з экранам. У кабіне карабля пачуліся ціхія роўныя сігналы...

— Ніякіх высокіх матэрый... Гэты няшчасны думае пра адпачынак. Але ён адпачываць не будзе. Жонку з дзецьмі завязе да сваіх бацькоў, а сам паспрабуе пад-хал-турыць...

Цяпер ужо засмяяўся Крант:

— Яму патрэбны грошы!.. Мяне заўсёды палохалі цывілізацыі з нізкім узроўнем. З дробязнымі запатрабаваннямі. Быт перашкаджае прагрэсу... Гэта вядома кожнаму на Цнуне з часоў старажытнасці.

— Не разважай... Ён паддаецца кантакту. І мы дамо яму тое, што ён хоча!

Пронт хутка падняўся з крэсла, падышоў да сцяны, якая нагадвала электроннае табло, і націснуў на чырвоную кнопку...

Крант глядзеў на экран. Да лавачкі, на якой сядзеў чалавек, пад'ехаў аўтобус, і той ускочыў у яго, радуючыся, што паспеў на гэты, напэўна, апошні рэйс...

Мікола Іванёнак вяртаўся дадому позна. У гэтым годзе яму далі адпачынак летам, і, каб не малы Уладзік, можна было б паехаць кудынебудзь на поўдзень, неяк бы выкруціліся з выдаткамі, ды куды ж тут паедзеш! Маломў толькі тры месяцы, ды і старэйшай чацвёрты годзік... Пра поўдзень няма чаго і думаць, а вось у маіх бацькоў з дзецьмі будзе самы раз! «Хай пажывуць месяц у вёсцы,— разважаў Мікола,— а я далучуся да Колесеня, той набірае брыгаду, і папрацую ў калгасе, на будоўлі» (хоць што там будуецца, ён і сам яшчэ добра не ведаў). Галоўнае, Колесень сказаў. «Рыхтуйся. Ёсць работа!» Сёння вечарам ён і паехаў да яго, каб усё высветліць. Тры гадзіны чакаў а Колесень дома так і не з'явіўся. Жонка адно адказвала: «Недзе бадзяецца!» І нейкае сумненне ўзяло Іванёнка, можа, дарэмна ўвязаўся ў гэту справу, але ж, наколькі ён ведаў Колесеня, не такі той чалавек, каб гаварыць пустое... Напэўна, таксама недзе па справе адлучыўся, як і ён у гэты вечар. Мікола падыходзіў да дома, у якім жыў. Правёў вачыма па вокнах сваёй кватэры: там было цёмна, напэўна, спяць, і прыспешыў крок, таму, калі ўвайшоў у кватэру, трошкі пастаяў у парозе, каб аддыхацца.

— Мікола, ты? — жонка яго чакала і цяпер не хавала раздражнёнасці,— Толькі прашу, не палі святла! Зараз пачнеш бразгаць на кухні... Калі ж нарэшце можна будзе заснуць спакойна?!

І Мікола гатовы быў адказаць ёй: «А што ж, мне галоднаму класціся?! Вядома, пайду на кухню і, калі трэба, буду бразгаць, ды і не так часта я прыходжу дадому позна». Але нейкі голас гаварыў яму

адваротнае: ты — вінаваты, ты не папярэдзіў яе, што вернешся позна, яна стамілася, яна мае права на любы папрок, таму супакой яе, ціхенька прайдзі на кухню. І Мікола, паддаючыся гэтаму голасу, сказаў амаль шэптам:

— Спі... не звяртай на мяне ўвагі, я і есці не хачу, чаго мне ісці на кухню, толькі распрануся.

Ён сцягнуў з плячэй куртку, павесіў на вешалку, засунуў у кішэню ключ і... здзівіўся. Ён яшчэ не ведаў што там, але рука ўперлася ў нешта даволі цяжкое і цвёрдае: нейкі брусок, ці што? І Мікола выцягнуў тое, што здалося бруском, але, напэўна, не было ім. Каб не паліць святла ў вітальні, пайшоў у ванную, запаліў святло і... разгубіўся. У руцэ ён трымаў пачак... сторублёвак, шчытна сцягнуты паперкамі. Такія пачкі ён бачыў у ашчаднай касе. На паперыне, якая абкручвала пачак, значылася: 10 000! Мікола не верыў сваім вачам: адкуль у кішэні гэтыя грошы? Можа, не сваю куртку апрануў? Кінуўся ў вітальню, схапіў куртку, вярнуўся ў ванную... Куртка была яго. Яго куртка! Вывернуў кішэню, палез у другую, стала горача... Адтуль таксама выцягнуў пачак... яшчэ 10 000! У скронях загуло... Мікола не быў сквапным чалавекам, і цяпер усяго яго працінала адна думка: адкуль узяліся яны?! Дзіва дзівам, як нейкае ачмурэнне! Ён абапёрся аб вушак, ліхаманкава думаў... Выйшаў з тралейбуса, перасек вуліцу, каб перасесці ў аўтобус... Даставаў цыгарэты з кішэні, ніякіх грошай не было, нават пачак цыгарэтны выкінуў узяўшы апошнюю цыгарэту... А запалкі вось яны, у гэтай кішэні, і тут таксама было пуста... А можа, мне толькі так здаецца?! Ён намацаў пальцамі, грошы аддавалі халадком. Трэба сказаць Веры, трэба паказаць ёй, але нейкае сумненне варухнулася ў ім: навошта табе трывожыць яе? Пра гэтыя пачкі ты зможаш сказаць ёй і заўтра, лепш ідзі спаць, а раніцай на свежую галаву, можа, нешта праясніцца. Хоць падсвядома ведаў, што ніякага праяснення не будзе... Як не сваімі рукамі паклаў пачкі ў кішэні, павесіў куртку на ранейшае месца і пачаў ціхенька распранацца...

Ужо калі ляжаў у ложку, зноў нешта затрымцела, запякло: «Што ж гэта? Адкуль узяліся пачкі?.. Гэтыя тысячы?!» Ён быў рэалістам, добра ведаў што грошы не знаходзяць у кішэнях, калі іх туды не кладуць, і тут жа гэтыя думкі змяніліся іншымі: ну што ты марна пакутуеш?! Што ты ўсё думаеш пра іх, калі не можаш знайсці адказу? Забудзь! Выкінь з галавы! Побач — Вера, у яе цёплае-цёплае плячо... Яна не спіць, ну вядома ж, не спіць, толькі робіць выгляд, што заснула. У яе доўгія-доўгія валасы... І ўсё цела тоненькае-тоненькае, нягледзячы на нядаўнія роды... Ён прытуліўся вуснамі да яе пляча...

Калі заснуў, не помніў. Поўня ўжо выплывала з акна, ён і праваліўся, нібыта ў цемру аконнага праёма. А прачнуўся, як і не спаў. Плакаў Уладзік. Вера трэсла яго за плячо:

— Коля, уставай! Будзі Ніначку… Апрані і вядзі ў садзік! Нешта робіцца з малым, на момант суцішыцца і зноў, і зноў плача... Мо доктара трэба, ты як думаеш?

— Ён і ўчора плакаў— адказаў Іванёнак — А потым суцішыўся і нічога... Навошта спяшацца з доктарам?

Ён прыўзняўся на канапе, адкінуў коўдру:

— Колькі часу?

— Ды кажу табе, уставай,— Вера калыхала Уладзіка на руках.— Ніначку не паспееш сабраць...

Мікола ўстаў, пацягнуўся, з суседняга, другога пакоя адазвалася сонным голасам Ніначка:

— Мама, хачу пііць!..

— Зараз... Зараз, дачушка!..— Вера пайшла на кухню.

Уладзік плакаў, і Мікола падумаў, што ён правільна вырашыў адвезці Веру да сваіх бацькоў, там ёй дапаможа маці, і раптам успомніў грошы! Як ён можа спакойиа думаць пра Веру, пра Уладзіка, пра бацькоў, калі з ім здарылася такая неверагоднасць?! А можа, ніякіх грошай і няма?! Можа, учора ад тлуму, ад стомы нешта ўявілася?! Ён хуценька выйшаў у вітальню, падышоў да вешалкі, тыцнуў рукою ў кішэню: грошы былі там! Хацелася плюнуць.

Вера з кухні ішла ў пакой, дзе гукала і гукала яе Ніначка, несла кубак і ўсё калыхала і калыхала Уладзіка.

— Дай кубак, я сам яе напаю... Ты ідзі ў той пакой, суцяшай малога...

Вера аддала яму кубак, і потым, праз хвілін двадцать, сыходзячы з Ніначкай з ганка, ён нават неяк заспакоена падумаў: куды спяшацца, пра грошы можна расказачь Веры і вечарам, яна пачала б распытваць, і што сказаў бы ён... Сапраўды, што ён ёй сказаў бы?! Палез у кішэню пакласці ключ, а там — дзесяць тысяч, і ў другой — таксама столькі! Нешта заныла, заварочалася ў грудзях: а можа, усё гэта сон?! Ніначка тузанула яго за рукаў:

— Хачу на ручкі!

Ён нахіліўся, паднімаючы яе, каленам адчуў пругкасць аднаго з пачкаў... «Расказачь пра такое каму, дык і не паверацьі» Але нешта супакойвалася ў ім, нешта адпускала, таму, ідучы з садзіка да аўтобуснага прыпынку, ён ужо не адчуваў ліхаманкавасці ў думках... «Галоўнае не нервавацца! Ну грошы і грошы...» Ён нават дастаў з кішэні пачак, перакінуў з рукі на руку. «Чаму я павінен думаць, ад-

куль яны ўзяліся, знайшоў у кішэні, ну і знайшоў у чужую я не залазіў...» І ўжо, калі ехаў у перапоўненым аўтобусе, нават стала весела. «Стаю, таўкуся, а мог бы і на таксі праехацца, пад'ехаў бы да самай прахадной... Выняў бы сторублёвую паперку, сказаў бы таксісту: «Здачы не трэба!» Што б ён сказаў цікава... Узрадаваўся б! Гледзячы які, іншы б і здачу мог вярнуць, палічыўшы за ненармальнага, не стаў бы звязвацца!.. А можна было б і адпрасіцца на дзень у майстра... Кветак купіў бы Веры, і не нейкія там тры гваздзікі, а во-о столькі ружаў!.. Веры дваццаць восем гадоў я ўзяў бы ружаў у тры, у пяць разоў больш... Зноў тое самае таксі... Пад'ехаў бы да пад'езда... Уварваўся б у кватэру з кветкамі і рассыпаў бы каля Веры па ўсёй падлозе... «Збірайся, таксі ўнізе...» — «Куды збірацца?» — «У оперу!..» Вера яго завяла туды аднойчы, сказала, які ж ты гараджанін, калі ніколі не быў?! І пайшоў... І ўсё было добра: відовішча, потым буфет... У оперу!.. «Дзе пакінуць дзяцей?» — спыталася б Вера. «У Валянціны Сямёнаўны, на шостым паверсе...» Яны ўжо неаднойчы пакідалі на яе! Давалі па тры рублі за вечар, і была задаволеная, казала, от добра, дзве каробкі мармеладу куплю... Дык сёння можна было б і пяцьдзесят даць! Хай бы на усе купляла свой мармелад! «Еш, Валянціна Сямёнаўна, ад душы!» Але галоўнае кветкі... Пунсовыя ружы, а можа, лепш белыя?! І многа... многа, каб па ўсёй кватэры водар...»

Мікола саскочыў з аўтобуса, нехта прывітаўся з ім, ён, нават не зірнуўшы, кіўнуў у адказ, думаў пра сваё: «Дурань, як жа я ўчора напалохаўся!.. А чаго?! Яшчэ і Веры сказаць баяўся! А мог бы і выкласці на стол! Вось табе дваццаць тысяч! Дзе ўзяў? Няхай застанецца маёй тайнай, галоўнае, я прынёс... аддаў!»

— Гэ-эй, Мікола, чакай!..

Ён азірнуўся. Даганяў Косця Чапец.

— Чуў ад хлопцаў, што ты з Колесенем у прырабаткі хочаш падацца! Гэта праўда? Можа, і мне аформіцца з вамі? Га-а?! Будыніну сваю трэцяе лета дабудаваць не магу... Ужо не рады, што і ўзяў гэты ўчастак, а ўсё жонка!.. Як уперлася: дача, дача!.. Дзецям будзе. Ну, і што тут зробіш?! Улез! — як гакнуў Чапец.

Мікола ўздыхнуў:

— От гаваркі ты... Узяўся б перагаварыць, не перагаварыў бы!

Чапец зарагатаў...

У прахадной Мікола схіліўся, каб паказаць пропуск, локцем адчуў пругкасць аднаго з пачкаў... «А можа, не трэба было браць грошы з сабою?» — чамусьці падумалася... Куртку ён скіне, а раптам нехта выпадкова пачне шукаць у ягоных кішэнях запалкі ці цыгарэты? І нешта зноў непрыемна варухнулася ў грудзях, нібыта ўжо

нехта іншы пытаўся ў яго: «Дык адкуль жа ў цябе такія грошы?! Дзе ж гэта ты іх змог узяць?» «Не буду скідаць куртку,— цвёрда вырашыў ён,— Халат апрану на яе». І, не чакаючы Чапца, пайшоў да свайго цэха...

Крант штосьці прыкідваў. Засяроджана паглядаў на экран... Пронт перахопліваў гэтыя позіркі, потым асцярожна спытаў

— Табе нецікава, Крант? Мы ўжо восем гадзін з ім у кантакце, і ў мяне такое адчуванне, што ў яго шок! Думкі скачуць з крайнасці ў крайнасць, мы не супакоілі яго, а ўсялілі трывогу. Паніку!.. Сумняваюся, што да яго даходзяць мае сігналы. Ім цяжка кіраваць...

Крант адвёў вочы ад экрана.

— Я ўжо казаў гэтая цывілізацыя на нізкім узроўні!.. Калісьці таго, хто першы з'явіўся на Зямлі, выпхнулі з Эдэма. Цяпер у кожным з насельнікаў — ген выгнанніка. Няшчасныя... Пякельнае жыццё! Грошы для іх як узнагароджанне, скажам, за працу...

— Атрымліваецца, што мы яго ўзнагародзілі за кантакт з намі?! — Пронт засмяяўся.

— Так, але я думаю пра іншае... Мы займаемся Сусветам, а яны — сабою. Разумееш? Тым, чым займаюцца ў нас робаты: будуюць дамы, гадуюць наглых дзяцей, кожную раніцу прыносяць нашым жанчынам кветкі...— твар яго перасмыкнуўся,— Пронт, чуеш... Апошнія два разы, калі я выходзіў на сувязь, у мяне было адчуванне, пгго я гавару не з Мілтам, а з некім іншым, хто капіруе голас Мілта.

Пронт паглядзеў запытальна:

— Думаеш, робат?

Крант памаўчаў...

— Усё можа быць... У мяне нярэдка з'яўляецца думка, што ўжо невядома, хто кім кіруе: яны намі ці мы...

Ён зноў змоўк. Пронт запытаў насцярожана:

— Цябе гэта непакоіць?

— А цябе? — пытаннем на пытанне адказаў Крант і засмяяўся,— Ты не пасылаеш сігналаў... Экран засвечваецца...

Мікола стаяў ля кіёска. Тут ён заўсёды купляў вячэрнюю газету. Побач усё роўна як прытанцоўваў Чапец.

— Ну, не дуры, Мікола... Што ты адмоўчваешся?! Я сам з Коле-сенем перагаварыў бы, ды мы амаль незнаёмыя. Працавалі ў розных цэхах, а апошнія два гады дык і ўвогуле не сустракаліся. Ну скажы ты яму, што я мужык на ўсе сто! Я і са сталяркай магу. І з цэглай...

Мікола скруціў трубачкай газету. Накіраваліся да перахода, пачалі спускацца ў тунель...

— Слухай, Косця,— Мікола прыпыніўся.— Што б ты зрабіў, каб знайшоў дваццаць тысяч?.. Ну во-о так… ішоў і знайшоў!

— Нічога...— Чапец спыніўся,— Грошы — вада...— Падумаў:— Дачу дабудаваў бы… Ну, можа, машыну...— І раптам весела: — А ты што, ужо знайшоў?!

Мікола збянтэжыўся.

— Ды ну цябе!.. Ты куды, у які бок зараз?

Потым, ужо развітаўшыся з Чапцом, Мікола зноў вярнуўся да сваіх ранейшых думак... Грошы! Усё роўна як дзіва якое, а гавораць, не бывае цудаў! І нейкі другі голас гаварыў у ім: ды што ты, на самай справе... Які цуд, якое дзіва! Ну, з'явіліся яны, і хай сабе з'явіліся... Ля прахадной на дошцы аб'яў паперка вісіць: тры турыстычныя пуцёўкі на Кубу! Вазьмі пуцёўку, паедзь... Ды што Куба?! У Ленінградзе ніколі не быў! І нейкі халадок не-не ды і варушыўся ў грудзях: і ўсё-такі адкуль? Адкуль яны?! Засунуў руку ў кішэню: ляжаць! Трэба хутчэй дадому, выкладу на стол, аддам Веры, хай разбіраецца, а мне што?! Вось толькі шкада, што і сёння Колесеня не пабачу... Ён ужо падыходзіў да свайго пад'езда і здаля заўважыў Веру. Яна пакалыхвала каляску з малым Уладзікам. Побач з дзіцячым вядзерцам у руках стаяла Ніначка...

— Вунь татка...-— нахілілася да яе Вера.

— Татка!.. Татка!..— закрычала Ніначка і кінулася яму насустрач

Мікола падхапіў на рукі малую, падышоў да Веры.

— Можа, адразу ў магазін сходзіш? — сказала яна.— У мяне тут і сетка ёсць... Сёння сястра забягала, на ўсялякі выпадак пазычыла ў яе дзесятку. Да тваіх адпускных дацягнем...

— Хадзем дадому,— і Мікола чамусьці азірнуўся,— У магазін потым схаджу...

У кватэры ён яшчэ хвіліну-другую вагаўся, чакаў, пакуль Вера пераклала Уладзіка з каляскі ў ложак. Потым паклікаў яе:

— Вера, зайдзі на кухню!

— Есці!.. Ты хочаш есці?! — заспяшалася да яго Вера і спынілася на паўдарозе, убачыўшы на стале пачкі,— Мікола, гэта што?

— Грошы...— з нейкай бязглуздай усмешкаю адказаў ён — Дваццаць тысяч...

Вера маўчала. Толькі вочы ў яе цямнелі і цямнелі. Потым як выдыхнула:

— Украў!.. А я, дурніца, усё думала, дзе ж ён затрымліваецца ўчора?.. Я непакоілася... А ён...— Яна ўсхліпнула, але голас быў цвёрды.— Чаго ж табе не хапала?! Кватэра... Кааператыў купілі... І выкручваемся... Выплочваем... Маці мая дапамагае... І не адмаўляецца

ж! Ды і дапамога на дзіця ёсць... Мікола,— неяк спалохана ўскрыкнула яна,— цябе ж знойдуць! Цябе, напэўна, ужо шукаюць...— Яна ўсхліпвала і ўсхліпвала.

І нейкі голас у ім заглушаў гэтыя ейныя ўсхліпы: чаго ж ты стаіш, хутчэй супакой яе... Кажы, кажы, што ты не краў гэтых грошай, што яны даліся табе самі. І ён сказаў:

— Ты дарэмна гэта ўсё... Як жа ты магла падумаць такое! Калі папраўдзе, дык я і не ведаю, адкуль яны ў мяне? Палез у кішэню ключы пакласці яшчэ ўчора, а там нешта цвёрдае... Пабег у ванную, гляджу — грошы! У другой кішэні таксама...

Вера прайшла на кухню. Села. Твар яе рабіўся жорсткім.

— І што ты мне тут байкі расказваеш! Грошы! У кішэнях... Самі па сабе! Ці многа ты чуў, каб во так было ў каго: палез у кішэню ключ пакласці, а там тысячы-ы!

Мікола спрабаваў яе абняць, яна адштурхнула яго:

— Ідзі ў міліцыю... Кайся!.. Гады два скінуць!.. А дзеці?! Вернешся, Уладзіку гадоў дзесяць будзе. І што я з імі зраблю? — і яна заплакала ўголас.

— Ды не краў я!— крыкнуў Мікола.— Што ты мяне ў турму садзіш?!

І гэта падзейнічала. Вера ўжо больш спакойна сказала:

— Ды ты разумееш, што ты такое кажаш? Як маглі апынуцца ў тваіх кішэнях грошы, калі ты не клаў іх туды?!

— Не клаў! — хуценька адазваўся Мікола.

— Дык, можа, у транспарце? Можа, хто выпадкова...— Яна пляснула далонямі,— Але ж у дзве кішэні адразу...— Вера ўжо нібыта хацела апраўдаць яго.— Можа, некага лавілі з грашыма і ён упіхнуў табе, каб чыстым быць. Успомні!

— У аўтобусе нікога не было. Толькі дзве жанчыны на пярэднім сядзенні. А да таго як я сеў у аўтобус, у кішэнях дакладна было пуста... Я даставаў цыгарэты... Яшчэ і пачак выкінуў закурыў апошнюю.

Ніначка прыбегла на кухню, пацягнула Веру за руку

— Ма-а, дастань лялькy з паліцы!

— Потым... Ідзі, гуляй...— Вера адштурхнула яе. Ніначка заплакала. І Вера пайшла ў другі пакой, узяўшы Ніначку на рукі. Следам рушыў і Мікола.

— Чуеш, ты ўсё-такі дарэмна наконт міліцыі... Ну, давай не будзем унікаць, адкуль яны!.. Можа, машыну купім, як ты думаеш?! Я магу на Кубу паехаць па пуцёўцы... Га-а? Табе футра якое прыдбаем... За кватэру ўсё выплацім... Навошта хваляваца, калі можна з толкам.

Вера расклала цацкі перад Ніначкай
— Баўся!.. Трошкі пабаўся, дачушка!
Падышла да Міколы.
— Дык, кажаш, машыну купім!.. На Кубу па пуцёўцы паедзеш! А ў турму ты не хочаш?! На нары! За калючы дрот! А суседзі?! Што скажуць суседзі, у якіх я праз тыдзень па пяцёрцы перахопліваю?!
— Я ж — рацыяналізатар... Мог за якое-небудзь рацыяналізатарства атрымаць.
— Дваццаць тысяч?! За рацыяналізатарства?! Ды хіба ты акадэмік які?
Мікола хацеў ускіпець, але нейкі голас шаптаў і шаптаў у ім: не закіпай, хай яна супакоіцца, галоўнае — пераканай, што грошы не крадзеныя, што тваё сумленне чыстае, што ты невінаваты. І ён сказаў каб неяк адвесці яе ад грошай:
— Дык, можа, я зараз у магазін схаджу? Толькі што купіць? Сёння можна было б і пашыкаваць... Хочаш, торт куплю?
— А-а, пашыкаваць муу захацелася! — Вера сціснула маленькія кулачкі.— Хочаш зрабіць мяне саўдзельніцай? Не атрымаецца!.. Забірай свае грошы і каціся адсюль! Мяне маці яшчэ тады, перад шлюбам, адгаворвала... Басяк нейкі, так і сказала! — і яна выбегла зноў на кухню.
Мікола паглядзеў на Ніначку, пастаяў... Цешча яго недалюблівала, гэта факт, але навошта ж так абражаць! Які ж ён басяк, у яго ёсць свая чалавечая годнасць, ды нешта ў ім гаварыла: цяпер не ўнікай у гэтыя падрабязнасці... Ідзі да Веры... Яна вельмі расхвалявалася, гэта ўсё ад хвалявання... Ты ж таксама растрывожаны, але табе прасцей, ты ўжо прывык да гэтых грошай, дык пагавары з ёй мякка, нарэшце, парайся... З гэтым і пайшоў Мікола на кухню.
Вера стаяла ля акна, на яго крокі азірнулася.
— Забірай свае грошы і ідзі адсюль!
— Вера, ну давай спакойна ўсё абгаворым...— Ён падышоў да яе.— Клянуся, грошы не крадзеныя... Колькі можна табе гаварыць... Чаму ты не хочаш паверыць? У мяне і ў самога мільгала думка пайсці ў міліцыю... А што я там скажу? Знайшоў у кішэні? Ды мяне ж за вар'ята палічаць!
— Змоўкні!.. Вар'ятам хочаш прыкінуцца! О-о, не... Сядзеш як міленькі! — Яна раптам павярнулася да яго.— Коля, прашу цябе, выйдзі з кватэры... Пакінь мяне адну. І грошы вазьмі з сабою! — Потым дадала ціха: — А лепш прызнайся... Я ведаю, ты адзін гэтага не зрабіў, цябе нехта падбіў на такое... Дык здай гэтыя грошы... Сам аб'явіся... Паслухайся... А зараз ідзі... Ідзі! Ідзі!..

Мікола ўзяў пачкі, трошкі памарудзіўшы, расклаў па кішэнях і пайшоў... Нешта абарвалася ў ім... «Яна дапускае, што я магу быць злодзеем, магу зрабіць злачынства, што я здольны на такое!..» Яму стала страшна. Ён раптам вельмі выразна ўявіў усю сітуацыю... «Ды раскажы я любому пра гэтыя грошы, мяне, напэўна, палічылі б за вар'ята! Я ж пра гэта ёй і сказаў, але вар'ятам яна не назвала, яна адразу сказала: «Украў!.. Злодзей!» Крыўда шчымела ў ім, цела абвяла, здавалася, нават ісці цяжка... Таму, як толькі выйшаў з пад'езда, адразу сеў на лавачку... Колькі ён сядзеў нават і не ведае, але ўжо было цёмна. Палез у кішэню па цыгарэты, наткнуўся на пачак... І раптам ускочыў ад такой простай думкі... «Грошы! З-за чаго ўвесь гэты гвалт?! Як жа я раней не дадумаўся?! Недзе тут стаяла сметніца... Ага-а, вось яна... — адшукаў позіркам.— Я — басяк! — сказала цешча!.. Гэта — я?! Я?!» Ён ужо падыходзіў да сметніцы... Дастаў запалкі, потым грошы... Пачкі распакаваў... Браў па некалькі паперын, адразу і падпальваў... Апошнія проста ўкінуў у вясёлы, яркі агонь...

З-за нізенькай агароджы дзіцячага садзіка цягнула язмінам, скошаным маладым сенам, ён пабег на гэты пах... Як некалі, калі яшчэ быў хлапчуком, легка пераскочыў агароджу, упаў на колкую раннюю пакошу... Неба свяцілася дрыготкім зіхатлівым россыпам... «Дурань,— падумаў ён,— навошта пайшоў у вучылішча пасля васьмі, трэба было ісці ў дзевяты клас... А так як абрубак які! Нават астраноміі не вывучаў. Цяпер бы ляжаў і разбіраўся ў сузор'ях, дзе якое... От разумнікі!.. Космас асвойваем, а тэлефона не можам у кожную кватэру правесці!.. Прасцей простага, пазваніў бы Колесеню, і ўсё... А цяпер цягайся!..»

Дарэмна затрымаліся...— Крант нават не павярнуўся да Пронта. Нерухома сядзеў у крэсле і нібыта думаў услых: — Сюды некалі прыляцяць нашы дзеці. Тут яшчэ многа лясоў многа рэчак...

— З Цнунай на сувязь выходзіць не будзеш? — адазваўся Пронт.

— Навошта?! Мы атрымалі загад ад Цэнтра. Вяртацца!

— Ты казаў, трэба зрабіць кантрольную праверку на караблі.

—Я трошкі пасяджу... Ты ідзі... Пачні з адсекаў...

Пронт, нібыта чакаў гэтага, хутка падняўся з крэсла, пайшоў па доўгім калідоры...

Крант глядзеў на экран. Адлюстраванне расплывалася, скакала, але ён яшчэ мог разгледзець, як Мікола легка пераскочыў цераз агароджу, не адрываючы позірку ад акна, за якім, адхінуўшы празрыстую шторку, усё ўглядалася і ўглядалася ў цемрадзь двара Вера...

1988

## РАМАН НЕ РАМАН, А ПРЫЕМНА

Не спіцца. Усё выдае на блізкую навальніцу. У кватэры душна. Але не гэта прычына бяссоння. Вечарам на нейкую гадзіну забегла даўняя знаёмая. Яшчэ гады тры-чатыры назад я па-добраму зайздросціла ёй. Танюткая, смяшлівая, з нязменнай чароўнай усмешкай, яна уся дыхала «духамі і туманамі». Нярэдка тымі часамі я пыталася ў яе:

— Ты зноў на нейкіх незямных крылах?

Яна залівалася смехам, ківала галавой:

— Угу-у... Я закахалася! Мне сорамна перад дзецьмі, перад маім Пецькам, але... бэзавая замець у пачуццях! Во-о-дарна! І здаецца, я люблю гэты ўвесь наш горкі свет!

Яе шчасліваму шчабятанню не было канца. І вось сённяшні вечар... Непазнавальна змучаны твар знаёмай і яе скаргі... Гэткія як і ва ўсіх: на ўсё нашае зямное жыццё!

Сапраўды, большасць жанчын жыве аднолькава. Нібыта яны ўсе разам, адначасова абваліліся ў нейкую чорную касмічную дзірку і ніхто не ведае, як з яе выбавіцца. І разам з тым, калі табе жаляцца, ты, як умееш, суцяшаеш. Я суцешыла:

— Ды адыдзі ты неяк ад гэтай змрочнасці. Ну, хаця б закахайся, як раней!

І мая знаёмая амаль абурылася:

— Ты што, сур'ёзна?! Ды якое ўжо тут каханне! Я нават усялякіх дурных серыялаў не гляджу...

За акном бліснула маланка. Чую праз дзверы, як у суседнім пакоі заварушылася дачка. І міжволі думаю, што яшчэ ледзь заўважна, але ў ёй ужо прачынаецца жанчына. То яна лішні раз пакруціцца перад люстэркам, то пачырванее і адвернецца, калі па тэлевізары паказваецца чыёсьці не ў меру адкрытае і палкае каханне. Яна ўжо ведае, што ў нашым свеце ёсць нешта вельмі таемнае, і гэтае тэлевізійнае «прыадкрыванне заслоны» яе, натуральна, бянтэжыць. І дзякуй Богу, хай і надалей адварочваецца і бянтэжыцца. Хай жыве з чаканнем таямніцы, якая аднойчы расхінецца трапятлівасцю закаханасці...

Зноў у думках вяртаюся да сваей знаёмай, не да цяперашняй з яе скаргамі, а да той, даўнейшай, укручанай у бэзавую замець. Не, там не было ніякай здрады. Знаёмая заўсёды была добрай маці і надзіва клапатлівай жонкай. Яна ўсё нешта купляла свайму Пецечку. Свет для яе пераварочваўся, калі ён хварэў. І ў гасцях не любіла доўга затрымлівацца. Пасядзіць, пасядзіць і падхопліваецца:

— Во-ой, там жа Пеця адзін з дзецьмі!

Дык што ж адбывалася з маёй знаёмай? Толькі цяпер я магу адказаць на гэтае пытанне, але для гэтага мне спатрэбілася адна сустрэча — дзесяць гадзін начнога падарожжа ў рэйсавым аўтобусе...

У мяне быў адпачынак. На некалькі дзён вырашыла паехаць у невялічкі райцэнтр да сваякоў. Каб не марнаваць часу, абрала для падарожжа начныя гадзіны, маўляў у аўтобусе і пасплю. Напачатку мне гэта ўдалося. Але сон быў кароткі. Ці то яркі бляск месячнага святла, ці паўшэпт маладой пары, што размясцілася непадалёку, разагналі яго. Кінула позірк за акно і адхінулася ад здзіўлення: ну ўсё роўна бы снег лёг сярод лета! Як кінуць вокам — бялюткая-бялюткая бясконцасць...

— Грэчка цвіце,— пачулася побач.— А я ўжо прыкідваў дзе, на якім прыпынку скажу вам «добрай раніцы».

Гэта азваўся мой сусед. Калі садзілася ў аўтобус, здаецца, я і не бачыла яго. Ага-а... сапраўды, месца побач было вольнае. Пэўна, ён заняў яго ўжо тады, калі я спала. Пры месячным святле адзначыла, што ў суседа прыемная знешнасць. І хаця распачынаць гаворку асабліва не хацелася, адказала:

— Спачатку, відаць, мне давядзецца сказаць вам «добрай ночы!».

— Я ў дарозе не сплю! — коратка сказаў ён.

І праз якую гадзіну мне здавалася, што я ўсё сваё жыццё праехала ў тым аўтобусе. Хацелася толькі аднаго: каб рэйс гэты быў без апошняга прыпынку. Мы размаўлялі і размаўлялі... Пра што? Выразна і не ўспамінаецца. Так, пра жыццё. Але было штосьці асаблівае ў гэтай начной гаворцы. Была нейкая загадкавасць, нібыта дзесьці побач сваволілі два амуры. І не тое каб шпурлялі ў нас свае стрэлы, а яшчэ толькі прымерваліся, шукаючы самыя слабыя месцы для стрэл. У нейкае імгненне я злавіла сябе на думцы, што менавіта гэты чалавек і ёсць тып майго мужчыны, але хто ж ён? Быў момант, калі мы загаварылі пра палотны Эль Грэка, і мне падумалася, што ён мастак. Але гэтая думка адразу адпрэчылася. Магчыма, юрыст? Не-не, проста звычайны служачы ў нейкай адміністрацыі. Але якая розніца, чым ён займаецца, дакарала я сябе за цікаўнасць на нейкім прыпынку. І пад прывакзальным ліхтаром хуценька прыпудрывала свой твар... Так, мне хацелася яму падабацца.

Відаць, ён бачыў гэтае маё «прыпудрыванне». Таму што, калі аўтобус зноў зрушыўся з месца, сказаў:

— Вось паспрабуй разабрацца, што нам падабаецца ў жанчынах. Знешнасць, душа, інтэлект, манера трымаць сябе? Думаю, не тое, не другое і не трэцяе. А нейкая «зачэпка», маленечкая-маленечкая адметнасць, чаго няма ні ў якай іншай жанчыны. Злавіў, заўважыў

гэтую адметнасць і прыкіпеў, і ўжо сыходзіцца свет клінам... Эротыка, секс, на чым любіць засяроджвацца людства,— гэта ўсё ад нявыхаванасці нораваў. Вазьміце летні пляж, дзе ўжо такая адкрытасць усіх жаночых прывабнасцей! І ніякага пачуцця яны не выклікаюць, вельмі звыклая карціна. А калі раптам дзесьці на мосце папердзе цябе ідзе жанчына і свавольны ветрык вышэй дазволенага прыўзніме краёк яе сукенкі, якое пачуццё можа ўскалыхнуцца! Прыадхінецца не сукенка, а нейкая таемнасць, якая і чаруе спрадвек у жанчыне.

«Божа, якая банальнасць!» — не без іроніі думалася мне, і было радасна адчуваць, што аўтобус рухаецца, а наперадзе кіламетры і кіламетры... Але, як вядома, у кожнай дарогі ёсць свой канец. Таму, калі аўтобус спыніўся ля вакзальчыка, дзе мяне ўжо чакаў сваяк, хоць і не хацелася, а давялося развітацца.

— Мяне таксама чакаюць сваякі,— сказаў мой спадарожнік.— І, дальбог, зачакаліся.— І тут жа запытаўся: — А што ў вас у Мінску? Дом? Сям'я?

— І дом, і сям'я,— адказала я.

— А тэлефон? Хаця...

— Ёсць і тэлефон...— заспяшалася адказаць яму.

... Дзесьці праз месяц, напярэдадні нейкага свята, нязвыкла залівіста зазваніў тэлефон і ў трубцы я пазнала гэты спакойны, роўны голас:

— Наш аўтобус яшчэ рухаецца, а вось віншую з тэлефоннай будкі... Калі хочаце, з паралельнага свету!

У маім узросце ўжо не гаворыцца пра сёмае неба, але над нечым вельмі будзённым я ўзляцела. І настрой памяняўся, і захацелася падысці да люстэрка, і часцей заўсміхалася мужу. А самае галоўнае, жыццё ўяўлялася не такім змрочным: хацелася кветак і музыкі. Ад гэтага майго настрою пасвятлела ў доме.

— У цябе, відаць, сёння нейкая прэмія?— шчасліва адазваўся муж.

Дачка, назіраючы за маёй усмешлівасцю, папрасіла тысячу на марожанае і, вядома ж, атрымала яе. «Наш аўтобус яшчэ рухаецца!» — кожная рэч у доме адзывалася гэтаю фразай. І ён не спыняе свайго руху ўжо другі год. Я ніколі больш не сустракалася са сваім спадарожнікам, хоць у мяне нярэдка і з'яўляецца такое жаданне. Тады падчас нашых тэлефонных размоў я, затаіўшы дыханне, пераходжу на шэпт:

— А можа, сустрэнемся?

Ён звычайна доўга маўчыць, пасля адказвае:

— Я гатовы днямі, месяцамі стаяць у тэлефоннай будцы, адкуль тэлефаную, але гэтая будка знаходзіцца ў паралельным свеце...

І застаюцца толькі размовы, якіх для таленавітага чалавека хапіла б на цэлую аповесць. Калі ж часам задумваюся пра аўтобус, які ўсё «рухаецца і рухаецца», міжволі ў сябе пытаюся: «Дык што ж гэта робіцца са мною, што адбываецца?» Раман не раман, а прыемна! Аднак тлумачальны слоўнік сцвярджае, што раман — гэта любоўныя адносіны паміж жанчынай і мужчынам. А тут... Тут нейкая салодкая мроя, якая то падступаецца, то адступае. Проста чароўная паўза, цудоўныя ўцёкі ад рэалій быцця ў асалоду і шчасце, хацелася б сказаць, у паралельны свет, але...

За акном ужо бушуе навальніца. Што за ёю? Сон ці кароткі тэлефонны званок: «Аўтобус рухаецца...»! І нашаму свету чамусьці цяжка зразумець, што без гэтага руху нялёгка жыць, а галоўнае, быць жанчынай.

P. S. І ўсё ж паралельны свет... У маім жыцці калі-нікалі здаралася: сяджу за пісьмовым сталом ці стаю ля акна і раптам на руку падае буйная кропля. Уздрыгваю! Азіраюся па баках, гляджу на столь — нідзе ніякай вады... Дрыжыкі прабягаюць па руцэ. І амаль з падсвядомасці выкручваецца: а ці не з паралельнага свету гэта?!

А бывае яшчэ... Займаешся нейкімі хатнімі справамі, ходзіш з пакоя ў пакой і ў нейкі момант... заміраеш ад адчування нябачнага дотыку. Быццам хтосьці нябачны праходзіў блізенька-блізенька побач і не змог размінуцца: сутыкнуліся два светы! У гэтым свеце засталося трапятанне... А ў тым?! Не ведаю... Мне, зямной, не дадзена пра гэта ведаць акром таго, што дзесьці там, у нейкай невядомасці, ёсць тэлефонная будка... І самотны ці не зусім самотны мужчына час ад часу заходзіць у яе, каб адтуль сказаць, паведаміць мне, што наш аўтобус яшчэ рухаецца.

1994

## Я НЕ ВАЛЬТЭР, АЛЕ...

Не ведаю, як каму, а мне заусёды самым салодкім часам быў час ранішні. Цёплая падушка, цёплая коўдра, прыкідванне, як і што трэба зрабіць гэтым яшчэ адным падараваным табе днём.

Сённяшняя раніца нічым не адрозніваецца ад іншых, можа, толькі адным: мне — восемдзесят. Вунь на календары абведзена і дата — 11 мая 2027 года. Папраўдзе, дык і не думалася, што дацягну да гэтага дня. Спадзявалася на якіх-небудзь 65-70, а Бог накінуў яшчэ адзін дзесятак. І вось ляжу, з асалодай пацягваюся, любуюся парычком (на яго якраз гэтымі гадамі вярнулася мода), які сёння ўпрыгожыць за юбілейным сталом маю не такую ўжо і прывабную галоўку. Слухаю, як раз-пораз на кухні дзынкае посуд: дачка, нявестка, унучкі рыхтуюць святочны стол. Ну, а мне можна трошкі і адпачыць. Госці збяруцца дзесьці а пятай гадзіне. Ледзь не цэлы дзень вольнага часу, не садзіцца ж сёння за пісьмовы сгол! Як ніколі, на ім сапраўдны вэрхал: паштоўкі, віншавальныя тэлеграмы, нават зборнічкі вершаў ад маладых — усё легла на яго. Толькі віншавальны ліст ад пана прэзідэнта паклала асобна.

Дзіўная рэч, некалькі гадоў таму назад ён мне адкрыў адну маленечкую таямніцу: сваё захапленне астраноміяй. На гэтым мы з ім і сышліся. Астраномія заўсёды прыцягвала і мяне. Туманнасці, газападобныя зоркі, суседнія галактыкі, тэорыі сціскання і разгортвання Сусвету — суцэльная неспазнанасць і загадкавасць. Увогуле, цікавы чалавек гэты наш ці не няш ўжо прэзідэнт. Падазраю, што ён вядзе перапіску не толькі са мною. А чаму б і не? З гісторыі вядома, што імператрыца суседняй Расіі Екацярына ІІ перапісвалася з Вальтэрам. Вядома ж, я не Вальтэр, але прыемна атрымаць чарговы ліст ад прэзідэнта і развеяць нейкія ягоныя сумненні ці нават паспрачацца наконт той ці іншай астранамічнай тэорыі. Праўда, ён не надта любіць спрэчкі, ва ўсім хоча бачыць гармонію... Ат... Вось і званок... Напэўна, віншавальны. Трэба ўставаць і падыходзіць да тэлефона, сямейнікі сказалі: «Бабуля, сёння твой дзень. Мы да тэлефона не датыкаемся!»

— Алё-ё... Танечка! Божа... Ну вядома, усё разумею, пра што гаворка!.. Нічога страшнага, спазняйцеся!

Значыцца, Таня Сапач і Сяргей Дубавец спозняцца. А я ж казала: «На якое ліха вам гэты «мерседэс», купляйце лепш «таёту», мая хоць і старэнькая, а вунь яшчэ як цягне!» Не прыслухаліся, купілі. Цяпер штодня рамантуюць. Ну нічога, як-небудзь дабяруцца з Вільні. Дзе ж гэта? Куды прыткнула апошні нумар «Полымя»? Якая светлая ў Тані

там нізка вершаў — з нейкім прытоеным сумам, які, што ранішні туманок, запаўзае ў душу і працінае да дрыжыкаў. Столькі наставіла радасных клічнікаў, не забыцца б паказаць ёй.

Класціся назад у ложак ужо не хочацца. Трэба трошкі размяцца, пахадзіць па пакоі. І пра што ж гэта думалася да званка Дубаўцоў? Ага-а, прэзідэнт... Ягоны віншавальны ліст... А я, здаецца, апошнюю сваю кніжку яму не паслала, ды штосьці ён пісаў пра яе ў лісце. Значыцца, купіў сам. Дзіўная ўсё-такі штука жыццё! Зазірнеш у мінулае, і ўсё роўна як які тэлесерыял, сцэнарый якога напісаны рукою Самога Творцы. І не збочваеш, ідзеш па тым, што наканавана,— дзе подбегам, дзе павальней. Там спатыкнешся, там абтрасешся, а там і заплачаш... І ўсё ідзеш, ідзеш...

— Бабуля, які даставаць фарфор? Кітайскі ці, можа, паставіць наш?

— Гэта ўжо на ваш густ... Які палічыце патрэбным.

О-от... Справа, напэўна, не ў фарфоры. Нявестка паслала ўнучку, каб дазнацца, сплю я ці паднялася ўжо. Бач ты, посуду не могуць выбраць! А іх бы туды, у тую вялікую дэпрэсію, як калісьці пра свой падобны час гаварылі амерыканцы. Думалі б не пра фарфор, а пра тое, што пакласці на талерку. Якія ж гэта былі гады? Дзесьці сярэдзіна дзевяностых... Не, пачыналася ўсё значна раней. Сярэдзіна дзевяностых — гэта ўжо ледзь не самы пік. Распачыналася прыватызацыя... Куды ж падзеўся, у якіх гадах застаўся той малады празаік, што ўсё тады крычаў на розных сходах: «Дайце мне Ясную Паляну, і я стану Львом Талстым!» Яснай Паляны яму не далі, і Талстым ён не стаў таксама. Столькі гадоў прайшло, а вось, глядзі ты, помніцца... І тая дарагоўля, і тая інфляцыя. Напаўгалоднае жыццё, дзеці ў школах прытомнасць страчвалі, пра што, пэўна, мала хто і ўспамінае цяпер. Наша старэйшае пакаленне паціху адыходзіць, маладзейшыя неяк умелі тады круціцца. Але адно добра ведаюць усе: адтуль, з тых гадоў, мы вынеслі сваю Незалежнасць. Тады ж абіралі і свайго першага прэзідэнта. Самы першы, відаць, і самы запамінальны — малады, няўрымслівы. Праўда, спачатку было шмат непаразуменняў асабліва з нашым творчым людам, бо яшчэ ці не ў перадвыбарчай кампаніі прэзідэнт сказаў: «Спачатку эканоміка, а потым разбяромся і з астатнім...» Трэба было разумець: з культурай, мастацтвам, літаратурай. І гэта насцярожвала, нават абурала, тым больш што былі незразумелымі і адносіны прэзідэнта да нашай мовы. Адны ўпікалі яго, другія, наадварот, спрабавалі нейкім чынам апраўдаць, спасылаючыся зноў-такі на суседнюю дзяржаву. Маўляў у Расіі, скажам, у дзевятнаццатым стагоддзі ўвесь царскі двор размаўляў выключна па-

французску. Ды і той жа класік Іван Тургенеў вёў перапіску з Флабэрам, з Жорж Санд, з Мапасанам на французскай мове. Толькі чамусьці творы свае пісаў на роднай, узбагачаючы залаты фонд не чыёй-небудзь, а сваёй нацыі. І гэта ніякім чынам не замінала высокім уладам бачыць у ім вялікага пісьменніка. Ці не ў часы цяжкіх дэпрэсій, як ні ў якія іншыя, інстынкты, закладзеныя ў чалавеку, пачынаюць барацьбу з Духам. І самы страшны, напэўна, інстынкт самазахавання, абы выжыць, любымі сродкамі, адсюль — разбой, крадзеж, гвалтаванне. Дух кліча да гармоніі, да ідэалаў у вышыню... Інстынкт цягне назад, бліжэй да братоў нашых меншых: урваць, адабраць, назапасіць. І якая ўжо тут духоўнасць, якая святасць! Ад гэтага ў старажытнасці гінулі цэлыя народы. Ці ж не было дэвіза: хлеба і відовішчаў, жахлівых і разбэшчаных?! Але што цяпер успамінаць пра тое, тым больш што і непаразуменні нашы з прэзідэнтам працягваліся нядоўга. Гэта ўжо, напэўна, быў дзевяноста шосты? Хто ж тады пазваніў мне? Здаецца, Валя Аколава.

— Рая, ты ў спісе!

— У якім? — бы штосьці здранцвела ўва мне.

— Хіба не ведаеш? Прэзідэнт хоча паслухаць нашых паэтаў. У Саюзе пісьмепнікаў (тады яшчэ была гэтая ўстанова) ладзіцца літаратурны вечар.

Іду ў Саюз. Там вялікая мітусня. Старшыня Саюза майшоў да дырэктара Літфонду прасіць грошай. Трэба ж наладзіць хоць які фуршэт, ёсць магчымасць пагаварыць з прэзідэнтам вочы ў вочы. А дырэктар Літфонду развёў рукамі: няма! Апошнія аддаў у якасці дапамогі на зубы вядомаму крытыку. Тады ўжо паслугі дантыста пісьменніку былі не па кішэні. Што ж тут рабіць? І, як заўсёды, знайшоўся хтосьці дасціпны. А што рабіць, хто будзе красавацца перад прэзідэнтам, той хай і прыходзіць са сваім шампанскім. Дурных няма, у нас цяпер рынкавыя адносіны. На тым і спыніліся. Праўда, у мяне дома тады ўзнік маленькі канфлікт. Муж заўпарціўся: «Ніякай пляшкі шампанскага! Твайго апошняга ганарару не хапіла табе нават на калготкі. Адмаўляйся ад вечара!» Але ўсё ўтраслося. Пазванілі з Саюза, сказалі, што ў ім яшчэ не перавяліся джэнтльмены і жанчыны ад шампанскага вызваляюцца. А потым і джэнтльменам не давялося яго купляць. На дапамогу прыйшла «Дайнова» ці нейкі камерцыйны банк. І ўсё прайшло добрым ладам. А неўзабаве і больш... Прэзідэнт пачаў у сваёй рэзідэнцыі наладжваць паэтычныя чытанні, дзе арганізоўваліся невялічкія кніжныя выстаўкі, куды запрашаліся атаўэ па культуры розных дыпламатычных прадстаўніцтваў. З іх дапамогай шмат хто пачаў перакладацца на іншыя мовы,

пачалі выходзіць нашы кніжкі ў Чэхіі, у Італіі, у Германіі... Вось так з дапамогай нашага першага прэзідэнта мы і пачалі ўлівацца ў агульначалавечы літаратурны працэс. Зноў званок... Можа, Лена Папова? Мелася прыехаць раней.

— Алё-ё... Лёня? Лёнечка! Ды ты ці не з Гаваяў звоніш?! З іх самых? Прывязеш у падарунак вершы? Вельмі ўсцешана...

Вось і Лёня Дранько-Майсюк пазваніў. Ён ужо з паўгода жыве на Гавайскіх астравах. Калісьці, вельмі даўно, сваю першую кніжку ён назваў «Вандроўнік» і ўсё вандруе з тых часоў: то ў Італіі, то ў Францыі... Неяк мне сказаў што Парыж стаў зусім не той. Сумна і нецікава. Заходнееўрапейцы апошнімі гадамі чамусьці аблюбавалі нашу Гародню. Ім таксама ў Парыжы сумна. Лёня хутка вернецца з новай кнігай. А я ж зусім нядаўна перачытвала ягоны «Акропаль». Ды вось яна, кніжка, яшчэ нават не пакладзеная на паліцу:

Паэты любыя, вы ўсё маглі,
Таму не дзіва, што ў вачах каханых
Вы мора бачылі і караблі
І свой апошні дзень, у кут загнаны.

Але ці бачылі вы туманок,
Той самы, што над позіркам панурым
Пазвоньвае, як сонечны пясок,
У звонікі іконнай кампанулы,—

А пад вясёлым позіркам маім
Празрысты робіцца і лістападны
І ў пацалункавы ерусалім
Па небу шлях паказвае дакладны...

Трэба ж, як завярнуў! «Пацалункавы ерусалім»... Валодзя Някляеў яшчэ з часоў маладосці пры сустрэчы заўсёды так далікатна цалуе ў шчочку. А сёння дык, напэўна, і ў абедзве. Праўда, шкада, што на шчочку нічога гладзенькага ды ружовенькага не нацягнеш. Але Валодзя ўсё разумее, яму й самому не васемнаццаць, як, дарэчы, і ўсім астатнім, хто сёння прыйдзе за гэты святочны стол. А Лёню Дранько-Майсюку трэба будзе напісаць ліст... Па тэлефоне не паспела сказаць, што на тым тыдні ў старым Мінску адкрывалі помнік нашаму любаму Н. Ён быў трошкі маладзейшы ад нас, але мы лічылі яго сваім сябрам. Я толькі плакала — Н. агромністы ў бронзе! А колькі люду! Урад, інтэлігенцыя, проста чытачы, шмат было і з самых багатых слаёў. Вельмі ўсхвалявана і пранікнёна гаварыў адзін надта вядомы і шаноўны банкір. Ганарыўся тым, што яму выпала жыць у адным часе з Н. Што яшчэ даўно-даўно сустракаў ягоныя вершы ў

друку і захапляўся гэтым вялікасным талентам. Мне перапала трошкі больш, чым вядомаму банкіру, бо не толькі захаплялася вершамі Н., а і даволі часта сустракалася з ім. Ну вось хоць бы тады, дарэчы, усё ў тых жа дзевяностых, у той самай сярэдзіне. Вяртаюся са сваёй «Работніцы і сялянкі», дзе тады працавала, і ў пераходзе пад Круглай плошчай заўважаю Н. Звярнула ўвагу на нейкія летнія атопкі, а на дварэ ці не лістапад ужо быў. Праўда, яны і не здзівілі. Купіць прыстойны абутак творчаму чалавеку ўжо і не ўяўлялася магчымым. Час быў блытаны, грамадства спяшалася як мага хутчэй падзяліцца на багатых і бедных. Ужо шмат хто назапашваў першапачатковы капітал, а той-сёй дык даўно і назапасіў. Ну, а які капітал у паэта? Толькі вершы, за якія плацілі ледзь не дзірку ад бубліка.

— Што ты стаіш такі пахмурны? — пытаюся.

— Ды правалiся яно ўсё, хачу хоць на тыдзень куды-небудзь з'ехаць! У вёску, у нізкае неба, у дажджы, каб як след адпісацца...

— З'едзь!

— А за які шыш? Без білета не паедзеш, ды і не кулак жа там будзеш грызці!

І тут я ўспомніла... Быў у мяне такі знаёмы Ігар К. Знаёмства наша пачалося дзесьці з сярэдзіны васьмідзесятых. Помню, ці не ў «Маладосці» быў надрукаваны мой верш, які пачынаўся радкамі:

Я з душы сваей вырвала слова
і яго акрыліць не змагла,
за абдымак куплю ў птушкалова
маладога пад восень шчыгла...

І мяне праз нейкі час проста завалілі лістамі, і ледзь не на кожным адваротны адрас: п/с і нумар... Пісалі маладыя людзі, як гаворыцца, з месцаў не надта аддаленых, якія апынуліся там з прычыны самых розных абставін на той ці іншы тэрмін. Ігар быў адным з тых адрасатаў і, як пасля расказваў, прачытаўшы той верш, уявіў сябе маладым шчыглом у клетцы, але справа ўжо не ў гэтым. Дзесьці на пачатку дзевяностых званок у дзверы. Адчыняю. Стаіць яшчэ малады чалавек з «мільёнам пунсовых руж». Гэта і быў Ігар. А бывала, мы сустракаліся выпадкова ў метро ці на вуліцы. Я радавалася за яго. Ён адкрыў нейкі свой бізнес, і ўсё ў яго было проста выдатна. Вось і сказала нашаму міламу Н.:

— Ведаеш, ёсць у мяне адзін чалавек, які, напэўна, табе дапаможа, і з'едзеш ты ў свае дажджы. Пойдзем званіць...

Гэтак яно і здарылася. Ігар не адмовіўся стаць, як тады гаварылі, спонсарам, і Н. надоўга знік.. Потым у яго былі і шумная слава, і грошы, і нават званне ганаровага акадэміка нейкай французскай

акадэміі мастацтваў. І вось... Н. у бронзе. Магчыма, прыйдзе да яго і Ігар. Не ведаю, дзесьці згубіліся яго сляды ў часе, як нярэдка губляецца след шчырага, добрага чалавека. І прамовы ля помнікаў пачынаюць гаварыць зусім іншыя людзі.

Зноў званок...

— Алё-ё... Волечка?! Якое палатно?! Мужа? Не турбуйцеся, прымацаваць, вядома, будзе дзе... Прыязджайце з унукам, пабавіцца тут з маёй праўнучкай.

Званіла Вольга Куртаніч. Трэба ж, надумалі... Муж у яе выдатны мастак, дык хочуць цэлае палатно прывезці ў падарунак. І хоць дом у мяне і не надта вялікі, усяго два паверхі на дзевяць пакояў, але сцен дастаткова. Прыладзім палатно на самым кідкім месцы. Усё-ткі добра, што тут, пад Шышчыцамі, я аблюбавала сабе гэты дамок. Ці ж магла калісьці падумаць, што так разрасцецца Мінск і што можна будзе замахнуцца нават на ўласную будыніну? Калі ж гэта я купіла яе? Ды ўжо гадоў з восем... У Англіі тады выдалі майго «Міжпланетнага Пажарніка» для дзетак. Вось і з'явілася магчымасць. І зазірае штодня густое кляновае голле ў вокны, прасейваючы сонечныя промні, замінаючы ім да канца асвятліць гэты пакойчык. А я, дарэчы, і люблю прыцемак. Ён засяроджвае думкі і заўсёды навявае нейкую наразгаданую тугу... Па чым? Ці па кім? Усё імкнуся і імкнуся штосьці ўспомніць, а яно ніяк не даецца, і ці ўвогуле было яно, тое штосьці? Вялікая радасць, каханне, звычайнае простае шчасце... Ды і што яно такое? Хто можа сказаць, што спатоліў душу шчасцем?

— Бабуля... Чуеш, бабуля! Хтосьці ўжо звярнуў да нас... Табе трэба выйсці!

Ну, напэўна... Унучка прачыніла дзверы і адразу знікла. У іх сёння свой клопат, вунь які апетытны дух ідзе з кухні. Трэба ж нешта накінуць на плечы...

І хто ж гэта там палівае кветкі ў пярэднім пакоі? Лена... Лена Папова... А я ж і думала, што яна мелася прыехаць раней...

— Дык ты ўжо тут? А чаго ж адразу не зайшла да мяне?

— Хацела, але Сяргей твой сказаў, што расхвалюешся і, чаго добрага, падскочыць ціск. Ну ідзі, выходзь на ганак... Там ужо нехта прыехаў.

Глядзі ты, і надвор'е не падвяло — вясёлы і цёплы майскі дзень. Шкада, што чарнабрыўцы яшчэ не цвітуць. Столькі кветак за жыццё прайшло праз рукі, а любімымі засталіся толькі гэтыя. Чыя ж там машына? Ды Аляксей... Аляксей Дудараў з Валяй!.. І навошта абыходзяць клумбу?

— Не абыходзьце! Праступіце цераз яе!

А вунь і яшчэ легкавічок збочвае... Вось і пачынаюць збірацца мае госці.

— Усё-ткі абышлі клумбу...

— Ды кінь ты пра яе! — Лёша нібыта і не змяніўся, тыя самыя лёгкія рухі.

— Што ж табе сёння сказаць, Баравікова?!

— Што сказаць?.. Ды каб жа я ведала, Лёша! Чарнабрыўцы яшчэ не цвітуць. Думаю, ці браты змогуць прыехаць... І ўвогуле... Маладосць наша дзесьці далёка-далёка ззаду, а наперадзе так блізенька дыхае вечнасць. Што ж тут ужо скажаш? Што скажаш?..

1994

## ВУШЫ

Апошнім часам ёй часта сніліся кашмары. Сёння таксама быў кашмар. І яна ніяк не магла разагнаць у сабе пачуццё адчаю і бездапаможнасці перад той невядомасцю, якая ўсё бліжэй і бліжэй падступалася да яе і абуджала не радасць, як гэта сцвярджаюць ейная маці, бабуля, Аркадзь, а страх. Самы натуральны страх, падмацаваны гэтай начной жудасцю. Ёй хацелася як мага хутчэй пра ўсё забыцца, мітусіцца, рухацца, а яна ўжо з гадзіну, нібыта скаваная, ляжыць у ложку і няма ніякіх сіл падняцца. Калі б тут, побач з ёю, быў Алег, усё было б іначай, але Алег, ейны муж, ужо другі тыдзень у Лондане, і толькі тры тэлефонныя званкі: «Ні хвіліны вольнай! Паседжанне за паседжаннем...» У чалавецтва ўзніклі касмічныя праблемы, але якое дачыненне да іх можа мець біяфізік? Яна паспрабавала падняцца, і адразу з суседняга пакоя адазвалася бабуля Вера:

— Ніначка, ну нарэшце! — зазірнула ў яе пакой.— Прачнулася? А я тут вычытала рэцэпт салаты якраз для цябе. Можа, дапамагчы апрануцца?

Ніна вяла крутнула галавой:

— Не-е... У мяне зноў быў кашмар. Пасядзі трошкі са мною.

Бабуля села побач на ложак. Ніна прытулілася да яе, уткнулася тварам у цёплае плячо. Да горла падступіў даўкі, гарачы камяк.

— Бабулечка, мне прыснілася, што ўсё... Я разрадзілася.

— Ну то й добра, Ніначка. Хтосьці падае вестачку, што ўжо восьвось

— Я не хачу!.. Не хачу... Абдымі! Пагладзь мяне! — Ніну душылі слёзы.— Гэта быў кашмар! Як і сказаў доктар, у мяне нарадзіўся хлопчык. Але... Але, бабулечка... Ён быў ненармальны. Не такі, як усе мы. Нейкі страшны мутант. Бабулечка... У яго былі свіныя вушы! — выдыхнула яна праз пакутлівую паўзу.

Бабуля ажно адштурхнула яе ад сябе.

— Ды што ж гэта?! Ты хаця думаеш, што ты такое кажаш?! Пра сваё дзіцятка, якое яшчэ і на свет не зірнула. Паднімайся! Уставай, зараз жа! Я цябе ў царкву адпраўлю! Глядзі, што выдумляе. Табе не са мной, з Маці Божай трэба весці размовы... Ложка не прыбірай! Сама засцялю. Апранайся!

І бабуля Вера выйшла з пакоя, наўмысна моцна ляснуўшы дзвярыма. Як ні дзіўна, гэтыя яе словы падзейнічалі. «А чаму б і сапраўды мне не пайсці ў царкву,— падумала Ніна.— Вось і голас Аркадзя чуецца з пярэдняга пакоя. Ён можа мяне падвезці». Хутка пачала апранацца. Думкі міжволі перакінуліся на Аркадзя. Што ні кажы, а ён

хвалюецца за яе больш, чым маці. Не-не ды і заскочыць дадому, а раптам? Раптам ужо трэба выклікаць «хуткую». Мама во круціцца, займаецца сваім фондам, часам і пазваніць забудзецца, а Аркадзь...

Яна не ведала свайго бацькі, нават гаворак пра яго ніколі не ўзнікала. Гэта была забароненая тэма ў іхнім доме. Колькі ж ёй тады было: два, тры гады? Яна зрэдзь вярталася да таго моманту... Рассыпаныя каляровыя алоўкі на стале. Тоўсты сшытак, але ёй зусім не хочацца маляваць. Яна чакае маму. За акном ужо даўно сцямнела. У суседнім доме насупраць амаль усе вокны цёмныя. Ды вось нарэшце шчоўкае замок. Яна кідаецца насустрач маме і замірае... Побач з маці стаіць незнаёмы малады чалавек. І мама прамаўляе неяк мімаходзь: «Ніначка, гэта Аркадзь... Ён цяпер будзе жыць у нашым доме». Праз колькі часу яна папыталася ў маці: «А як жа ўсё-ткі мне яго называць?» — «Ну не бацькам жа,— адказала тая.— У цябе не ягоная кроў... Гэтак і заві... Аркадзь!» І вось ужо цэлых дваццаць гадоў яна так і заве яго, але за свайго Аркадзя яна змагла б пастаяць перад кім заўгодна. Ён адзін з самых блізкіх ёй людзей, і звычайна не маці, а яму яна давярае свае самыя патаемныя жаданні і думкі...

— Ты апранулася? — у пакой зноў зазірнула бабуля.— Аркадзь прыехаў. Ты яшчэ можаш паспець у царкву пад канец службы, каб асабліва не штурхацца ў натоўпе. Паслухайся мяне... І абавязкова паставіш свечку...

— Ну хіба ж я не ведаю, што трэба паставіць свечку.

— Дык ідзі... перахапі што.

Потым яны ехалі з Аркадзем у машыне. Яму ўжо далека за сорак, а глядзі, як трымаецца! Падцягнуты, фацэтны. Фірму адкрыў па збыту сваіх тэхналогій. Ёй схацелася дакрануцца да ягонай рукі, пяшчота супакойвала.

— Э-э, я за рулём! Праз некалькі гадоў во гэтак вазіць буду ўнука. Дык вы не перадумалі? Значыцца, Максім! У нашым родзе ўсе былі Максімы... І прадзед мой, і дзед, і бацька, а я... Аркадзь!

— Дык жа бабуля Лера — Аркадзеўна!

— Во-во, яна і настаяла. Можа, цябе вечарам у цырк звадзіць? Ты не маці, не бабулю, а мяне слухайся. Табе ў тваім становішчы трэба ўвесь час бачыць вясёлыя, мілыя, добрыя твары. Тады і эмоцыі станоўчыя будуць. Смяюнчыка ўнука нам народзіш.— Аркадзь падміргнуў ёй.— А то Вера Мікітаўна сказала, што ты зусім раскісла! З царквы забраць цябе не змагу... Тут жа дзесьці сяброўка твая паблізу жыве. Да яе зайдзі. Я не ведаю, але здагадваюся, якімі бываюць размовы ў маладзенькіх жанчын!

— У Каці вялікія праблемы.

— Што здарылася? — і спахапіўся: — Ну, калі праблемы, да яе не хадзі. Ніякага хвалявання. Гэта супрацыпаказана. Толькі светлы настрой, і усё будзе о'кей! Я дамовіўся з свяцілам доктарам, у самую фешэнебельную радзільню цябе завязём.

Яна слухала Аркадзя і думала пра Кацю... Сваю самую лепшую сяброўку, што выскачыла замуж адразу пасля школы. Там, у Каціным доме, яна і пазнаёмілася са сваім Алегам. Божа, які гэта быў дом! Як яе цягнула туды. Кацю нібыта насілі на сваіх крылах анёлы, а яна сама сцвярджала, што гэта носіць яе на руках Валерка, ён пранасіў яе роўна чатыры гады. У іх ужо былі маленькія Лёнік і Леначка. А вось усё ранейшае знікла.

— Я не магу больш цягнуць гэты воз. Элементарна не ў стане! — аднойчы сказаў Каці Валера і знік сам. Пайшоў да нейкай багаценькай бізнесменкі, што старэйшая за яго ледзь не ўдвая. «Хоць бы Алег здагадаўся прывезці Каці што-небудзь з Лондана»,— падумала яна. Алег... Аркадзю яна не адважылася расказаць пра свой начны кашмар, а Алегу ці змагла б?! Божа, свіныя вушы!.. Навісалі над самым лобікам... А носік моршчыўся... Моршчыўся... Калі Алег даведаўся, што ў іх будзе хлопчык, прынёс ёй бярэма белых хрызантэм, усе, колькі было ў кветкавым магазіне. І чырвоным фламастэрам ледзь не на ўсю сцяну напісаў «Сёння я ўпершыню даведаўся пра цябе, Максім. Цалую, тата!» А яна сніць гэты кашмар. А можа, сапраўды пасля царквы пайсці да Каці? Валерка, гад! Як толькі пасмеў пакінуць Кацю без грошай, без працы. Аднекуль здаўна, з мінулага выплыў Валеркаў твар. Ды які там твар — тварык! Вастраносенькі, над нізкім ілбом белабрысая, доўгая, заўсёды тлустая пасмачка. Такія ж белабрысыя бровы... Яна нават лёгенька застагнала. Невядома адкуль з'явіліся тыя самыя свіныя вушы... Яны так трапна ўпісаліся ў гэты Валеркаў партрэт.

— Што, Ніначка, табе кепска?

— Не, усё нармальна, Аркадзь. Спыніся дзе-небудзь тут. Не пад'язджаць жа мне да царквы на машыне.

— Ну, як ведаеш...

Аркадзь прыпаркаваўся. Усё астатняе было як забыццё. Яна доўга стаяла ля іконы Божай Маці, удыхаючы водар распаленага воску, гарачага лёгкага паветра. Людзі пакідалі царкву, а яна ўсё ніяк не магла выказацца: «... і пазбаў мяне кашмару, атулі Сваімі далонямі ягоны тварык, не падпускай да яго нічога злога, і хай як мага хутчэй вернецца Алег...» Потым, калі ўжо ішла людным праспектам, пашкадавала, што не ўкленчыла, а раптам яе словы не дойдуць да Маці Божай, і ноччу зноў прысніцца нейкі жудасны кашмар. Але хай што

заўгодна, толькі не гэтыя агідныя вушы на галоўцы, якую яна носіць у сабе. А што ж мама? Раптам успомніла, што сёння яна яшчэ не бачылася з маці. Можа, зайсці да яе ў фонд? Ёй не надта імпанаваў гэты заўсёдны матчын імпэт. Маці не магла жыць без руху, без дзейнасці. Калі ёй Бог што і даў надзвычай адметнае, дык гэта энергію, якую яна спачатку ўкладвала ў прафсаюзы, цяпер вось у Фонд дапамогі дзецям-сіротам. Хоць, са слоў маці, сірот гэтых не так і многа. Іх, як правіла, апякуюць дзядулі, бабулі, нейкія далёкія сваякі, а тут проста няшчасныя дзеці — плады кахання алкаголікаў наркаманаў... Аркадзь нават нядаўна прапаноўваў удачарыць дзяўчынку, якую ейная маці накіроўвала на лячэнне ў Італію. Але не рызыкнулі. Вырашылі дачакацца ўнука. Няшчасныя дзеці... Ёй да гэтага часу не верыцца, што алкагалізм — хвароба! Проста нейкі распад... Але калі ёсць туберкулёзная палачка Коха, чаму б не быць і мікробу дэградацыі. Трапляе таю мікроб у арганізм, і чалавек паступова співаецца. Азірнулася... Вось дом пад нумарам 53. Як жа гэта яна прамінула яго? Можа, вярнуцца? А што гэта дасць? Ужо з год, як Людміла Іванаўна, яе любімая інстытуцкая выкладчыца, не жыве ў ім. З мужам памянялі сваю трохпакаёвую кватэру на аднапакаёўку ў нейкім мікраараёне, а можа, проста такім чынам схаваліся ад суседзяў, сяброў ды знаёмых.

У Людмілы Іванаўны быў незвычайна ціхі голас, але ўся іх студэнцкая аўдыторыя замірала, як толькі яна пачынала чытаць сваю лекцыю. Яна гэта рабіла таленавіта. Любіла запрашаць да сябе сваіх любімых студэнтаў і як толькі пачыналі піць чай, як правіла, заўсёды з'яўляўся яе адзіны сын Шурык. Накідваўся на торт, і Людміла Іванаўна сваім ціхім голасам спыняла яго: «Шурычак, а рукі? Ты зноў забыўся памыць рукі...» Шурык бег у ванны пакой, а Людміла Іванаўна далікатна апраўдвалася: «Ну, вось закончыць школу, можа, пасталее... А пакуль бы дзіця. Але скажу, і рукі заўсёды памые. Яшчэ ніколі не сеў за стол, не памыўшы!» А два гады таму назад гэты самы Шурык сваімі чыстымі рукамі разам з яшчэ адным такім самым шурыкам па суседстве з імі задушыў адну бабулю і ейнага дзесяцігадовага ўнука, каб вынесці з кватэры тысячу даляраў. Яна так і не змагла дазваніцца тады да Людмілы Іванаўны. І ніхто з аднакурснікаў не змог, таму яна і не ведае, чым закончылася следства, што сталася з Шурыкам? Хм-м... Свіныя вушы. Яна зноў была гатова вярнуцца да свайго начнога кашмару. Не-не, толькі не гэта! Спынілася ля нейкай яркай стракатай вітрыны, а потым нацягнула на галаву капюшон лёгенькага плашча і вырашыла ўсё-ткі падацца да маці...

У фондзе яе ветліва сустрэла маладзенькая сакратарка і тут жа прапанавала, ледзь не глытаючы словы:

— Вы сядайце... Вам цяжка стаяць. А Марыі Канстанцінаўны няма. Ды хіба ж вы не ведаеце?! Ёй званіў ваш муж з Лондана. Наколькі я зразумела, ён прыязджае. Ну, сядайце ж!

Сакратарка, відавочна, сумавала і не супраць была паразмаўляць з дачкою начальніцы, але Ніна заспяшалася. Алег! Якія могуць быць размовы, калі Алег вяртаецца! Хутка развіталася з сакратаркай, выйшла з фонду і тут жа злавіла таксі... Гэтым днём да свайго начнога кашмару яна больш не вярталася.

Усе думкі былі скіраваныя да Алега. У яе быў шчаслівы шлюб, у што, дарэчы, асабліва ніхто не верыў. Яны пажаніліся праз тры месяцы пасля знаёмства, і зусім маладзенькі кірпаносенькі хлопчык, які да гэтага часу мае выгляд падлетка, аказаўся не толькі добрым мужам, але яшчэ і выдатным вучоным. Ягоныя навуковыя працы друкаваліся па ўсім свеце, і гэта была не першая замежная камандзіроўка. Але ўсе тыя разы камандзіроўкі тычыліся нейкіх пэўных ягоных доследаў, а тут... «Штосьці звязана з космасам,— збіраючыся ў Лондан, сказаў Алег,— Нічога пэўнага я не ведаю. Ну, а калі запрасілі, трэба ехаць!» З-за свайго далікатнага становішча яна не змагла яго правесці, дык, можа, рызыкнуць цяпер і разам з Аркадзем паехаць у аэрапорт? З такою думкай яна і ўвайшла ў кватэру. Да яе адразу кінулася радасная маці

— Ніначка, мне пазваніў Алег...

— Ма-а, я ўжо ўсё ведаю. Заходзіла ў твой фонд. Дзе Аркадзь?

— На фірме... Алег прылятае а трэцяй гадзіне ночы. Аркадзь не будзе заязджаць дадому. Затрымаецца ў офісе, а потым адтуль і паедзе па Алега.

— Значыцца, уся ноч у чаканні тут... дома?! — здавалася, яе расчараванню няма канца.

— Чаму ўся ноч у чаканні? — запярэчыла бабуля Вера.— Ты пойдзеш спаць, Ніначка. Мы тут будзем завіхацца, нешта ладзіць, каб было што выставіць на стол...

— Адразу і накрыем, як толькі з'явіцца Алег з Аркадзем,— энергічна прапанавала Марыя Канстанцінаўна.— Колькі б гадзін ні было, хай самы досвітак! Не так часта зяць вяртаецца з Лондана!

— Вось тады і цябе пабудзім,— бабуля дапамагла Ніне сцягнуць з ног боцікі.— Стамілася, бедная?

— Угу-у...

І калі зайшла ў свой пакой, павяла позіркам з кутка ў куток, зразумела, што і ёй трэба будзе трошкі папрацаваць. Потым былі тэлефонныя званкі... Званіла Каця, якая шукала добрага адваката, каб спагнаць аліменты з Валеркі, які, як высветлілася, нідзе не працаваў,

жыў за кошт сваёй бізнесменкі. Пазваніў і Аркадзь з аэрапорта, сказаў што, дзякуй Богу, Алегаў рэйс не затрымліваецца. Маці ледзь не гадзіну прагаварыла па тэлефоне з суседкай, кватэру якой на мінулым тыдні абакралі, і цяпер суседка засцерагала, маўляў тое, што зяць пабыў у Лондане, вельмі добра, але ж і не з пустымі рукамі ён адтуль вернецца, каб хто не навёў?! У яе цяпер ёсць знаёмыя хлопцы, якія за трыста даляраў могуць паставіць жалезныя дзверы. Потым Ніна чула, як гэтыя самыя «жалезныя дзверы» маці шумна абмяркоўвала з бабуляй. І павярнула ўсё на свой лад.

— Умацуемся, дык ужо абавязкова абкрадуць! Адразу хтось вырашыць: калі жалезныя дзверы паставілі, значыцца, ёсць што красці!

Ніна пазяхала ў ложку. Яе нібыта ўсё гэта і не тычылася. Ну, час такі... Ну, боўтаюцца людзі ў нейкай сваёй прорве, і калі засяроджвацца на гэтым, дык навошта тады і жыць?! Яна прасіла Алежку, каб прывёз ёй Шэкспіра ў арыгінале, а маці пра нейкія жалезныя дзверы! Апошняе, што яшчэ не патанула ў сне, быў надпіс на сцяне, які зрабіў Алег чырвоным фламастэрам: «Сёння я ўпершыню даведаўся пра цябе, Максім. Цалую, тата!»

А потым аднекуль зводдаль яна пачула вясёлую гаману. Галасы набліжаліся, і вось ужо яна выразна чуе Аркадзеў голас:

— Ніну не будзі, не трэба! Ночы ў яе неспакойныя былі.

— Ага,— адразу выплыў голас бабулі Веры.— Штосьці найшло на яе. Я нават у царкву ўчора адправіла.

— Дык яна была ў царкве? — адазвалася Марыя Канстанцінаўна.— Бачыш, Алежка, што тут без цябе робіцца!

Алежка... Алег! Ніну бы падкінула ў ложку. Хутка паднялася і, як была ў начной сарочцы, рушыла ў суседні пакой на галасы... І вось ужо яна абхапіла рукамі Алежкаву шыю, падстаўляе шчокі для пацалункаў.

— Ну хопіць вам, хопіць...— пасміхнуўся Аркадзь.— Давайце сядзем за стол! Я ад учарашняга абеду нічога не еў!

Яго прапанову падтрымалі і дружна прамовілі першы тост: за вяртанне! Алежка пяшчотна пагладжваў худзенькае плячо Ніны, зазіраў у вочы, асцярожна датыкаўся да ейнага жывата, маўляў з ім усё нармальна?

— Ну проста як малыя дзеці! — адазвалася Марыя Канстанцінаўна.— Не хвалюйся! Усё ў Нінкі як трэба! Ад сілы тыдзень, і разродзіцца. Будзеш выклікаць «хуткую», стаяць пад дзвярыма радзільні.

Алег апусціў галаву, адпіў з фужэра трошкі шампанскага.

— Марыя Канстанцінаўна, я ўжо казаў Аркадзю Максімавічу. Праз тры дні мне трэба ехаць... Ніну пакіну на вас.

— Куды? Куды ты зноў паедзеш?! — Ніна павярнула да яго ўстрывожаны твар.

— У Маскву... А потым, пасля спецпадрыхтоўкі, відаць, будзе Байканур... Ужо зацверджаны спіс міжнароднага экіпажа.

Маўчанне было працяглым. Алежкавы словы бы аглушылі ўсіх. Нарэшце пачуўся голас Марыі Канстанцінаўны:

— Дык цябе што, у космас адпраўяць?!

— Што ты чэпішся, Маша! — адазваўся Аркадзь.— Хай лепш раскажа, што было ў Лондане? Не проста ж так ездзіў...

— Вядома,— пацвердзіў Алег,— Прэса пакуль маўчыць, хоць пра Рудыя Карлікі было паведамленне. Дык вось... У мінулым годзе англійскія вучоныя выявілі ў нашай Сонечнай сістэме незразумелыя целы. Іхняе паходжанне пакуль загадка. Далі назву гэтым целам: Рудыя Карлікі. І яшчэ ёсць адна: Свіныя Вушы. Гэтыя Карлікі маюць форму свіных вушэй.

Ніна ўся напялася. Моцна-моцна сціснула Алежкаву руку. Свіныя Вушы... Яе начны кашмар! Пра што гэта ён такое гаворыць? А Марыя Канстанцінаўна засмяялася:

— Ну ты і разумнік! Дагаварыўся! Атрымліваецца проста нейкае свінства... Там... уверсе над намі!

— Не над намі, Марыя Канстанцінаўна, а тут... Сярод нас свінства!

Ніна заплюшчыла вочы, і адразу ўяўленне вымалевала той начны кашмар: маленькая-маленькая галоўка і... Захінулася рукою, папрасіла ціха:

— Алег, падай шклянку з сокам.

— Табе кепска? — ускочыў Аркадзь.— Дык мо пачынаецца?

— Не, усё нармальна...— Ніна неяк вінавата пасміхнулася да Алега.— Ты, Алежка, расказвай, нам усім цікава.

— Асабліва табе... Угу-у...— незадаволена прабурчэла бабуля Вера,— Выкінь з галавы! Цябе гэтыя Свіныя Вушы не тычацца!

— Вядома,— чамусьці ўзвілася Марыя Канстанцінаўна.— Алежка, ты давай працягвай... Якое гэта свінства тут, сярод нас?!

— Я меў на ўвазе ў маштабным сэнсе... У зямным! — Алег нібыта апраўдваўся, што сказаў нешта не тое,— Ну, адкрылі Рудыя Карлікі... І хутка забыліся б пра іх! Але зусім нядаўна ў Іспаніі... У маленькім гарадку Прыега дэ Кордаба археолагі падчас раскопак знайшлі старажытныя тэксты. Там была зоркавая карта і нашай Сонечнай сістэмы, а на ёй контуры тых самых Рудых Карлікаў. Іншымі словамі, Свіных Вушэй. Тэксты ўдалося расшыфраваць... Наша цывілізацыя на Зямлі не першая, праўда? Дык вось, як толькі з'яўляюцца гэтыя Свіныя

Вушы, свет з катастрафічнай хуткасцю пачынае набліжацца да свайго канца. Войны, разбой, невылечныя хваробы, ніякай маралі... Трэба выявіць прыроду гэтых вушэй. Ды што я пра космас! — раптам узарваўся ён.— Зірніце за акно... Адно што не бачым! Але колькі там іх, з гэтымі самымі свінымі вушамі?! І вішчаць, і грабуць пад сябе, і адпіхваюць адно аднаго, забіваюць, гвалцяць... Бацькі адмаўляюцца ад дзяцей, дзеці гатовы парваць бацькоў!

І Ніна не вытрывала... Ускочыла, кінулася бегчы, зачапілася за крэсла... Алег ледзь паспеў падхапіць яе, і яна закалацілася, забілася ў ягоных руках:

— Замоўкні! Ні слова... Ты ўсё напрыдумляў! Няма ніякіх Рудых Карлікаў! Ніякіх Свіных Вушэй! Не пушчу! Ты нікуды больш не паедзеш!..

І ўсё ж праз тры дні познім вечарам Алег з Аркадзем стаялі на чыгуначнай платформе. Цягніка яшчэ не падалі, і Аркадзь нерваваўся:

— Мы з табой заблыталіся ў часе... Куды спяшаліся? А там Ніна ўжо можа... Ты адразу раніцай з Масквы пазвані. Далібог, яна мне сёння не падабалася, мо ўжо дзесьці ляціць на «хуткай дапамозе»?

І Аркадзь не памыліўся... «Хуткая» з Нінай і Марыяй Канстанцінаўнай ужо пад'язджала да радзільні. Ніна была бы скамянелая, быццам і не адчувала болю, а Марыя Канстанцінаўна, наадварот, усё шаптала і шаптала:

— Ты, Ніначка, не бойся! Усе жанчыны праз гэта праходзяць.

І Ніна таксама прайшла... Болю ўжо не было, толькі страх. Яна ледзь разбірала словы доктара, але чула... Чула...

— У вас, даражэнькая, хлопчык! Во-о, які! Падобна, што будзе кірпаносенькі. Ручкі што перавязаныя... Поўненькія шчочкі... Срачка з ямінкамі...

І яна не стрымалася, закрычала, бы штосьці вырвала з сябе:

— Доктар! Доктар! А вушы... Вушы ў яго якія?!

1998

## КАВА ДЛЯ ДАМАВІКА

У яе быў дзень нараджэння. Слотны, халодны дзень. Павіншавалі на працы, у маленькай ашчаднай касе, дзе яна трэці год працуе касіркай,— вунь яны, пяць чырвоных гваздзікоў, стаяць на століку, а яна, трыццаціпяцігадовая, ляжыць на канапе з блізка прыстаўленым тэлефонам,— можа, хто пазвоніць?! А раптам? Раптам... званок! «Гэта я, не пазнаеш?.. А я помню. Сёння твой дзень, хачу цябе бачыць...» Хто гэта? — радасна выдыхне яна і пачне ўспамінаць... Хаця, што згадваць?! З апошнім, можна сказаць, выпадковым знаёмым яна развіталася два месяцы таму назад. Гм-м, развіталася! Проста выгнала, і ўсё. Твар у яго быў нахабны, не іначай прымерваўся да кватэры. Відаць, было зручна зазірнуць з пляшкай, каб не на вуліцы, не ў скверыку.. А ў яе што, закусачная?!

Прыкрылася коўдрай. «У мяне не закусачная. От, ляжу сабе ціха, ніхто не тлуміць галавы, а можна і ўстаць. Адзінае, чамусьці вельмі сябе шкада, і асабліва ў святочныя дні». Яна прыкусіла ніжнюю губу. Дурніца, ды хіба табе рабіць няма чаго! Дзе пыласос? Трэба падняцца, хутка прайсціся па дыване, каб ні пылінкі, потым выцерці пыл з мэблі, тое-сёе памыць... Нарэшце, узяцца за вячэру і — спаць...

Глыбей нацягнула коўдру, вочы заплюшчваліся. Посуд! На кухні стаяць брудныя кубачкі з недапітаю кавай, непамытая кававарка... Але ўсё заўтра, заўтра...

Яна стаяла пасярэдзіне пакойчыка. Ага-а, пыласос... вунь у кутку. Толькі заместа таго, каб падысці да пыласоса, падышла да акна. Знаёмая прывакзальная плошча. Тры вочкі святлафора — зялёнае, жоўтае, чырвонае... Маці, калі разменьвалі іхнюю старую чатырохпакаёвую кватэру, чамусьці была супраць гэтага месца. Нават спрабавала адгаварыць яе — маўляў шумна, спакою не будзе. А некалі замуж выйдзеш, дзіця народзіцца, не засне малое. Хацелася рассмяяцца... Маці і цяпер раніцай, калі пазваніла, каб павіншаваць яе, пасля звычайных у такіх выпадках слоў павучальна сказала: «Калі ёсць хто, дык сяброўак не запрашай, сяброўкі тут не дарадчыцы... Пакуль цвёрда ўсё не завяжацца, сяброўак блізка не падпускай. Адаб'юць! Разлучаць!» Дзівачка маці, што завяжацца? Ёй увесь час здаецца, што, калі б не сяброўкі, яна не заседзелася б у старых дзеўках у сваёй асобнай кватэры. Каб гэтага не здарылася, дзеля яе, уласна кажучы, і рабіўся размен.

— Ужо не той узрост, каб жыць пры бацьках,— сказала тады старэйшая сястра,— яна знаёмага запросіць, а вы ў шчыліну падгляд-

ваць будзеце! Сучасныя мужчыны ў тую хату, дзе старыя бацькі, не пойдуць! Жанчыне ў трыццаць пяць гадоў трэба жыць адной, асобна.

І маці пагадзілася з сястрою. Гм-м, пагадзілася... Зялёнае... жоўтае... чырвонае... міргаюць вочкі святлафора. Вось што... Яна адвярнулася ад акна. Вячэра? У халадзільніку пельмені гастраномныя, кавалак сыру. Ды што прыдумляць, калі на вакзале ёсць буфет! Можна выпіць кефіру, з'есці які бутэрброд, і не трэба пасля мыць ніякага посуду, толькі апрануцца, прайсціся па свежым паветры... Накінула паліто на хатні халацік — у буфеце ж не распранацца! — хутчэй па звычцы падвяла чорным алоўкам вочы, падфарбавала вейкі. Усё! З пад'езда выйшла не спяшаючыся — дыхаць паветрам, дык дыхаць,— і неўзабаве злілася з людскім патокам, несціханым і мітуслівым (людзі ж тут, на прывакзальнай плошчы, у асноўным прыезджыя), а ёй можна і не мітусіцца, ёй няма куды спяшацца.

У вакзальным буфеце яна стаяла ў чарзе за высокім мужчынам у скураной кепцы, нацягнутай на самыя вочы, і звярнула на гэта ўвагу толькі таму што ён моўчкі прапусціў яе ўперад.

— Вы што? — не зразумела.

— Хм-м... нічога! Я не спяшаюся.

— Я таксама...— але звярнулася да буфетчыцы: — Кефір, адну шклянку, і два бутэрброды з сырам.

— Кавы з малаком не бярыце,— пачулася ззаду.— Лепш мінералку. Кава халодная.

Гаварыў мужчына ў скураной кепцы, яна гэта адчула не азіраючыся.

— Што далей? Два бутэрброды з сырам?..— нецярпліва паўтарыла прадаўшчыца.

— Каву з малаком і яшчэ пірожнае. Можна эклер.

Падала прадаўшчыцы грошы, з талеркай і шклянкай кефіру пайшла да свабоднага століка. Кава! Яшчэ трэба ўзяць каву!

— Ваша рэшта і кава,— мужчына ў кепцы паставіў на столік шклянку з кавай, паклаў побач рэшту, пайшоў да стойкі. Праз хвіліну вярнуўся са шклянкай мінеральнай вады.

— Вы не супраць? Дарэмна адмовіліся ад мінералкі...

Патхнула тытунём. Яна зрэдку і сама была не супраць узяць цыгарэту, але тут быў нейкі асаблівы непрыемна рэзкі пах. Моўчкі адглынула са шклянкі з кефірам.

— Значыцца, не супраць?

Ёй хацелася абурыцца: нельга ж быць такім неадчэпным! Падняла вочы. Мужчына шырока ўсміхаўся. Зубы былі пракураныя ці мелі жаўтаваты колер ад прыроды.

— А вам пасуе!
— Што пасуе?
Яна не хавала раздражнення. Узяць і перайсці за іншы столік? Столікі ўсе занятыя... Зноў падняла вочы на мужчыну. Што яму трэба ад яе?
— Пасуе плямка ад кефіру вось тут... Ды не нервуйцеся вы! Проста не люблю вакзалаў. Быў няўдалы дзень...
— Дык надумалі прычапіцца да мяне? Нібыта ад гэтага ў вас з'явіцца любоў да вакзалаў!
Яна адставіла кефір, хутка праглынула сухі бутэрброд, запіваючы кавай з малаком, якая сапраўды была халодная і нясмачная. Эклер загарнула ў сурвэтку.
— Спяшаецеся? Пойдзеце на паветра ці ў залу чакання?
— Куды-куды? — ёй хацелася крыкнуць: якая зала чакання, да чаго тут зала, калі насупраць ейны дом, ейная кватэра! Але стрымала сябе, павярнулася і пайшла. Ненармальны! Абы прычапіцца!
Ён дагнаў яе ля пераходу, кепку яшчэ глыбей нацягнуў на вочы.
— Адной не сумна?
Спынілася. Паглядзела па яго зверху ўніз. Святло ад ліхтара нібыта выхоплівала мужчыну з цемры. Божа! Куртка расшпілена, шалік з паабрыванымі кутасамі і гумовікі! Зялёныя гумоныя боты з шырокімі халявамі. Прайдзісвет! Напэўна, п'е... ў адзіноце... во-о і твар непаголены! Толькі цяпер звярнула на гэта ўвагу. Ёй чамусьці падумалася, што да яе заўжды чапляліся менавіта такія, да непрыстойнасці абыякавыя да сваёй знешнасці і, як выяўлялася пасля, без выключэння амаль усе алкаголікі. Наліў — выпіў, выпіў — наліў!.. Гэтага яшчэ не хапала!
— Доўга будзем стаяць?
Божа, ён пасміхаецца! Спрабуе зрабіць надзвычай лагодны выгляд. І тут яе як прарвала:
— Ды што вам трэба ад мяне?! Ідзіце прэч! Мне непрыемна вас бачыць! Я спяшаюся. Спяшаюся дадому... Я хачу адпачыць! У мяне сёння дзень нараджэння. Вы сапсавалі мне вечар!..
Ён нахіліўся да яе.
— А-а?! У такім разе вечар толькі пачынаецца. Хм-м, дзень нараджэння са шклянкай кефіру...— і ціха, ля самага твару: — Як хочацца кавы... сапраўднай гарачай кавы... без цукру!
...Яны падыходзілі да яе дома. «А зрэшты, што ж у тым кепскага, калі я і запрашу яго на каву,— думала яна,— Ну паабрываныя кутасы на шаліку, ну гумовікі з шырокімі халявамі, на джынсах латка на калене,— гэта яна заўважыла ў падземным пераходзе пад плошчай,—

а так і нічога сабе... Нават залішне далікатны. На злодзея не падобны, ды і ўвогуле, што ён можа зрабіць мне ў маёй кватэры?! Суседзі, тэлефон... У любы момант можа патэлефанаваць маці альбо сястра. Не замуж жа за яго ісці, ды і пры чым тут паабрываныя кутасы на шаліку, латка на джынсах, можа, ён і вельмі добры чалавек».

— Мы прыйшлі.

Двор, куды яны заварочвалі, быў цёмны, змрочны.

— Жыццё... Дзіўна, многае забываецца,— казаў ён,— а вось гэты будынак я добра запомніў яшчэ ў дзяцінстве, не думаючы, што буду запрошаны сюды на каву. Можа, таму, што на ім гадзіннік? Я ж сам мінчанін. Кватэра ў Зялёным Лузе. А жыву ў вёсцы... А вы тут, пад гадзіннікам. Цік-так, цік-так... Не цікае?

«Яшчэ як цікае! — хацелася адказаць ёй,— Трыццаць пяць націкала,— Але маўчала. Думала: — Кватэра ў Зялёным Лузе. Мінчанін. Жыве ў вёсцы. Можа, хворых бацькоў даглядае? Можа, так... На дачы! А работа? Дзе ж ён працуе? Доктар? Настаўнік? Не падобна!»

Моцна грукнулі дзверы.

— От д'ябал, не прытрымаў!

Ён узяў яе за локаць, горача задыхаў у патыліцу.

— Чаго ж цёмна?! Пад'езд без гаспадара...

Боты ягоныя цяжка тупалі. На хвіліну з'явілася нерашучасць. Ці добра яна робіць, што вядзе яго? Зрэшты, кавы мог бы выпіць і дома, калі мінчанін. Навошта напрасіўся да яе? Вось і дзверы. Вочы прызвычаіліся да цемры, хутка адамкнула замок і ўвайшла ў кватэру. Уключыла святло, сказала, каб здымаў куртку. Успомніла пра свой хатні халацік

— Даруйце, вы госць неспадзяваны...

Ён толькі пасміхаўся. Сцягнуў кепку, моўчкі зняў куртку. Яна адзначыла, што ў яго прыгожыя вочы і валасы.

— Боты сцягну, не супраць? — нарэшце азваўся ён.

Згодна кіўнула. Каб не замінаць яму ў цесным пярэднім пакоі, пайшла на кухню. Кубачкі! Хутчэй трэба памыць кубачкі і кававарку! Пачала мыць. Чула, як ён прайшоў у пакой. Затрымаўся хвіліну. Ідзе да яе...

— Адразу за каву? — пасміхнуўся: — Аб'яву ў газету яшчэ не давалі?

— Якую аб'яву? — яна не зразумела.

— Звычайную. Маладая жанчына прывабнай знешнасці хоча знайсці партнёра па жыцці, мае сваю кватэру.

— У вас і жарты!

Задумалася. Хм-м... Толькі ўчора думала яна пра гэтую аб'яву. Стрымлівала адно: няма вышэйшай адукацыі, прэстыжнай працы, а гэта, як казала сяброўка, для сучасных мужчын таксама іграе не апошнюю ролю. Калі прагматызм, дык ва ўсім... Прывабнай знешнасці і кватэры мала, проста касірка ў ашчаднай касе не гучыць! Дыплом, як фасад...

— А вы што, цікавіліся аб'явамі ў газеце? — паглядзела на яго.

— Ды не,— ён абапёрся на вушак,— Неяк аднойчы натрапіў. Жанчыны дзіўны народ: усе як адна пішуць: «Маю прывабную знешнасць». А тут трэба зацікавіць. Нешта зусім нязвыклае... Скажам, гатую толькі адну страву — вельмі смачную качку з яблыкамі — альбо: вяжу цудоўныя каптурыкі для нованароджаных...

— Качкі з яблыкамі ў мяне няма, толькі кава...— яна развяла рукамі.— А што гэта вы пра аб'явы? — расцягвала словы.— Скуль вы ўзялі, што я адна... тая самая адзінокая жанчына?

— Трэба быць сляпым, каб гэтага не бачыць. Бр-р-р... ды ў вас кожная рэч у доме крычыць пра адзіноту. Вось сюды, калі ласка!

Ёй здалося, што ён падхапіў яе на рукі, а ён проста ўзяў за руку і пацягнуў у пакой. Спынілася на парозе. Глядзела на сцены, на знаёмую мэблю, потым запытальна на яго.

— Паказаць?— Ён падышоў да шафы.— Божа, якое сіроцтва! Тры створкі, гэты халодны паліраваны бляск... А вы зрабіце вось гэтак!

Павярнуў ключ у шафе, прачыніў дзверцы: «О-о, якое багацце!» Яна ўся сцялася. Што ён робіць?! Навошта?! Ён пацягнуў да сябе край зялёнай сукенкі, стукнуў дзвярамі, зашчаміўшы гэты краёк...

— Ну вось цяпер іншая справа! Я бачу, што ў доме жыве жанчына. Яна, між іншым, прышчаміла край сукенкі, якую вешала ў шафу. Яна некуды спяшалася. Прыгожая сукенка. Вельмі! Жанчына павінна любіць сукенкі. Яны шыюцца для яе. Яны павінны яе ўпрыгожваць, але іх трэба ўмець насіць. А калі яшчэ такі твар, як у вас! Вы паглядзіце! Гэты зялёны краёк як ветразь! Ён вабіць і ляціць... ляціць да свайго берага. Падыдзіце, сядзьце на канапу.

Яна падышла. Села. Ён адгарнуў з яе лба грыўку.

— О-о, ну вядома, я гэтак і думаў! Цудоўны лоб! Незвычайна прыгожы лоб. А вы яго — пад грыўку! Не трэ-э-эба! Усё, што прыгожае, павінна быць навідавоку.

Яна спрабавала адгарнуць грыўку назад, адвяла ягоную руку.

— Разумею. Вам нязвыкла. І дарэмна! Грыўка вас псуе. Палова праспекта ходзіць з грыўкамі, а вам трэба адкрываць лоб. У вас маленькія прыгожыя вушкі. Калі вы не будзеце падводзіць вочы

гэтым чорным тлустым алоўкам, а толькі злёгку пакладзяце цені — лепш зялёныя з лёгкім карычневым,— у вас будуць вельмі выразныя вочы. Вам, дарэчы, падабаецца зялёны колер?! Мне надта, гэта мой любімы...

— Кіньце! — Яна падхапілася з канапы,— Вы прасілі напаіць вас кавай. Трэба яе паставіць.

— Чакайце. Пакінем вас. Вернемся да кватэры. Тэлевізар у кутку — усё зразумела, каб можна было ляжаць на канапе! Вельмі зручна. Ляжыш і глядзіш! Не трэба ляжаць, гэта засмоктвае. Трэба стварыць нязручнасць. Значыцца, перастaвіць яго вось сюды...— і ён пацягнуў тумбу з тэлевізарам.

«Раскладны стол-кніга. Яму тут не месца!» — далятала да яе. І стол «ехаў» да супрацьлеглай сцяны. «Кветкі, гваздзікі... як пяць алавяных салдацікаў напагатове! Ды не трэба іх разам! Тры пакінем тут, а па адным вось сюды, у гэтую шкляначку і збаночак!» Ён яшчэ нешта перасоўваў, перацягваў, перастаўляў. Пакой на вачах змяняўся, быў яе і не яе. Нарэшце ён спыніўся, выцер лоб рукою.

— У мяне ўсё! Кава гатова?

Яны пілі каву на кухні, так хацелася яму, там больш цяпла. Яна сказала, што не хоча, каб усе размовы круціліся толькі вакол яе, ну а што ж ён?! Ёй гэта цікава.

— Я? Я... нічога! З дзяцінства малюю. Тое-сёе выстаўляў але гэта так... не Эль Грэка! Цяпер у вёсцы. Старшыня знаёмы работу прапанаваў. За тры кавалкі стэнды розныя і залу ў Доме культуры трэба аздобіць. На тры сцяны — палотны! Я, вядома, пагадзіўся і амаль усё выканаў. Прыгожа. А вось тры кавалкі прапанаваў аддаць на вяндлярню. Для калгаса і працоўнага сялянства. Пачнуць біць вепручкоў сваіх, хай вэндзяць каўбасы. Хм-м, не хоча старшыня, у яго іншыя думкі. А як жа харч для насельніцтва?! Колькі можна вяскоўцу ў горад па каўбасу ездзіць? Га-а?

Яна падлівала каву. Вяндлярня... Каўбасы... Ён, аказваецца, малюе з дзяцінства. Ёй шкада было сукенкі, заціснутай дзверцамі, і муляў вочы тэлевізар. Вядома, не на сваім месцы! Гэта раздражняла. Ён дакрануўся да яе рукі.

— Вы паслухайце. Нядаўна іду на бульбу разам з жанчынамі. Мерзнуць цётачкі, рукі стынуць, усе навіны вясковыя перагавораны, адна нервовасць! І ініцыятывы ніякай! Назаўтра я ім плакат прынёс. Ноч маляваў. Дыні, бананы, апельсіны, вінаград, ананасы... «Вось гэта, кажу, ананас, ён расце ў Афрыцы. А ў нас свая Афрыка і свой ананас. Гэта, кажу, бульба наша. Дык давайце і ставіцца да яе, як да ананасаў!» Я вас, пэўна, натаміў... Кава выпіта?

— Ды не, ёсць яшчэ. Наліць?

— Дзякую, дастаткова.

Яна сабрала кубачкі на маленькі паднос.

— Гэта пасля памыецца, а зараз, можа, тэлевізар?

Ён пасміхнууся.

— Хм-м, тэлевізар? А навошта вы сказалі: «Пасля памыецца»? Не... Жанчына павінна сказаць мужчыну іншае. І ведаеце што?

— Што? — Яна насцярожылася.

— Кава! Застаецца кава ў кававарцы. Можа, хай пастаіць да заўтра? Гэта для... дамавіка. І ўсё! І ў мяне няма адчування, што адзінота засмактала вас да «пасля памыецца»... Абыякавасць пры адзіноце — страшная рэч! Ну, а наконт дамавіка... Вы, наколькі я разумею, тут... нядаўна. Яго ўзялі з сабою?

— Каго гэта яго?

— Дамавіка! Значыцца, не ўзялі... А трэба ж было, як пераязджалі, адчыніць сумачку і прамовіць: «Ну, мой дамавік, скачы сюды... Паедзем у новае жытло». Не сказалі, не ўзялі... Цяпер дзесь бадзяецца. Кепска яму без вас.

Ён падняўся.

— Вы збіраецеся ісці? — нечакана спалохана вырвалася ў яе.

— Не... ісці не збіраюся. Цягнік у мяне ў сем гадзін раніцы, ды гэта ўжо і неістотна.

Пранізліва, як сірэна, зазвінеў будзільнік. Расплюшчыла вочы: сем гадзін раніцы. Уключыла святло начніка. Абвяла вачамі пакой... Шафа блішчэла ўсімі трыма створкамі, як агромністая льдзіна. У кутку стаяў тэлевізар. Пяць гваздзікоў здаля чырванелі ў вазе. Паднялася з канапы, прайшла на кухню. На стале на маленькім падносе стаялі кубачкі і нямытая кававарка — і ў той жа момант яна закрычала... Не, гэта відавочна ёй не прымроілася, не здалося: за сталом на табурэтцы сядзеў хтосьці ці штосьці маленькае і жудаснае. Памешвала тоненькай ручкай каву ў кубачку і пакалыхвала ножкамі, абутымі ў зялёныя боты з шырокімі халяўкамі... Яна яшчэ чула свой крык, а прывід як з'явіўся, гэтак і знік. І ўсё ж гэта было!.. Было! Яна бачыла...

Дзесьці праз месяц ёй закарцела памяняць кватэру. Сяброўка паабяцала пазнаёміць яе з чалавекам, які ўмомант зробіць любы абмен. І вось гэтае знаёмства адбылося. Яны стаялі ля ўвахода ў метро... Яна — з гладка прычасанымі валасамі, што толькі падкрэслівала ейны прыгожы лоб, і ён — высокі, усмешлівы, гаваркі, яшчэ даволі малады мужчына.

— Ніякіх праблем,— запэўніваў ён,— Хочаце ў Зялёным Лузе, хочаце на Паўднёвым Захадзе... Я — спец па абмену, як для вас, за самы малы працэнт!

І голас яго быў такі прыцягальна-мяккі, і позірк свяціўся такой лагоднасцю, адным словам, гэтае вымушанае знаёмства абяцала быць вельмі і вельмі працяглым... Гэта яе хвалявала надзвычай. Сэрца білася, білася, ды так моцна, што, слухаючы гэтага яшчэ амаль незнаёмага мужчыну, яна не звярнула ніякай увагі на даволі моднае скураное кепі, нацягнутае ледзь не на самыя вочы, і зялёныя боты з кароткімі шырокімі халяўкамі.

1990

## АЎТОГРАФ АД СПІЛБЕРГА

Божа, як заснуць? Як заснуць?! Гэты бязлітасна спякотны чэрвень, душны вечар і Вася пад балконам. Сусед Вася. Нашыя кватэры знаходзяцца на адным паверсе. Ну чаго ён крычыць? Што, каму ён даказвае? «Закадзіраваны на ўсё жыццё! Вось тут... у паперцы напісана. А я п'ю. І піць буду! — усё гэта я чую праз расчыненае акно.— Ну, куды ж вы, Сенечка-а? Сенечка, куды ж вы?!» — крычыць Вася. І мне ўсё зразумела.

Вася, які ужо быў на добрым падпітку, гэта чулася ў ягоным голасе, паказваў сваю паперку яшчэ аднаму майму суседу, які жыве на паверх ніжэй,— Сенечку. І дарэмна. Таму што Сенечку, як гаворыцца, да фені Вася і ягоная паперка. Сусед Сенечка думае пра сваё: як гэта захаваць бадзёрасць духу як мага далей, каб не спаць. Зусім не спаць. Таму што Сенечку палохаюць ягоныя сны. А мне баліць сэрца, у мяне кепскі настрой і ў мяне ўсё наадварот, не гэтак, як у суседа Сенечкі. Я хачу заснуць, і мне не спіцца. Бедны Вася! Бедны Вася! Невядома, як і чаму ён стаў героем майго апавядання «Санаторый смерці». І Сенечка таксама мой герой, які так трапна ўкруціўся ў апавяданне «Сненні стомленага Сенечкі». І вось аут цікавы момант. Ужо некалькі тыдняў на маім пісьмовым стале ляжыць ліст ад нейкай невядомай мне чытачкі, дзе яна пытаецца:

«А чаму гэта назвы многіх вашых апавяданняў пачынаюцца з літары «С»? Што гэта такое: творчая задума ці выпадковасць?» Сапраўды, што гэта такое? Я не ведаю, што ёй адказаць. У мяне ёсць апавяданні, якія я ўжо назвала вышэй, а таксама «Сіні сандалет», «Снег сыходзіць», «Сажалка Соні»... Але я добра ведаю, што задумваліся іншыя: «Кватэра бэзавых світанняў», «Вока Сусвету», «Каб не каханка Лагуцкага», «Спадарыня «БМВ»... У думках ужо выпісаны былі сюжэты, але на паперу леглі менавіта гэтыя, з пачатковымі літарамі «С» у назвах. І я не знаходжу тлумачэння, адкуль што з'явілася? Чаму менавіта яны?! Хаця... Я помню, калі гэта здарылася. У які момант пачалі з'яўляцца гэтыя дзіўныя назвы.

Адварочваюся ад сцяны, і адразу позірк упіраецца ў кніжную паліцу. Я не хачу туды глядзець, а гляджу. Там, за шклом, на паштоўцы з ілюстрацыяй «Летняга вечара на Біч» Петэра Севярына Кроера размашысты аўтограф: «Стывен Спілберг!» Але гэта я ведаю, што там распісаўся Стывен Спілберг. А для таго, хто не ведае,— проста дзве літары «С», адно што англійскія, за якімі штосьці невыразнахвалістае. З гэтага аўтографа ўсё і пачалося...

Тады таксама было лета. Цёплае навальнічнае лета ў Чыкага. Я гасцюю ў стрыечнай сястры Джойс і ў свайго дзядзькі Сашы. Каб пабачыцца са мной, з Лос-Анджэлеса разам з мужам Эрыкам прыехала Таня. Яна таксама мая стрыечная сястра. А Эрык — славутасць, кінаакцёр, які здымаецца ў Галівудзе. Млосны вечар. Сядзім у гасцёўні вялікага дома

Джойс: родныя і стрыечныя, а лепш, як гаворыць дзядзька Саша, «усім прозвішчам». Да мяне падыходзіць Таня, трэцца шчакою аб маю шчаку, кажа:

— Ра-а, можа, трошкі пройдземся... Тут так тлумна. Не пагаворыш.

І мы выходзім на прыцемненую Woodland. Роўненькі ланцужок прыватных дамоў Роўненькія газоны перад імі. Няяркія ліхтары. Пад адным з іх Таня спыняецца. Бярэ маю руку ў сваю, у голасе — сум.

— Ра-а, заўтра раненька мы з Эрыкам вяртаемся У Лос-Анджэлес. У Эрыка — здымкі. Ён цяпер здымаецца ў Спілберга. Фільм будзе называцца «Каспер». Спілберг не любіць, калі не з'яўляюцца на здымкі. Нам трэба ляцець! — яе голас робіцца зусім ціхім.— Ра, што мы можам для цябе зрабіць? Я... Я чытала ў газетах, што ў вас там... усё безнадзейна кепска,— Яна перахоплівае мой патухлы позірк і замаўкае. Потым зноў адзываецца: — Добра, Ра. Я не буду пра тое, што ў вас там... І ўсё ж! Усё ж, што мы можам для цябе зрабіць?

Цёплая хваля абдае мой твар. Ну што можа зрабіць жонка галівудскага мільянера, хай сабе і сваячка, для вядомай беларускай пісьменніцы? Выключна нічога. Тут трэба альбо доўга смяяцца, альбо горка плакаць. І раптам мне штосьці цюкнула, нейкае хвілiннае жаданне.

— Таня, калі ты ўжо намерылася... Калі сапраўды хочаш штосьці зрабіць для мяне... Дык, ведаеш!.. А што? Папрасі і прышлі аўтограф Спілберга. Чаму б і не? Цікава... Сусветна вядомы кінарэжысёр!

— Ра-а,— Таня сціскае маю руку.— Я хацела як лепш. Ну, а аўтограф... Вядома... Я папрашу ў Стыва. Ніякіх праблем. О'кей! Ты атрымаеш ягоны аўтограф.

І я атрымала яго праз некалькі тыдняў ужо ў Мінску.

Гэты ўспамін расслабіў. Хочацца як мага глыбей схавацца пад коўдру, каб нічога не бачыць і не чуць. Ні гэтых дзвюх літар за шклом, ні гэтага надрыўнага плачу. Так, я чую, як там, за акном, плача Вася. Бедны Вася! П'яныя слёзы таксама могуць быць горкімі. На тое ў Васі ёсць усе прычыны. У Васі былі бацькі. У Васі была бабуля. Былі ў яго жонка і маленькі сын. А потым бабуля захварэла на сухоты і на некалькі месяцаў трапіла ў адпаведны дыспансер. І ў тым дыспансеры пазнаёмілася з такім жа сямідзесяцігадовым, як і сама,

хворым на сухоты. І выйшла за гэтага хворага замуж. У жыцці можа быць і такое. Але той хворы большую палову свайго жыцця прабыў у розных калоніях ды камерах папярэдняга зняволення. Толькі ж Васеву бабулю гэта не спалохала. Ён хацелася шчасця. Звычайнага жаночага шчасця. І яна вярнулася з дыспансэра разам з гэтым дзедам у сваю законную двухпакаёвую кватэру. Як яны жылі, што там адбывалася ў вялікай сям'і суседзяў, ніхто не ведае. Яны раптоўна замкнуліся ў сабе. Але неўзабаве не стала Васевых бацькоў а потым памерла і сама бабуля. Ну, а маладзенькая Васева жонка з маленькім сынам некуды з'ехала. І Вася застаўся адзін, дакладней, адзін на адзін з гэтым... Не ведаю, як і сказаць, бо яго ніхто ніколі не бачыў не размаўляў з ім, адно чулі ад Васевай бабулі, якая часам любіла сядзець на лавачцы ля пад'езда: «Пайду, мой ужо, напэўна, злуецца. Трэба гатаваць абед. Мой прывык, каб роўна ў дзве гадзіны на стале стаяў суп. А я яму яшчэ і скварачку строю». Цяпер, мабыць, гэтую скварачку строіць Вася. Мне яго шкада. Бедны Вася! Але як даймаюць гэтыя ягоныя п'яныя ўсхліпы! Дзякуй Богу ёсць коўдра. Я яшчэ паспяваю падумаць, што трэба было б усё-ткі штосьці напісаць маёй чытачцы, і, далібог жа, засынаю...

— Дазвольце-дазвольце!.. Вы ўжо другі раз з'яўляецеся сюды! Я ж вам сказаў вы не той тып жанчыны, які мне патрэбен!

— Містэр Спілберг, але я не наконт здымкаў! Я не хачу здымацца ў кіно. Я атрымала ваш аўтограф... Вы не памятаеце? З таго моманту гэта і пачалося, усё перавярнулася ў маёй творчасці... Я пішу не тое, што мне хочацца.

— Нічым не магу дапамагчы! — разводзіць рукамі Спілберг і на імгненне задумваецца.— Аўтограф? Я шмат каму даю аўтографы.

— Гэты ў вас прасіла Таня... Таня Айдл! Для мяне.

— Магчыма.— Спілберг падумаў і дадаў — Я ўжо спазніўся. У мяне дамоўленасць з Хары...

— Хочаце сказаць з Харысанам Фордам, ага-а?! Ну і няхай пачакае Форд. Я глядзела «Храм лесу» і ўсё астатняе... Але вашыя ініцыялы... Вашыя два «С», яны ўплываюць на назвы маіх апавяданняў Што гэта можа быць? Энергія вашага таленту ці штось іншае? Вы нейкім чынам уздзейнічаеце на мяне, скоўваеце маю ўласную творчую фантазію.

— Глупства! — кідае Спілберг, і раптам у ягоным позірку з'яўляецца цікавасць.— Чаму вас не арыштавалі?! Няўжо вас не спыніў ніводзін паліцэйскі? Вы разгульваеце па Лос-Анджэлесе ў гэтым ту-

рэцкім вырабе амаль голая... Ці вы на аўтамабілі? Тады дзе прыпаркаваліся? Я не чуў каб сюды пад'язджаў аўтамабіль!

На мне сапраўды начная кашуля турэцкай вытворчасці, купленая на мінскім стадыёне «Дынама», але як гэта я разгульваю?! І які можа быць аўтамабіль?!

— Містэр Спілберг... Вы чагосьці не разумееце. Я не разгульваю па Лос-Анджэлесе. Я сплю ў Мінску, у сваёй кватэры на праспекце імя газеты «Известия». Ага-а, газеты... Вам не смешна, што хтосьці мой спальны праспект назваў газетай?

— Я зрэдку чытаю «Moscow News»,— хутка адказвае Спілберг,— Ваша газета мяне не цікавіць. Ды прыкрыйцеся вы, нарэшце! У крэсле плед... Я не магу глядзець на вашыя голыя ногі. Яны ў жахлівых дрыжыках.

— Не глядзіце! Ногі як ногі. Мне проста трэба разабрацца, чаму ў назвах маіх апавяданняў вашыя «С»? Дарэчы, вы нават не запыталіся, што ў мяне ў руках? А гэта штотыднёвікі... Ага-а... «Літаратура і мастацтва», містэр Спілберг! Газета нашай творчай інтэлігенцыі. Якраз у ёй усе гэтыя апавяданні і надрукаваныя. Можаце паглядзець! «Санаторый смерці», «Сненні стомленага Сенечкі», «Сіні сандалет»...— і я шпурляю штотыднёвікі на ягоны пісьмовы стол. Але Спілберг не звярнуў на іх ніякай увагі. Ён глядзіць на мае голыя ногі.

— Дзе ваш абутак?! Паслухайце... А можа, вас абрабавалі? Дык гэта вашыя! Угу-у, яны самыя! Цяпер у Амерыцы разбоі ўчыняе руская мафія.

— Містэр Спілберг, я — беларуска... Я не маю ніякага дачынення да рускай мафіі!

— Добра! Вы — беларуска і вы жывяце ў Айдлаў? Вы іхняя сваячка, та-ак?! Эрык і Таня ў Каліфорніі. У Эрыка там здымкі, і вы тут сабе дазваляеце...

— Божачкі, містэр Спілберг! Дзе «тут»?! Якое можа быць «тут»! Ну калі да вас нарэшце дойдзе! Я не жыву ў Айдлаў мяне ўвогуле няма ў Лос-Анджэлесе! Я сплю! Сплю ў сябе ў Мінску...

— А вы часам не наркаманка? Які Мінск? Які сон?! Даруйце, мне гэта ўсё пачынае надакучаць! Мяне ўжо паўгадзіны чакае Хары,— І Спілберг пачынае кудысьці тэлефанаваць, набірае нумар за нумарам, і ўсё не тое. Ён нервуецца і злуецца, але нарэшце некуды датэлефанаваўся... Ну вядома, да Айдлаў як гэта я не здагадалася адразу! А Спілберг ужо працягвае мне трубку, маўляў размаўляйце!

— Але-е,— няўпэўнена прамаўляю я і адразу пазнаю голас стрыечнай сястры.

— Ра-а,—Таня хвалюецца і абвальвае на мяне цэлы вадаспад пытанняў— У цябе нейкае падарожжа? Чаму ты не папярэдзіла?! Ты даўно ў Лос-Анджэлесе?! Стыў кажа, што ў цябе, напэўна, узніклі праблемы! Толькі не адчайвайся, Ра-а, прашу цябе! Стыў завязе цябе да нас, ты не супраць? Я зараз скажу яму. Ён возьме ключы ў нашых агульных знаёмых. У доме ты знойдзеш усё, што табе трэба: абутак, адзенне... Прымераеш, штосьці табе абавязкова падыдзе. Пашукай у шафах. Ага-а, грошы! Ра-а, у цябе ёсць грошы? Я папрашу Стыва... Ён дасць табе колькі трэба. Мы пасля яму вернем. Не саромся. Ра-а, абавязкова патэлефануй у Чыкага... Ра-а... Ра-а! Я не чую цябе!

— Таня, перадыхні! Ты мяне проста ашаламіла. Якое падарожжа? Якія грошы?! Мяне няма ў Лос-Анджэлесе. Я сплю ў сваей кватэры ў Мінску. І хутка прачнуся. Вось-вось... Зараз... Я ўжо прачынаюся. Напэўна, днее... Мне чуецца знаёмае пазвоньванне. Гэта — Вася, Таня. Мой сусед Вася. Ён збірае парожнюю тару пад вокнамі...

— Ра-а, які Вася? Якая та-ара?! Перадай трубку Стыву...

І я не паспяваю перадаць трубку Спілбергу. Я расплюшчваю вочы. Сапраўды, ужо днее. Ах, Вася, Вася, як не ў час ён з'явіўся пад маім балконам! Калі б не звон ягоных бутэлек, я, напэўна, праехалася б са Спілбергам па Лос-Анджэлесе, пабыла б у Таніным доме і бог ведае дзе яшчэ! Але што не дадзена, тое не дадзена, і калі ўжо я прачнулася, трэба ўставаць. Зараз жа выйду на балкон і як след паўшчуваю Васю. Але нехта мяне апярэджвае.

— Вася! — чуецца за акном жаночы голас,— Ва-ася!

— А-а, спадарыня Сенечкава! Вы таксама выйшлі?! У вас таксама безграшоўе? Спазніліся, шаноўная... Доўга спіцё! Я ўжо тут усё пазбіраў!

— Цяпер ва ўсіх безграшоўе, Вася. Але я не збіраю бутэлек, я шукаю свайго Сенечку. Уяўляеш, Вася, ён не начаваў сёння дома. Сеню даймаюць сны. Жахлівыя сны, Вася! Ты памятаеш, у нас быў цюцька... Такі рудзенькі, калмаценькі... Мы і звалі яго Рудзік. А Сенечка вяртаецца з працы стомлены-стомлены і галодны, Вася. Заўжды галодны. І я пакідаю яму ў халадзільніку сасіску. І вось тую сасіску, Вася, дзеці скармілі Рудзіку. Сеня, вядома, раззлаваўся, Сеня быў вельмі стомлены... І ён вывез Рудзіка за горад... Выпусціў з машыны і паехаў... А Рудзік бег за нашым «Масквічом», бег, бег... А потым раптам з-за павароткі выкаціў вялізны «МАЗ», Вася. Сенечка ўсё гэта бачыў у бакавое люстэрка... І адвярнуўся. А калі зноў паглядзеў, Рудзіка ўжо не было, Вася. Была рудзенькая плямка на асфальце. Ваася, цяпер усё гэта Сенечка штоночы бачыць у сваіх снах... Але гэта, Вася, ужо не Рудзік бяжыць за нашым «Масквічом», гэта бяжыць сам

Сенечка ў выглядзе Рудзіка... І ён бачыць той «МАЗ» і ведае, што вось зараз, зараз і здарыцца тое... І застанецца толькі рудзенькая плямка... І Сенечка падхопліваецца, і ён увесь дрыжыць, Вася, і абліваецца потам. Я схіляюся да яго, я пытаюся: «Сенечка, Сеня, што здарылася?!» І ён мне адказвае: «Га-аў! Га-аў!» Гэта так страшна, Вася-я, так страшна, калі ты пытаешся, што здарылася, і табе адказваюць: «Га-аў!»

— Во-о даюць! — ускрыквае Вася.— Бля-я... Толькі зірніце! Вунь з таго акна, з сёмага паверха, пятая пляшка ўжо вылятае! Ну і народ! От-т д-дае ! От-т жлукціць! Відно, добра сядзяць хлопцы!

— Ва-ася, ты мяне паслухай, Вася! Я ведаю... ты ж закадзіраваны. Усе ведаюць... У цябе ёсць паперка. Ты і мне паказваў: на ўсё жыццё! Дык скажы мне, Вася, ці можна закадзіравацца ад сноў?

Мне гэта чуць нецікава. Мне толькі вельмі шкада Рудзіка, і я ўстаю з ложка. Мімаходзь азіраю сябе ў люстэрку. І як гэта Спілберг вызначыў што на мне акурат турэцкі выраб? Самая што ні ёсць звычайная кашуля! «Чаму вас не арыштавалі? Няўжо вас не спыніў ніводзін паліцэйскі?!» — чамусьці ўспомніліся ягоныя словы. Вось яна, расхваленая амерыканская дэмакратыя! Але чаго толькі не прысніцца! Вунь сусед Сенечка пасля сваіх сноў гаворыць: «Га-аў!» Зараз пайду, зраблю ранішнюю каву, а пасля пачну будзіць сваіх сямейнікаў. І калі нарэшце ўсе разыдуцца, можна будзе сесці за пісьмовы стол. Хоць ахвоты ніякай, амаль высільваю з сябе чарговае апавяданне «Сямейны спектакль Сякеркаў». Вядома, што ні сям'я, то свой спектакль, але бы хтосьці падкінуў мне сюжэт і зноў жа гэтыя «С» у назве... Ну, Спілберг, Спілберг!..

Але тою раніцай сесці за пісьмовы стол мне не давялося. Было шмат неабавязковых тэлефонных званкоў. Гэта выводзіла з сябе і раздражняла. Заставалася адно: адключыць тэлефон, што ўжо рабіла неаднойчы. Але тады пачнуць з'яўляцца думкі: а раптам штосьці пільнае, выключна неадкладнае, ды і свае ж хатнія... У любы момант можа патэлефанаваць муж: «Ты не забылася, што ў мяне канчаюцца цыгарэты?» Альбо: «А ці ёсць у нас там гарбата?» І трэба бегчы па цыгарэты і па гарбату... І які ўжо пісьмовы стол! Хочаш мець сямейны камфорт, дык сама яго і арганізоўвай. Вось і зноў хтосьці звоніць...

— Але-е-е...

— Ра-а?! Ты-ы?! Ра-а, гэта сапраўды ты?! Што ж адбываецца, Ра?— Таня ажно захліпаецца ад узбуджанасці,— Стыў здымаў рознае, але ў жыцці, Ра, яму давялося пабачыць штосьці такое ўпершыню! Ра-а, Стыў не ведае, што і думаць! І мы з Эрыкам таксама! Стыў кажа, ты знікла... Стаяла перад ім і знікла, бы растала... Я адразуператэлефанавала Стыву, і ён гэта ўсё расказаў... Ён аглушаны! Ён у вялікім

здзіўленні! Уражаны надзвычай! Ра-а, дык што ж гэта? Як ты магла за такі кароткі тэрмін апынуцца дома?! Ты ж была ў Стыва ў Лос-Анджэлесе... Мы размаўлялі...

— Ага-а, была... Але, даруй, адкуль ты ведаеш пра гэты мой сон? — пытаюся я і сама міжволі пачынаю хваляваццца, спрабуючы ўнікнуць у ейныя словы, у тое, што яна мне тут наказала.

— Ра-а, які сон? Не заблытвай усё да канца. Ты была у Стыва, і за гэтым штосьці хаваецца... Уявіць немагчыма, але гэта ўсё праўда, Ра-а! Я ледзь стаю на нагах, мяне ўсю калоціць. Эрык дае мне нейкія кроплі.

— Таня, супакойся... Мы з табой маглі бачыць аднолькавы сон. Мы ж сваякі... У сваякоў гэткае бывае.

— Глупства! Я, дзякуй Богу, яшчэ пры сваім розуме... Я не звар'яцела, Ра-а. Стыў сказаў, што ты нават пакінула ў яго нейкія свае газеты. Што там надрукаваны твае апавяданні, і ён не ведае, што з імі рабіць цяпер?!

І тут я не вытрывала, нервовае напружанне лопнула. Я проста ўзарвалася:

— Як гэта Стыў Спілберг, вялікі кінарэжысёр дваццатага стагоддзя, не ведае, што рабіць з апавяданнямі, якія нейкім чынам трапілі да яго?! Няхай не будзе атлусцелым снобам! Няўжо ў яго няма элементарнай цікавасці: а што ж там, у той маленькай еўрапейскай краіне, адбываецца? А якая там культура, мастацтва, літаратура, нарэшце?! Хай возьме і прачытае...

— Як ён гэта можа зрабіць, Ра-а?

— Звычайна! У Амерыцы поўна нашых. Дык няхай расшукае англамоўнага беларуса. І ніякіх праблем з гэтымі апавяданнямі!

І я замаўкаю: «А пра якія гэта апавяданні я ёй тут распавядаю?! Тыя штотыднёвікі, у якіх яны надрукаваны, ляжаць на паліцы над маім пісьмовым сталом». І я гляджу на паліцу і не бачу ніякіх штотыднёвікаў. Там, дзе яны яшчэ ўчора ляжалі, стаіць статуэтка нейкага кітайскага асветніка. Дык сапраўды, што ж гэта такое адбываецца? Мне стала цяжка дыхаць.

— Ра... Ра-а... Не маўчы!

— Ну што не маўчы?! Што?! На паліцы няма штотыднёвікаў, і гэта ўжо сапраўдны абсурд. Фантасмагорыя! А ўсё... Усё ўпіраецца ў гэты злашчасны аўтограф! Ва ўсім вінаваты сам Спілберг. З ягонага аўтографа ўсё і пачалося... Гэты аўтограф атручвае маё жыццё!

— Ра-а, дык чаго ты?! Супакойся... Калі ў цябе такія вялікія праблемы з аўтографам Стыва... Парві! Вазьмі і парві яго. Гэта ж так проста! Стыў не пакрыўдзіцца. Ён і ведаць пра-гэта не будзе.

І я ўжо не слухаю Таню. Мне карціць як мага хутчэй падысці да кніжнай шафы, выцягнуць з-за шкла тую прыгожанькую паштоўку і, няхай мне даруе мастак Петэр Севярын Кроер, разарваць ягоны «Летні вечар на Біч» на драбнюсенькія шматкі... Што я, вядома, і зрабіла, як толькі развіталася са стрыечнай.

І вось стаю на балконе. З задавальненнем гляджу, як лёгкія папяровыя кавалачкі плывуць у паветры, падаюць на траву. І мне чамусьці вельмі радасна. назіраць за гэтым іхнім летам.

— Гэ-эй, суседка!

Пераводжу позірк... Ах, Вася! Зноў сусед Вася. У яго таксама добры настрой, ён ужо, напэўна, здаў у прыёмны пункт сваю парожнюю тару і цяпер паспеў добра затаварыцца. З кішэняў ягоных штаноў выглядваюць блішчастыя коркі «Двух буслоў».

— Суседка,— працягвае ён,— а чаго гэта вы смеціце пад балконам? Вунь колькі смецця нараскідалі!

— Гэта не смецце,— весела адказваю я.— Гэта, Вася, аўтограф славутага Стывена Спілберга.

І міжволі хапаюся за парэнчу. У галаве бы ўдарыла болем: «Спілберг смяецца» заварушылася там... Бог мой, зноў два «С», няўжо зноў нейкая назва?! Але далей за гэта не пайшло. Ніякага сюжэта ў мяне не з'явілася. І, далібог жа, хутка ўся гэтая гісторыя з аўтографам Стывена Спілберга, як ні дзіўна, забылася.

Але калі надышоў кастрычнік, поўны дажджу і шалёнага ветру, калі неяк зусім нечакана ўдарыў першы зазімак і ў адначассе каштаны ля ганка нашага дома скінулі сваё шырокае, пышнае лісце, з Чыкага патэлефанаваў дзядзька Саша.

— Ну, што там з усімі вамі здарылася? Дзе вы прапалі? Куды падзяваліся? Ніяк не магу датэлефанавацца...

— А што такое, дзядзьку?

— Нічога асаблівага... Проста тут усіх нас замучвае Спілберг. Хоць ты куды хавайся! Дастае немагчыма... Уяві, ён хоча мець у сябе твой аўтограф!..

1999

## АНЁЛ-АХОЎНІК

Яны сустрэліся, як і дамаўляліся, познім вечарам і цяпер стаялі недалёка ад лавачкі, раз-пораз пазіраючы на расчыненае акно на другім паверсе.

— А калі яна будзе якраз у гэтым пакоі? — папытаўся пятнаццацігадовы Юрка ў свайго сябрука-аднагодка Вадзіма,— Яна ж не будзе маўчаць, адразу падніме крык.

— Вядома, таму я і ўзяў братаў газавы пісталет. На-а, бяры, ён спатрэбіцца ў любым выпадку. Яе ўсё роўна давядзецца адключаць. Потым адразу адчыніш уваходныя дзверы, я ўжо буду стаяць на лесвічнай пляцоўцы. Толькі добра ўчапіся за падаконнік.

Юрка ўзяў пісталет, засунуў яго ў кішэню лёгенькай курткі-вятроўкі, паглядзеў на акно, пасля на прыстрэшак ганка.

— Я ўчора ноччу залазіў — сказаў ён.— Акно так блізка, што асабліва і падцягвацца не трэба. З ходу ўскочу.

— Спачатку ўскоч! – абарваў яго Вадзім,— Ну, ідзі... Я пабуду тут, пакуль будзеш узбірацца на прыстрэшак.

І Юрка пайшоў да ганка.

Ліда ляжала на канапе. Праз расчыненае акно плыў прыемны халадок, і гэта было адзінае, што ўлагоджвала яе думкі гэтым вечарам. Спрабавала чытаць Шэлдана, і не чыталася. Больш за тое, ужо сама назва рамана выклікала іранічную ўсмешку: «Калі настане заўтра». Яна пакуль не ведала, што там будзе адбывацца ў гэтай кнізе, а вось тое, што яна сама заўтра назаўсёды адмовіцца ад Андрэя, ёй было ўжо добра вядома. Яна ўсё выкажа яму, а можа, і не будзе выказваць: проста кіне трубку, як гэта ўжо рабіла неаднойчы. Тое, што яшчэ зусім нядаўна здавалася сонечным ударам, спякотным, галавакружным падарункам жыцця, абярнулася звычайнай любоўнай інтрыжкай. Ну і хопіць, з яе досыць! Магчыма, што і Андрэй гэтаксама думае. Таму што ўжо не першы раз яны дамаўляліся сустрэцца, і ўсё зрывалася. Вось і сёння Андрэй пазваніў у апошні момант: «Лета нашых надзей — наперадзе! Не прыеду. Зваліліся нечаканыя госці, і як пакінуць сваіх хатніх?» А яна ж пакінула — мужа, сына там, у доме адпачынку на Нарачы. Напрыдумляла ўсяго, маўляў, пазваніла суседка, якой яна пакінула ключы ад кватэры, каб палівала вазоны, пакуль яны будуць адпачываць. І вось іх залілі суседзі зверху — прарвала водаправодную трубу. Трэба ехаць, паглядзець, што там нарабілася!

Суседка сапраўды тэлефанавала Лідзе, але зусім з іншай нагоды. Прыязджаў стрыечны брат Васіль, прывёз рэчы, якія ёй дасталіся ад бабулі Мані. У вітальні дасюль стаіць гэты мех, а магла б і распака-

ваць яго, дык не — чакала Андрэя! І яе агарнула ранейшая, пякучая, такая нядаўняя горыч, якая яшчэ не паспела астыць, прыпарушыцца часам.

Бабулю яны пахавалі тры тыдні таму назад, і гэтая ейная смерць была дзіўная і загадкавая. Бабуля памірала двойчы. Лідзе ўспомнілася, як тады, першы раз, ёй патэлефанавала братавая, маўляў усё, няма ў нас бабулі Мані,— збірайцеся, прыязджайце! І яны хутка сабраліся. Павінны былі ехаць начным цягніком. А потым вечарам — зноў званок, неверагодна, але ж гэта было таю бабуля аджыла. Яе ўжо абмылі, але труна яшчэ была не гатова, таму паклалі на лаву на покуці. І нехта пачаў папраўляць складзеныя на грудзях бабуліны рукі і ледзь не страціў прытомнасць — рукі былі цёплыя: «Дык яна ж жывая!» І гэта было праўдаю. Праз колькі часу бабуля сама паднялася з той лавы і яшчэ пражыла цэлы тыдзень, але ўвесь час была бы не ў сабе. Да дактароў у райцэнтр адмовілася ехаць. Праўда, мясцовы фельчар сам прыходзіў і хаця бабуля гаварыць з ім не схацела, патлумачыў што, напэўна, гэта ў яе быў такі глыбокі сон. Адным словам, кароткае летаргічнае забыццё. Сама ж бабуля ад усялякіх размоў адмахвалася, толькі сабрала для яе, Ліды, тое-сёе ў гэты мех, што прывёз стрыечны, ды яшчэ напісала ёй ліст. І прасіла, каб мусова перадалі яго ёй. Але сваякі кудысьці яго паклалі і потым, як ні шукалі, ніяк не маглі знайсці, ашаломленыя тым, што адбывалася: памерла, аджыла, а роўна праз тыдзень папрасіла, каб нагрэлі вады: маўляў, сёння я ўжо сапраўды памру, як толькі абедня ў царкве адслужыцца, таму хачу сама абмыцца і апрануцца ва ўсё новае. Лідзе расказвалі, што бабуля доўга хадзіла па садзе, па двары, усюды заглядваючы, нібыта з усім развітвалася ці, можа, хацела як след усё запомніць на нейкае сваё другое жыццё, а пасля легла на ложак і... сапраўды памерла, як і казала.

Ліда міжволі скаланулася, нават прыўзнялася, гэтак моцна бразнула аконная рама, і адразу падумалася пра скразняк: «Пэўна, там, за акном, падняўся вецер, вось і ляпнуў рамаю. Яна й уставаць не будзе, зачыняць тое акно. А можа, усё-ткі пачытаць?! — і зноў адклала Шэлдана. Каб не гэтая ўжо амаль сонная разамлеласць, яна яшчэ сёння падаставала б рэчы, якія прывёз у тым мяху стрыечны. А што там было, Ліда добра ведала, проста не змаглі ўзяць мех з сабою, калі ездзілі на пахаванне бабулі. Стрыечны адгаварыў, маўляў калі-небудзь буду ў Мінску на машыне, дык і прывязу. Што вы цяпер будзеце цягацца з гэтым мехам! І Ліда міжволі заўсміхалася: «Родненькая ты мая бабулечка, і як гэта ты захавала ўсё тое, на што я ўжо даўно забылася?!»

Заўтра раніцай яна абавязкова выцягне з гэтага меха маленечкае крэселка, якое даўно-даўно для яе, Ліды, змайстраваў дзядуля Хведар, каб яна, маленькая, магла прысесці і даць адпачынак ножкам, якія толькі-толькі пачалі хадзіць. На спінцы гэтага крэселка дзядуля высмаліў вензель, дзве літары «Л. Н.» (Лідачка Нупрэйчык), і ўпрыгожыў гэтыя літары мудрагелістым узорам. Было ў мяху і люстэрка ў рамцы, якую таксама зрабіў дзядуля і аздобіў яе ўсё тым жа вензелем. А яшчэ там была засаўка з глыбокімі зарубінамі і доўгі ключ з металічнаю кропелькай, што матлялася на ягоным канцы. Калісьці гэтая засаўка была прыбіта да дзвярэй у бабулінай хаце, і як жа яна, маленькая Лідачка, пакутавала, адчыняючы іх, таму што тая кропелька павінна была абавязкова патрапіць у зарубіну, толькі тады засаўка адсоўвалася, і гэта не заўсёды атрымлівалася ў Ліды. І бабуля смялялася з яе няўмельства і прыгаворвала: «Як вырасцеш, я абавязкова аддам табе гэтую засаўку...» І вось аддала — і засаўка, і ключ ляжаць у мяху ў вітальні, а бабулі няма ўжо. Пахавалі, паплакалі, і такі закон жыцця, закон прыроды. Ужо самім сваім нараджэннем чалавек асуджае сябе на смерць. І яна яшчэ падумала пра тое, што калі закончыцца адпачынак і яны вернуцца з Нарачы, дык папросіць мужа, каб прымацаваў тое люстэрка дзе-небудзь тут, на сцяне ў гэтым пакоі, а засаўку і ключ яны дзесьці прыладкуюць на кухні, і заснула ўжо, напэўна, глыбокай ноччу.

А раніцай яе пабудзіў званок. Хтосьці настойліва званіў у дзверы, і гэта быў не Андрэй, пра якога было адразу падумалася. У яго не было звычкі прыязджаць да яе, калі яны папярэдне не дамаўляліся. Дык, можа, хто з суседзяў?! Адчыніла дзверы і не магла паверыць вачам: перад ею стаяў чалавек у міліцэйскай форме. «Напэўна, памыліўся пад'ездам ці дзвярамі»,— прамільгнула думка, а ўслых запыталася:

— Вам каго? Што здарылася?

— А гэта я павінен у вас запытацца, што тут адбылося?

І міліцыянер зайшоў у кватэру, і ўсё, пра што ён казаў пасля, Лідзе здалося неверагодным сном, сапраўдным абсурдам.

Яны ўжо стаялі ля таго самага акна, якое зачыніў скразняк учарашнім вечарам, і міліцыянер даводзіў ёй:

— Ну, а шпінгалет?! Вы ж самі бачыце, акно на шпінгалет зачынена. Дык што ж такое атрымліваецца? — пытаўся ён у яе,— Як гэта вы нават не падыходзілі да акна? Хто ж мог зачыніць яго?

І Ліда не ведала, што яму адказваць. Нават болей, яна ўсё яшчэ ніяк не магла паверыць у тое, пра што расказваў ёй гэты маладзенькі лейтэнанцік, ну, а шпінгалет...

— Ён сам саскочыў,— сказала Ліда,— Рама зачынілася з такім гучным трэскам, раптоўна... Я нават прыўзнялася з канапы, але, далібог жа, нічога не бачыла.

— Няпраўда! Быць такога не можа! — не верыў ёй міліцыянер. Ён разглядваў шпінгалет, зачыняў і расчыняў акно, выглядваў у двор.— Ну няхай сабе вы ляжалі на канапе... А потым убачылі рукі, хтосьці ўчапіўся за падаконнік. І вы ўсё зразумелі і, дзякуй Богу, не разгубіліся ў той момант. Ускочылі, падбеглі да акна і з размаху зачынілі раму! Смаркач і сарваўся... Ад болю разняў рукі... Ён сам усё расказаў доктару, нам і патэлефанавалі... Я ўжо быў у яго ў бальніцы, ён мне і адрас ваш назваў.

— Я не ведаю, што ён там расказваў— адчайвалася Ліда,— але я сапраўды нічога не бачыла. Мяне хацелі абакрасці, да мяне ў акно лез нейкі падлетак, у кішэні ягонай курткі быў газавы пісталет, а я нават шоргату ніякага не чула? Не! Не-е! Акно зачынілася, і ўсё! Я падумала пра скразняк.

І міліцыянер чамусьці зазлаваў.

— Я не разумею, чаго вы баіцеся? — не хаваў ён сваёй раздражнёнасці.— Ага-а, зачынілі акно! Ага-а, у хлопца пераломы! Дык вы ж бараніліся! Адно, вам трэба было ў той жа момант пазваніць у міліцыю. Тады яшчэ ноччу злавілі б і таго, другога, які, як толькі гэты сарваўся, адразу ўцёк. Дзе тут у вас можна сесці? — запытаўся ён.— Вам трэба напісаць заяву.

— Якую яшчэ заяву? — здзівілася Ліда,— Што я магу вам напісаць, калі я нічога не бачыла!

І міліцыянер махнуу рукой:

— Як хочаце! Я ўсяго толькі ўчастковы інспектар. Няхай з усім гэтым разбіраецца следства. А як вы думалі? — сказаў ён праз паўзу,— Вас абавязкова выклічуць як пацярпелую.

І ўжо потым, калі міліцыянер пайшоў, Ліда думала: «А якая ж я пацярпелая? Калі гэта сапраўды так было, дык пацярпелы той падлетак. Гэта ж ён ляжыць у бальніцы і ў яго нейкія там пераломы». І думкі перакідваліся на іншае: «Ну, а што было б, каб не той раптоўны скразняк?! Проста звар'яцець можна! Падлетак улез бы ў акно... Я, вядома, крычала б, клікала б на дапамогу, усяляк баранілася б! Але калі ў яго быў газавы пісталет, ён, напэўна, страляў бы... І што пасля?! Яна ляжала б тут непрытомная. А калі прыйшла б да памяці, яе маглі б нават забіць. І з-за чаго? Што ў іх тут ёсць красці? Божачкі, у што ператварыўся гэты шалёны свет?!» І Ліда адчула сябе страшэнна няшчаснай: «Навошта толькі і ехала ў Мінск? Атрымліваецца, што ва ўсім вінаваты Андрэй. Калі б не гэтае спатканне, якое так і не адбылося,

калі б яны не дамаўляліся, нічога б гэтага і не здарылася. І самае лепшае цяпер — як мага хутчэй вярнуцца на Нарач і там пра ўсё расказаць мужу...» Гэтыя ейныя думкі перапыніў тэлефонны званок. Ліда адразу вызначыла, што гэта «міжгорад», можа, якраз муж з сынам і звоняць ёй, але, калі падняла трубку, па знала голас стрыечнага брата.

— Ну, што вы там, вярнуліся ўжо? — запытаўся Васіль,— Як адпачылі?

— Пеця з Міколкам яшчэ на Нарачы,— адказала Ліда.— А тут узніклі праблемы... Нас залілі,— дадала няўпэўнена,— Я таксама яшчэ вярнуся туды. Пуцёўкі ў нас да семнаццатага...

— Вунь як!.. А я быў у Мінску,— сказаў стрыечны.— Ты ж ведаеш. Добра, што якраз натрапіў на тваю суседку, вось і пакінуў мяшок.— Васіль памаўчаў — Ну, дык што яна табе там напісала? Мне, прызнацца, надта ж хацелася разарваць канверт, але падумалі, што яшчэ нябожчыца крыўдаваць будзе. Начамі сніцца пачне.

— Які канверт? — не адразу зразумела Ліда.

— А хіба ты не знайшла ліст, які напісала табе баба Маня? Мы яго адшукалі, і я паклаў яго ў мех, заткнуў за рамку люстэрка.

І Ліда адразу забылася на ўсё, што адбывалася гэтай раніцай: і на прыход міліцыянера, і на падлетка, які хацеў яе абакрасці, і на злашчаснае акно... «Сапраўды, што магла напісаць бабуля Маня ёй, Лідзе, у сваім апошнім лісце?!» Пра гэта думала Ліда неаднойчы адразу пасля пахавання. І вось той ліст знайшоўся і ляжыць цяпер у мяшку ў вітальні, а яна ж учора й думала, што, як толькі прачнецца, адразу разбярэ тыя рэчы. І Ліда начала паспешліва развітвацца са стрыечным братам.

— Добра, Васіль... Яшчэ сазвонімся. Я і не распаковывала той мяшок. Не паспела... Пайду пагляджу, дзе там гэты ліст...

І адразу, як толькі паклала трубку кінулася да мяшка. Хутка развязала шпагат, расхінула мех... Спінка крэселка з вензелем, нейкі пакунак (відаць, штосьці паклалі ёй сваякі ад сябе), а гэта, напэўна, і люстэрка, загорнутае ў хустку. Выцягнула яго, адкінула хустку, і сэрца зашчымела. На канверце, заткнутым за рамку, было выведзена далёка не пісарскім бабуліным почыркам: «Унучцы Лідачцы». Разарвала канверт... Бабуля пісала алоўкам, словы ледзь разбіраліся, але Ліда чытала:

«Дарагая мая ўнучачка, Лідачка! Напачатку, у першых сваіх слоўках хачу напісаць, што ты ў нас з Хведзечкам была першанькая, таму і самая любенькая ўнучачка. А пішу я табе з выпадку, пра які ты ўжо ведаеш, даражэнькая Лідачка. Табе ўсё расказалі. І ты павер мне,

унучачка, прымі усё да душы сваёй. Я ўжо, залатая мая Лідачка, пабыла Там... І Архангелы прасветлыя мяне сустракалі, і Хведзечку свайго, а твайго дзеда я бачыла, але і Там, Лідачка, бываюць памылкі. Мне яшчэ трэба было тыдзень пабыць тут, на зямельцы гэтай, і мяне Архангелы прасветлыя вярнулі назад. Але паспела я тое-сёе Там уведаць. Таму і пішу табе, Лідачка. Жыві спакойна, мая родная ўнучачка, радуйся жыццю свайму і нічога не бойся: ні чалавека паганага, ні звера, ні ліхога выпадксу — ліст затрапятаў у руках, на вочы нагарнуліся пякучыя слёзы, Ліда чытала далей,— У цябе ад Бога ёсць заступнічак, ёсць твой абаронца, заўсёды верны табе, твой Анёл-Ахоўнік. Ён будзе весці цябе да самага канца твайго і будзе прасціраць над табою сваю прасветлую даланю. Радуйся гэтай ласцы Божай, Лідачка, маліся Богу і свайму Анёлу-Ахоўніку, райся з ім, спадзявайся на яго, прасі ў яго рады і вер яму, ён — твой шчаслівы лёс, Лідачка.

А вось Генік наш, твой малодшанькі брат, унучачка, яшчэ пакуль не заслужыў жыццём сваім заступніка вернага. Малалетні ён, Лідачка, неразумны яшчэ. І вось пішу я табе, каб ты змагла неяк пад'ехаць да сваёй маці — маёй Надзечкі, мне самой не хочацца яе трывожыць, ты лепш ёй усё раскажаш. Дык скажы ёй, Лідачка, хай яна не адпускае Геніка на возера адзінаццатага ліпеня, таму што можа здарыцца бяда. Запомні гэты дзень, унучачка дарагая,— адзінаццатага ліпеня. Таго, хто беражэцца, і Бог беражэ. А па мне не плачце надта, як я ўзрадуюся Там Богу, гэтак вы тут узрадуйцеся жыццю свайму...»

Далей ішлі словы развітання, і Ліда вярнулася да пачатку ліста. Перачытала яго яшчэ раз: «...У цябе ад Бога ёсць заступнічак, ёсць твой абаронца, заўсёды верны табе твой Анёл-Ахоўнік». І адразу пасля гэтых слоў ёй успомніліся іншыя словы, якія яна пачула з гадзіну таму назад ад таго маладзенькага лейтэнанта міліцыі: «Вы ж самі бачыце, акно на шпінгалет зачынена. Дык што ж такое атрымліваецца? Як гэта вы нават не падыходзілі да акна? Хто ж мог яго зачыніць?!»

Думкі наскоквалі адна на адну, мяшаліся і хвалявалі яе надзвычай. Яна то перачытвала ліст, то згадвала тое акно... Ну, вядома, прабег раптоўны скразняк, але калі паверыць бабуліным словам, дык ніякага скразняку і не было. Акно зачыніў ейны Анёл-Ахоўнік, і гэта ўжо выглядае самай сапраўднай містыкай, ці, наадварот, Лідзе суджана дакрануцца да нейкай вялікай таямніцы, якая не кожнаму і прыадкрываецца. Не... Ліда неаднойчы чула ад бабулі і пра архангелаў прасветлых, якія калісьці будуць яе сустракаць на нябёсах, і пра тое, што дзесьці Там... некалі бабулю сустрэне дзед Хведар, які памёр

гадоў пятнаццаць таму назад. Мясцовы фельчар сказаў, што ў бабулі было кароткае летаргічнае забыццё і падчас гэтага забыцця ёй магло штосьці такое трызніцца, вось яна і напісала Лідзе... А шпінгалет сам саскочыў ад моцнага ўдару рамы.

І Ліда падышла да таго акна, расчыніла яго, падняла шпінгалет і з сілаю зачыніла раму. Шпінгалет не саскочыў уніз. Ён увогуле быў даволі тугім, значыцца, ён і ўчарашнім вечарам не мог саскочыць сам па сабе. Яна затаіла дыханне... Тады атрымліваецца, што ў яе сапраўды ёсць Анёл-Ахоўнік. У такім разе і тое, што піша бабуля пра Геніка, таксама можа быць праўдаю. Дык чаго ж яна марудзіць?! ёй трэба сабрацца і ехаць да маці. Гэта ж зусім. недалёка ад Мінска. За паўтары гадзіны яна даедзе да гарадскога пасёлка, а там нейкіх восем кіламетраў да іхняй Ніцаўкі. І ўжо дзесьці ля абеду яна будзе ў бацькоў. Маці сама прачытае гэты бабулін ліст, яна ж так шкадавала тады, што яго ніяк не маглі знайсці. І Ліда раскажа ёй, як іх хацелі абакрасці...

Ну, вядома, ей трэба зараз жа і паехаць. І яна выйшла на кухню, падумала, што яшчэ вып'е кавы... Зірнула на сцяну, дзе вісеў насценны каляндар, і ўся сцялася: нядзеля, адзінаццатага ліпеня! Той самы дзень, пра які згадвае бабуля. Як жа гэта яна забылася?! Учора ж адрывала лісткі з гэтага календара. Адарвала і ўчарашнюю суботу, а нядзелю пакінула. Паглядзела на гадзіннік: ды якое там ля абеду?! Яна можа быць у бацькоў і пад вечар, гэта — як ёй пашанцуе з аўтобусамі. «А мо гэта ўсё і няпраўда? — мільганула думка.— Бабулі ўявілася штосьці... падчас летаргічнага сну. А калі праўда? Тады ёй трэба тэрмінова патэлефанаваць аграномцы Галі, што жыве праз дзве хаты ад бацькоў, і папрасіць Галю, каб паклікала да тэлефона маці... Яна і раскажа ёй пра бабулін ліст і пра тое, што піша бабуля пра Геніка». І Ліда пайшла да тэлефона...

— Дык у вас жа дома нікога няма,— адказала ёй Галя.— Бацька твой на досвітку у дровы падаўся, каня у лясніцтве яшчэ звечара ўзяў, з ім і маці паехала. Тут жа ў нас чарніцы ўвесь лес засыпалі, дык хоча ягад набраць,

— Ну, а Генік? — запыталася Ліда.

— Ён з вядром, бачыла, ішоў мо з гадзіну назад... Напэўна, на возера з хлопцамі рушыў. Яны там усё ракаў ловяць.

І ў Ліды ўсё абамлела... Кінула трубку, чамусьці зноў узяла бабулін ліст, прабегла вачамі: «...Хай яна не адпускае Геніка на возера адзінаццатага ліпеня, таму што можа здарыцца бяда». А Генік пайшоў на возера, і яна не змагла, не паспела папярэдзіць маці! І Ліда склала

на грудзях рукі. Яна нічога іншага не магла прыдумаць, як звярнуцца да свайго Анёла-Ахоўніка.

«Калі ты сапраўды ў мяне ёсць,— горача зашаптала яна,— мой Анёл-Ахоўнік, калі тое, пра што напісала бабуля, праўда, дык дапамажы мне цяпер. І, можа, гэта будзе адзіная мая просьба да цябе, можа, я ніколі больш да нябе і не звярнуся. Уратуй Геніка, дапамажы яму, апыніся ў той момант ля яго, калі што такое павінна здарыцца! Паслухайся мяне, мой даражэнечкі заступнічак. Ты ж павінен ведаць Геніка, дык ці можаш ты дапусціць якую бяду?! Я ж пасля ніколі не дарую сабе, калі што ліхое адбудзецца! Ці ж у радасць табе будуць мае слёзы?! Міленькі, не адвярніся, пачуй мяне, зрабі ласку... Калі ты ад Бога, ты ўсё можаш!..» — і яна яшчэ доўга штосьці шаптала, а потым хутка сабрала дарожную сумку, праверыла, ці добра зачынены ўсе вокны, і пакінула кватэру.

Праз нейкія дзве гадзіны, як ёй і думалася, Ліда ўжо была ў маленькім гарадскім пасёлку. Надвор'е на вачах мянялася. Калі выязджала з Мінска, пякло сонца, а тут узняўся вецер, зусім не па-летняму рэзкі і халодны. З-за далягляду выплывала цяжкая чорная хмара, і дзесьці там, яшчэ далёка, раз-пораз успыхвалі маланкі, пагрымваў гром. Яна ўжо узяла білет на мясцовы рэйс і цяпер стаяла на ганку старога аўтобуснага вакзала. Да адпраўлення аўтобуса было яшчэ паўгадзіны. «Дык што ж там дома? — думалася Лідзе.— Ці вярнуліся з лесу бацькі? А Генік? Можа, і ён прыйшоў ужо з таго возера?! Што ж я трывожуся, непакоюся, калі можна набраць яшчэ раз Галін нумар!»

І Ліда сышла з ганка, у вочы сыпанула пылам, пяском... «Ну і вецер! Хутка ён аціхне, усё сцішыцца... І тады ліне дождж! Відаць, будзе моцная навальніца. А вунь і будка тэлефона-аўтамата ля газетнага кіёска, і нейкі мужчына ідзе да яе. Можа, яшчэ распачне нейкую сваю доўгую размову, а ў мяне няма часу чакаць»,— падумала Ліда і кінулася яму наперарэз, каб апярэдзіць, і ў той жа момант азірнулася на крык... Проста на яе ляцеў вялізны кавалак іржавай бляхі, якую вецер сарваў са старога вакзальнага даху, і гэта было апошняе, што яна бачыла ў сваім зямным жыцці.

А ў гэты самы час у бацькоўскай хаце на верандзе Надзея Хведараўна, ейная маці, перабірала чарніцы. Ягады брала чыста, і ўсё ж пракідваліся ігліца і дробныя лісточкі ягадніку. З трывогай пазірала на акно, за якім усё неба абклала цяжкая хмара. Успыхвалі зыркія маланкі, і адразу гучна ляскаў гром, і яна непакоілася, што яшчэ ні старога, ні Геніка няма дома. Ды вось, здаецца, ідзе Генік, мільганула ягоная кепачка. Бразнуў клямкай, спыніўся ў парозе...

— Чаго ж ты там стаў? — адазвалася яна,— Ідзі ў хату, паеш.

— Ты сварыцца будзеш,— сказаў Генік.

— Чаго гэта я сварыцца буду?

— Я пад карчы, што ля валуна, заплыў і ў водарасцях заблытаўся. Спужаўся дужа, ледзь выблытаўся, быццам дапамог хто. Мог захлынуцца!

І Надзея Хведараўна хацела штосьці крыкнуць на яго, але ўгледзела ў акно, што хтосьці бяжыць да іх у хату. І пазнала аграномку Галю. Адставіла чарніцы, выцерла аб хвартух рукі. А Галя як убегла на веранду, так і застыла...

— Ну, што ты, Галечка, мо што пазычыць прыйшла?

Галя не глядзела на яе, усё адводзіла і адводзіла вочы, а потым абняла Геніка, прыціснула яго да сябе і выдыхнула:

— Не, не, цётачка Надзя! Не магу я вам сказаць такога! Ліда ваша... Ліда... Вам у гарадскі пасёлак як мага хутчэй ехаць трэба!

І апошнія ейныя словы заглушыў вадаспад дажджу, які нізрынуўся з неба, ярасна і апантана, заліваючы ўсё наўкол. За вокнамі — шумела, цурчэла, стагнала...

Гэта плакаў Анёл-Ахоўнік.

1999

Баравікова Р.

Вячэра манекенаў: Апавяданні / Раіса Баравікова,— Мн.: Маст. літ, 2002.— 186 с.

ISBN 985-02-0575-Х.

Апавяданні гэтага зборніка напісаны ў жанры псіхалагічнай фантастыкі. Калі чалавеку пачынае надакучаць будзённая аднастайнасць зямнога свету ён шукае у сваіх думках снег паралельны. Менавіта гэты, паралельны, свет пісьменніца Раіса Баравікова вельмі арганічна ўпісвае ў свае творчыя фантазіі. У выніку атрымліваюцца займальныя і вельмі праўдзівыя сюжэты на темы жыцця і смерці, кахання і расчараванняў.

ДК 821.161.3-31
ББК 84(4 Беи)-44

Літаратурна-мастацкае выдстне
БАРАВІКОВА Раіса Андрэеўна
ВЯЧЭРА МАНЕКЕНАЎ
Апавяданні
Рэдактар Л. І. Каўрус Ілюстрацыі М. Ф. Барздыкі Вокладка У. П. Свентахоўскага Мастацкі рэдактар Л. М. Рудакоўская Тэхнічны рэдактар В. Ю. Серчанка Карэктары М. Ч. Пермякова, А. М. Анцытовіч Камп'ютэрная вёрстка Т. С. Звяркові́ч
Падпісана да друку 131102. Папера афсетная. Фармат 70x100'/,2Гарнітура Гарамонд. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк 7,80. Улік-выд. арк. 7,04. Тыраж 1700 экз. Заказ 2327.
Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 11.09-2000. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.